

Дзмітрый Гулецкі

# МАНЕТЫ БЕЛАРУСКАЙ ДАЎНІНЫ

УДК 737.1(476)
ББК 63.2(4Беи)
Г94

**Гулецкі, Дз.У.**

Г94 Манеты беларускай даўніны / Дзмітрый Гулецкі. — Мінск : Беларусь, 2007. — 159 с. : іл.

ISBN 978-985-01-0722-0.

У кнізе даны агульныя звесткі аб беларускай нумізматыцы дарасійскага перыяду. Пастаўленыя акцэнты дапамогуць студэнтам-гісторыкам, а таксама аматарам раскрыць сябе ў нумізматычным даследаванні. А захапіцца ў гэтай галіне беларускай гістарычнай навукі сапраўды ёсць чым.

Для шырокага кола чытачоў.

ISBN 978-985-01-0722-0

## Прадмова

Са сталеннем беларускай дзяржавы, якая ўвайшла ў новае стагоддзе ў зноў набытым стане незалежнасці і адноснай стабільнасці, перад даследнікамі, што ўрабляюць ніву айчыннай гістарычнай навукі, паўсталі якасна новыя задачы. Пры тым, што іншыя народы, якія мелі больш спрыяльны гістарычны шлях у XIX—XX стагоддзях, ужо развязалі падобныя праблемы ў той ці іншы час, несупынны працэс індустрыялізацыі дае беларусам шанц выкарыстаць новыя магчымасці камунікацыі і тэхналогіі, каб хутчэй выйсці на міжнародны ўзровень і ў гэткай галіне навукі, як нумізматыка.

Асэнсаванне нумізматычнага матэрыялу, што застаўся беларускаму народу ў спадчыну ад яго слаўных продкаў, патрабуе пэўнага досведу, кругагляду і любові да сваёй краіны і яе гісторыі. Разам з тым падобная праца не можа быць выкананая адным-двума людзьмі, бо неабходныя яшчэ строгасць і спеласць ацэнак, чаго нялёгка дамагчыся пры аднабаковым поглядзе. Зрэшты, гэтак можна сказаць пра любую справу, мэтай якой ёсць дабрабыт і абазнанасць супольнасці людзей, народа. Вялікая праца ў асэнсаванні нумізматычнай спадчыны ўжо была праведзеная такімі выбітнымі беларускімі навукоўцамі, як І. Колабава, В. Рабцэвіч, І. Сінчук, П. Харламповіч, М. Шчакаціхін і інш. Багата прац, што непасрэдна тычацца Беларусі і яе манет, было выдадзена таксама польскімі, літоўскімі, расійскімі, украінскімі даследнікамі. Існуе даволі шмат матэрыялу, падрыхтаванага на найвышэйшым навуковым узроўні. Даволі будзе назваць падмуркавую працу беларускай нумізматыкі Валянціна Рабцэвіча — кнігу «Нумизматика Беларуси». І ўсё ж такі колькасць маладых беларусаў, што прысвячаюць долю свайго жыцця нумізматыцы, — невялікая. Таму на гэтым полі ўсё яшчэ застаецца багата «неапрацаваных надзелаў». Варта не забываць, што нумізматыка мае не толькі дапаможна-гістарычную, але і выхаваўча-патрыятычную ролю, і ў гэтым, на мой погляд, яе неаспрэчная важнасць.

Гэтая кніга была задуманая аўтарам толькі як яго першая спроба намацаць шырыню краявідаў беларускай нацыянальнай нумізматыкі, убачыць у гістарычным ходзе эканамічных стасункаў паміж

народамі, што гралі свае пазітыўныя і адмоўныя ролі на працягу ўсёй гісторыі нашай зямлі, беларускі след і беларускі інтарэс ва ўсіх яго ўвасабленнях. Кніга ўяўляе сабой збор нарысаў, ці, лепей сказаць, акцэнтаў, што даюць даволі агульныя звесткі аб тых падзеях у беларускай нумізматыцы дарасійскага перыяду, якія, на погляд аўтара, найбольш вартыя ўвагі і глыбокшага вывучэння. Была зробленая спроба ў невялічкіх эсэ абагульніць думкі і высновы папярэдніх даследнікаў. Пры гэтым не ставілася задачы сказаць усё і пра усіх, роўна як пісаць артыкулы строгай навуковай мовай. Шэраг акцэнтаў, хаця і па найбольш значных падзеях, быў выбраны аўтарам адвольна — у гэтым кніга ніяк не можа лічыцца падручнікам. Хутчэй, гэта кніга-«размалёўка», якую чытачы набываюць, каб дапоўніць яе, унесці ў намаляваную карціну новыя фарбы. Задача гэтай кнігі простая — выклікаць інтарэс.

Аўтар спадзяецца, што пастаўленыя ім тут акцэнты дапамогуць студэнтам, што вывучаюць гісторыю, гэтаксама як і проста апантаным аматарам, раскрыць сябе менавіта ў нумізматычным даследаванні, абраўшы адпаведную тэму для курсавой альбо дыпломнай працы, артыкула альбо манографіі. Тым самым будзе зроблены важкі ўнёсак у агульную справу.

А захапіцца ў беларускай нумізматыцы сапраўды ёсць чым. Гісторыя грашовага абарачэння на Беларусі налічвае доўгія стагоддзі, цягам якіх нашыя продкі зведалі нямала войнаў, пошасцяў і галадамораў. Гэтыя негатыўныя з'явы, аднак, дазваляюць нам сёння азірнуцца назад і ўбачыць мінуўшчыну ў яе матэрыяльным увасабленні. Дастаткова ўзяць у рукі манету — драбнюткі кавалак кову, каб дазнацца так шмат пра тое, чым калісьці жылі яны, незалежна ад сваёй назвы: і беларусы-крывічы, і беларусы-ліцвіны, і безыменныя жыхары забранага краю. Так, як ні парадаксальна гэта гучыць, манета апынулася ў нашых руках перадусім «дзякуючы» перыядам ліхалеццяў. Бясцэнныя скарбы небарак-гаспадароў, што не паспелі паведаміць спадкаемцам аб месцы схавання дэпазіту, дажылі да нашых часоў і працягваюць цвяліць нам гістарычную памяць і прыносіць незабыўнае пачуццё повязі з мінулым. Зрэшты, дазволім чытачу самому ацаніць хараство і багацце праяўленняў беларускай нумізматыкі.



# НЕ ЗАСТАЛІСЯ ЎБАКУ

***Акцэнт першы:***
*Манетная справа Старажытнай Русі і ўдзел у ёй продкаў сучасных беларусаў.*

*Час Ізроя*

**Другая** палова X стагоддзя прынесла нам першыя больш-менш падрабязныя ўпамінанні аб дзяржаўных утварэннях на беларускіх этнічных тэрыторыях, якія былі ўцягненыя ў палітычную арбіту гэтак званага рускага свету, што складаўся з вялікага мноства раннефеадальных княстваў — вялікіх і малых. Трыма найбуйнейшымі цэнтрамі рускага свету ў канцы тысячагоддзя сталіся Кіеў палянаў, Полацк крывічоў і Ноўгарад славенаў. Гэтымі ж часамі датуюцца і першыя спробы арганізацыі ўласнай манетнай справы на Русі.

Яшчэ раней, у IX стагоддзі, пачалася экспансія арабскіх дырхемаў, звязаная з пашырэннем гандлёвых сувязей старажытнарускіх плямёнаў з краінамі Усходу. Гэтыя, напачатку высакапробныя, манеты эмітаваліся шматлікімі дынастыямі на працягу доўгага часу ў манетных дварах Азіі і Афрыкі. На Беларусі найбольшае распаўсюджанне атрымалі куфічныя дырхемы Абасідаў, Саманідаў і Умаядаў. Досыць часта ў скарбах трапляюцца часткі манет (паловы ці кварты). Разразанне дырхемаў з мэтай атрымання дробных грашовых адзінак было распаўсюджана ў тыя часы. Гэта, аднак, было не адзінай прычынай іх падзялення. З часам проба гэтых манет пагаршалася, і купцы лічылі абавязковым праверыць іх якасць перад прыняццем. Ці не ёсць яны насамрэч медзякамі, загорнутымі ў танюткую плёнку серабра? Масавае прыбыццё дырхемаў у рускі свет скончылася неўзабаве перад канцом першага тысячагоддзя, што было абумоўлена заціханнем іх эмісій на Усходзе.

Рубяжом тысячагоддзяў прыкладна датуецца выпуск першых сярэбраных і залатых манет кіеўскага князя Уладзіміра. Па сваіх метралагічных характарыстыках залатыя манеты адпавядалі візан-







*Куфічны дырхем*



*Нагата Уладзіміра Кіеўскага*

тыйскім солідам, а сярэбраныя — куфічным дырхемам, пашыранай тагачаснай назвай якіх, падобна, была «нагата». У пазнейшай гістарычнай навуцы за гэтымі манетамі замацаваліся штучныя назвы златнікаў і срэбранікаў, што ў выпадку з апошнімі нават фармальна не адпавядае рэчаіснасці, бо большасць срэбранікаў Уладзіміра — манеты білонавыя альбо чыста медныя. Аўтэнтычнага назову манеты да нашых часоў не захавалася. Можна хіба ўзгадаць летапіснае ўпамінанне аб раздачы «кунаў» Святаполкам у часе свайго княжання ў Кіеве ды частку легенд саміх манет у выглядзе формулы «а се его сребро (злато)». Аднак першы назоў хутчэй азначае зборны тагачасны панятак грошай (нагадаем, што і заходнерускае *грошы* (ад *грош*), *пенязі* (ад *пфенніг*) і ўсходнерускае *деньги* (ад *тенге*) з'явіліся пазней). Другая ж назва ўказвае на меркаваны метал эмісіі. Тым не менш, на мой погляд, цалкам дапушчальным і слушным уяўляецца ўжыццё пар золата—залаты, серабро—сярэбраны ў дачыненні да манет Кіеўскага княства. У гэтай жа працы будзем ужываць найменні, слушныя з гледзішча існуючае аналогіі з прататыпам гэтых тыпаў манет, гэта значыць адпаведна соліды і нагаты.



Повязь Уладзіміравых солідаў з Беларуссю прасочваецца ў іх знаходцы ў Пінскім скарбе 1804 года, які прэзентаваў новаму гаспадару свайго краю — расійскаму цару Аляксандру I — мясцовы шляхціц Рыдзеўскі. Сярод 20 залатых манет X стагоддзя, большасць з якіх адносілася да эмісій Візантыі, цікавасць прыцягнулі 6 арыгінальных солідаў з кірылічнымі надпісамі «Уладзімір на стале» і «Ісус Хрыстос». Гэтыя соліды Уладзіміра склалі большую частку вядомых манет падобнага кшталту на момант выхаду найпаўнейшага на сёння зводу першых манет рускага свету М. Сотнікавай і І. Спаскага ў 1983 годзе.

Адначасова быў адбіты і першы тып Уладзіміравых нагат. Іхні вонкавы выгляд падобны да выгляду солідаў — на адным баку змешчана выява вялікага князя і легенда «Уладзімір на стале», альбо «Уладзімір, а гэта ягонае срэбра»; на другім — выява Ісуса Хрыста і адпаведны надпіс.

З часам выява Ісуса была заменена на княскі знак Уладзіміра. Ён паўстае на трох астатніх тыпах нагат князя, якія, верагодна, выбіваліся амаль адначасова ў першай палове 1010-ых гадоў у розных майстэрнях, што абумовіла розніцу ў стылі іх выканання. Пераважная большасць нагат маюць невысокую пробу серабра. Гэта, найверагодней, было выклікана недасведчанасцю княскай адміністрацыі ў справе эмітавання грошай, якой карысталіся выканаўцы заказу, псаваўшы манету дзеля свайго пажытку. Апошнімі ж гадамі жыцця Уладзіміра датуецца і выпуск нагат ягоным сынам, наўгародскім князем Яраславам у сваёй сталіцы.

Вядомыя таксама тры тыпы манет наступцы Уладзіміра на пасадзе вялікага князя кіеўскага — Святаполка Яраполчыча. Дызайн манет яго кароткага валадарання застаўся ранейшым, але тамга Уладзіміра — трызуб — была замененая ўласнай тамгой Святаполка — двузубам з крыжам на адным з зубцоў. Апроч таго, пашырыўся звычай змяшчэння замест княскага партрэта і імя ў легендзе імя і партрэта ягонага святога патрона. Упершыню, верагодна, нагаты з гэткім матывам былі выбітыя ў Ноўгарадзе Яраславам, а найбольшая колькасць вядомых манет з імем святога належыць акурат Святаполку.







Нагата Святаполка



Нагата Святаполка з выявай св. Пятра

Сярод манет Уладзіміра вядомы толькі адзін экзэмпляр падобнага кшталту. Да неразвязаных пытанняў манетнай справы Святаполка адносяць значэнне асаблівых сімвалаў над тамгой князя — крыжа, якара і паўмесяца. На сёння даследнікамі не выпрацавана задавальняльнага тлумачэння сэнсу іх з'яўлення.

Першыя манеты Русі досыць часта знаходзяць на этнічна беларускіх землях, у межах жа сучаснай Беларусі вядома некалькі знаходак. На жаль, наогул дрэнны стан з фіксацыяй знаходак манет у XX—XXI стагоддзях, выкліканы недасканаласцю адпаведнага заканадаўства і кепскай арганізацыяй (перадусім фінансаваннем) археалагічнай працы, не дае нам сёння магчымасці ацаніць усю карціну распаўсюджання гэтых у цэлым рэдкіх манет на землях былых старажытнабеларускіх княстваў.

Апошнім часам навукоўцамі былі паднятыя пытанні аб беларускім следзе выбіцця нагат, якія на сёння яшчэ не атрымалі свайго грунтоўнага даследавання. Гэтак, найбольшую колькасць спрэчак выклікала манета нумар 203 з вышэйзгаданага зводу М. Сотнікавай і І. Спаскага. Атрыбутаваная Святаполку паводле зместу легенды, яна, тым не менш, нясе выяву княскага знака не Святаполка, а Уладзіміра. Аўтары зводу спісалі гэта на памылку разьбяра, што выглядае сумнеўным з-за выразнай розніцы паміж трызубам Уладзіміра і ўкрыжаваным з



аднаго боку двузубам Святаполка. Апроч таго, над княскім знакам не стае дадатковага сімвала, сустраканага на ўсіх пазнейшых кіеўскіх манетах Святаполка. Партрэт князя падобны да партрэта Святаполка з ягоных іншых, кіеўскіх нагат. Адзіная вядомая манета гэткага кшталту паходзіць са знакамітага Нежынскага скарбу з-пад Кіева, знойдзеная між прыкладна дзвюма сотнямі іншых нагат Уладзіміра і Святаполка. На падставе вышэйзгаданых фактаў сучасныя расійскія даследнікі Бялецкія сцвердзілі магчымасць аднясення гэтай манеты да васальных эмісій Святаполка яшчэ пры жыцці Уладзіміра, бо па смерці вялікага князя тамга губляла свой праўны статус. «Памылка» ж у галоўнай выяве манеты разам з аднячасовым знікненнем дадатковага знака выглядала б занадта адыёзным і, хутчэй, наўмысным крокам. Гэта дало падставу даследнікам аднесці манету нумар 203 да перыяду ўдзельнага княжання Святаполка Яраполчыча ў Тураве. Беларускі даследнік У. Юргенсон, згадзіўшыся з высновамі Бялецкіх, высунуў версію, што матывам васальнай эмісіі Святаполка магло быць абвяшчэнне яго пераемнікам Уладзіміра, а таксама згадаў «датаванае дзесятымі гадамі XI стагоддзя ўпамінанне аб эмісіі ў Тураве ўласных грошай». Гэтых доваў было б даволі для амаль бясспрэчнага сцвярджэння аб тым, што васальныя эмісіі Святаполка сапраўды мелі месца, але даследнік не спаслаўся на крыніцы сваёй інфармацыі, што ставіць ягоныя высновы пад пытанне і пакідае гэтую надзвычай важную для беларускай нумізматыкі праблему надалей у неразвязаным стане.

Падставы для сумневаў палягаюць яшчэ і ў тым, што далей у сваёй працы мінскі нумізмат відавочна «нацягвае» адзін з тыпаў кіеўскіх нагат Святаполка на шасцімесячнае княжанне полацкага князя Усяслава Брачыславіча ў Кіеве ў другой палове XI стагоддзя. Нягледзячы на багатую гістарыяграфію разнясення эмісій нагат па ўсім XI і нават пачатку XII стагоддзя, не вядомыя самі манеты, якія б неслі якуюсьці іншую тамгу апроч Уладзіміравай ці Святаполкавай. Праўда, тып манет Святаполка з добра чытальным імем ягонага святога патрона Пятра (у выглядзе ***ПЕТОР***) сапраўды мае трохі мадыфікава-





ны княскі знак. Гэта, а таксама вялікая колькасць манет кепскага выканання з нечытальнымі надпісамі, дало падставу ўсумніцца, ці былі эмісіі нагат скончаныя ў 1019 годзе, калі кіеўскім пасадам трывала авалодаў Яраслаў Уладзіміравіч. На самай справе, цягам яшчэ двух гадоў, у часе яго верагоднага супраўлення з Брачыславам Полацкім, магло паўстаць пытанне, манеты з якой тамгой біць далей — Яраслава ці Брачыслава. Яно магло быць развязанае шляхам асцярожнага эмітавання пераймання ў манет папярэдніх выпускаў. Але ўзнікае пытанне, чаму Яраслаў у часе свайго працяглага аднаасобнага княжывання гэтак і не выбіў кіеўскіх нагат са сваёй тамгой. Гэтыя манеты навуцы невядомыя. Найверагодней, у складаны час няпростай міжусобнай барацьбы выпуск нагат быў спынены назаўсёды. Не трэба забывацца, што становішча было абцяжаранае абмежаваным замежным забяспечаннем краю серабром, што прывяло ў будучым да наступлення гэтак званага безманетнага перыяду.

Перыядам барацьбы Яраслава са Святаполкам датуецца выпуск яшчэ аднаго тыпу «срэбранікаў» у Ноўгарадзе — маленькіх манетак вагой, прыкладна ўдвая меншай за вагу нагаты. Гэтыя сярэбраныя манеты звязваюцца з наборам замежнага войска Яраславам і патрэбай выплаты яму ў знаёмай еўрапейцам манеце, г. зн. пенязямі (дынарамі), якія б мелі падобныя метралагічныя характарыстыкі. У канцы Х стагоддзя пашыраюцца таксама гандлёвыя сувязі Полацкага, а праз яго і Ноўгарад — і іншых старажытнабеларускіх княстваў з Заходняй Еўропай. З пачаткам новага тысячагоддзя набывае сталы характар імпарт на нашыя землі еўрапейскіх пенязяў, бітых перадусім у Германіі, Чэхіі, Венгрыі, Францыі, Скандынавіі, Англіі, Італіі. Самастойныя эмісіі манет у раннесярэднявечнай Еўропе, якая была абслугаваная даўней пенязямі Рымскай імперыі і, у пэўнай меры, куфічнымі дырхемамі, насілі спачатку пераймальніцкі характар у адносінах да рымскіх пенязяў. Пачаткі біцця нямецкіх пенязяў, найбольш пашыраных на Беларусі, звязваюцца з імем Людвіка Немца, які памёр у 876 годзе. Пасля прадукцыя нямецкіх манетных двароў набыла шырокі маштаб, што спрыяла імпарту манеты, якая станавілася



міжнароднай, на Беларусь. У 60-ыя гады XI стагоддзя наплыццё пенязяў скначаецца, што было выклікана, як і ў выпадку з дырхемамі, вонкавымі прычынамі — значна ўпалі маштабы эмісій.

У цяперашні час беларускімі навукоўцамі мала ўвагі надаецца даследаванням гісторыі Севершчыны, верагодна, з-за таго, што большая частка гэтых, галоўным чынам этнічна беларускіх тэрыторый апынулася ў складзе іншых дзяржаў. Таму трэба перадусім акрэсліць, што ўяўляла сабой Северскае княства ў XI стагоддзі. Гісторыя гэтага дзяржаўнага ўтварэння не меней насычаная і вартая ўвагі, напрыклад, за слаўную гісторыю Полацкага княства. Паводле Яна Станкевіча, гаспадарства «абыймала прастору ля ракі Дзясны з прытокамі, ля ракі Сожа з прытокамі і ля вышняе й сярэдняе Акі з прытокамі... Вялікае княства Северскае складалі гэткія беларускія плямёны: усе Севяране, блізу ўсе Радзімічы, частка Дрыгавічоў (на правым баку Дняпра), усе Вяцічы. Гэткія былі найважнейшыя месты ў гэтым гаспадарстве: Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Старадуб, Любеч, Пуціўль, Рыльск, Курск, Трубчэўск, Бранск, Гомель, Ушчыж, Рэчыца, Масальск, Казельск, Мцэнск, Тула, Елец, Навасіль, Пронск, Каломна, Разань... Апрача таго, Севяране мелі сваю калёнію ля Азоўскага мора, ля ўтоку ракі Кубані ў гэтае мора, там, дзе цяпер Керч». Надзвычай аддаленую калонію севяране назвалі з уласцівым для беларусаў дасціпам — Тмутаракань.

Першым гістарычна вядомым князем северскім быў Амсціслаў Вялікі. Яму прыпісваецца пачатак эмісій мясцовых наследаванняў манетам Візантыйскай імперыі. Цяпер у скарбах з тэрыторыі былога Тмутараканскага княства даволі часта сустракаюцца як медныя, так і сярэбраныя манеты падобнага кшталту. Няма дастатковых простых довадаў, што выбіццё гэтых перайманняў пачаў менавіта Амсціслаў, таму неабходна сказаць і пра яго наступцаў.

Амсціслаў памёр у 1036 годзе, пасля чаго Севершчына трапіла пад васальны ўплыў Кіева. У 1054 годзе Яраслаў прызначыў чарнігаўскім удзельным князем свайго сына Святаслава, які пранікся мясцовымі інтарэсамі і праз усё жыццё кіраваўся імі ў сваёй палітыцы. У 1073 годзе ў выніку змовы Свя-









*Тмутараканскія наследаванні часоў Амсціслава ці Алега*

таслаў заняў кіеўскі велікакняскі пасад, а ў 1076 годзе памёр. Улада ізноў пераходзіць да Ізяслава Кіеўскага, які забірае і большую частку Севершчыны. Тмутаракань жа заставалася незалежнай. На чале ўдзелу стаяў князь Раман Святаславіч.

Але не ён, а іншы сын памерлага князя — Алег стаўся найбольш актыўным барацьбітом за незалежнасць Северскіх земляў. У 1078—1079 гадах адбыліся жорсткія сутычкі з кіяўлянамі, што скончыліся на карысць апошніх. У выніку Раман быў забіты, а Алег высланы ў візантыйскую няволю (успомнім тут і аналогію з полацкімі князямі). За кароткі час гэты северскі князь паспеў пакінуць матэрыяльныя сведчанні сваёй дзейнасці. Вядомы надзвычай рэдкія манеты, знойдзеныя на Таманскім паўвостраве, што І. Спаскі атрыбутаваў акурат Алегу, хрысціянскае імя якога было Міхаіл (Алег было імем княскім). На адным баку гэтых манет выяўлены архангел Міхаіл, а на другім змешчаная папулярная ў той час формула «Господи, помози Михаилу».

У 1094 годзе Алег вярнуўся спярша да Тмутаракані, а потым адбіў і сталічны для тагачаснай Севершчыны пасад у Чарнігаве. У выніку цяжкога змагання з Кіевам за незалежнасць северане канчаткова вызваляюцца з-пад апекі «бацькі гарадоў рускіх».



З канца XI стагоддзя ў рускім свеце распаўсюджваюцца ўнармаваныя па вазе грашовыя сродкі буйнога гандлю — сярэбраныя пруткі-грыўні. Пруткі і раней выраблялі як на Русі, так і ў іншых народаў, але яны не мелі сталай формы і вагі, гэта значыць не былі манетнымі. Самі манеты на той час заставаліся на рынках рускіх княстваў у нязначнай колькасці і былі прадстаўленыя ўжо досыць даўнімі эмісіямі. У скарбах часам выступаюць і даволі рэдкія залатыя пруткі.

Манетныя грыўні адліваліся ў розных рэгіёнах па розных вагавых стандартах, але мелі міжземнае хаджэнне. Іх знаходзяць пераважна ў скарбах, якія зусім не маюць дамешку манет. З эканамічным развіццём Русі пашырылася патрэба ў буйных аплатах, якія нязручна было ажыццяўляць у дробнай манеце. У прутках складаліся вялікія дэпазіты маёмасці і «купецкія капіталы», агульныя скарбцы «сумесных прадпрыемстваў» дробных гандляроў і княскія скарбніцы. Для штодзённых дробных разлікаў грыўні былі занадта буйной вартасці і ў іх амаль не ўдзельнічалі. Першыя летапісныя ўспаміны аб грыўнях адносяцца да 1140-ых гадоў.



*Кіеўская грыўня*

На думку большасці даследнікаў, найранейшай адзінкай такога кшталту была кіеўская грыўня. Яе вагавы нарматыў адпавядаў палове пашыранага на землях Кіеўскага княства візантыйскага фунта (163,73







*Наўгародскі рубель*

*Паўночнарускі рубель*





грама). Кіеўская грыўня мела шасцікутную форму і набыла свой класічны кшталт, верагодна, у самым канцы XI стагоддзя. Заставалася ж у абарачэнні яна да заваёвы Кіева татарамі.

У XII—XIII стагоддзях мелі абарачэнне і грыўні, падобныя да кіеўскіх, але павялічанай вагавой нормы — каля 204 грамаў. Традыцыйна падобныя пруткі называюць рублямі. Гэтая назва паўстала ў дачыненні да наўгародскіх грыўняў у канцы XIII стагоддзя. Арэал жа абарачэння шасцікутных псеўдакіеўскіх рублёў у асноўным абмяжоўваўся землямі Кіеўскага і Северскага княстваў. Лічыцца, што гэты тып пруткоў адлюстраваў спробы уніфікацыі грашовых сістэм поўдня і поўначы рускага свету.

Справа ў тым, што ў іншым, паўночным развітым гандлёвым цэнтры Русі — Ноўгарадзе крыху пазней за Кіеў распачалі эмітаванне сваіх унармаваных пруткоў-рублёў, якія заставаліся ў абарачэнні надзвычай доўгі час — да сярэдзіны XV стагоддзя. Наўгародскія рублі хутка сталі найбольш распаўсюджаным грашовым сродкам на тэрыторыі практычна ўсіх рускіх княстваў, у тым ліку крывіцкіх і



дрыгавіцкіх. У адрозненне ад кіеўскіх грыўняў, ёсць вялікая верагоднасць, што існавала некалькі цэнтраў вытворчасці рублёў, якія адліваліся па наўгародскай меры і кшталце.

Наступны, адзін з найбольш загадкавых тыпаў манетных пруткоў, з'яўленне якога цяжка звязаць з нейкім адмысловым цэнтрам, — так званы паўночнарускі рубель ромбападобнай ці эліпсападобнай формы. Ён мае крыху зменшаную сярэднюю вагу ў параўнанні з пруткамі наўгародскага тыпу — каля 197 грамаў. Гэты тып паўстаў у XII стагоддзі, трохі пазней за кіеўскі і наўгародскі. Арэал асноўнага распаўсюджання гэтых пруткоў — паўночная і паўночна-ўсходняя Русь. Аўтарытэт эмітэнтаў паўночнарускіх рублёў, верагодна, быў даволі нізкі, бо атрымаў распаўсюджанне звычай раскоўваць іх канцы дзеля праверкі коўкасці серабра, што мусіла пацвярджаць яго дабрыню.

Часта на сярэбраных прутках можна сустрэць старажытныя надпісы — гэтак званыя графіці. Найчасцей яны проста надрапаныя на грыўнях і рублях, але калі-некалі трапляюцца і набітыя. Звычайна гэта паганскія ці хрысціянскія імёны, пастаўленыя ў родным склоне, альбо проста ініцыялы. Найверагодней, яны мусілі абазначаць асабістую прыналежнасць прутка, напрыклад у касе «сумеснага прадпрыемства» дробных гандляроў. Найбольш распаўсюджаным з вядомых графіці, выкананых на наўгародскіх рублях адной рукой, ёсць графіці ***ПТРВА*** (Пятрова). Паказальна, што рублі з гэтымі графіці разышліся па розных скарбах, знойдзеных ад Міншчыны да Уладзіміршчыны ў сучаснай Расіі. Як помнікі старажытнарускай пісьмовасці, выкананыя ў часе, калі ўжо з'явіліся першыя рэгіянальныя адрозненні ў напісанні (фактычна — перыядзе першаснага адасаблення беларускай мовы ад свае старaславянскай «прамаці»), графіці захоўваюць у сабе вялікі патэнцыял для даследавання і атрыбуцыі сярэбраных пруткоў. Іхняе вывучэнне з нумізматычнага пункту гледжання, а таксама як пісьмовых помнікаў сярэднявечча мае надзвычай перспектыўны характар.

Шырока распаўсюджанай была практыка падзялення пруткоў на часткі дзеля атрымання фрак-







*Ізрой*

цыйных грашовых адзінак, найчасцей палцін — паловаў рубля. Напрыклад, пазнейшыя вялікалітоўскія пруткі рублёвай вагі сустракаюцца радзей, чым іх палціны. Платныя пруткі былі пашыраным грашовым сродкам у сярэднявеччы, і толькі шырокае іх выкарыстанне наступнымі пакаленнямі ў сваёй манетнай вытворчасці абумовіла іх сучасную рэдкасць.

Са згаданых вышэй манетных пруткоў найбольш пашыранымі на беларускіх землях у канцы XI — пачатку XIII стагоддзя былі кіеўскія грыўні. Разлікі грыўнямі да таго часу агарнулі ўжо ўсю Русь. Не маглі не ўдзельнічаць у іх і гэткія эканамічна развітыя крывіцкія гарады, як Полацк і Віцебск. Як ужо казалася раней, адкрытым застаецца пытанне, ці выпускаліся там нейкія мясцовыя грыўні. Так ці інакш, імі, бадай, маглі быць толькі рублі, якія формай і вагой пераймалі наўгародскія.

Прыкладна ў сярэдзіне XII стагоддзя з'яўляецца абсалютна новы від манетнага прутка — ізрой, які меў паўкруглае сячэнне і вагу ў межах 102—110 грамаў. Вялікая доля ізрояў мае зарубкі ці запілы, што спярша служылі для праверкі якасці кову, а потым, верагодна, засталіся проста як прадстаўнічыя, атрыбутыўныя элементы гэтага віду прутка.

Першыя летапісныя ўпамінанні ізроя звязаны з Віцебскам. Час іх узнікнення — канец XIII стагоддзя — супадае з першай згадкай назвы «рубель» у адносінах да наўгародскіх грыўняў. Гэтак, у грамаце рыжскіх ратманаў да віцебскага князя Міхаіла Канстанцінавіча (каля 1300 года) выказваецца скарга рыжанаў на крыўду, учыненую князем купцам-«немчинам». Міхаіл прапаноўваў купцам 10 ізрояў за ўпадабанага каня, але ў выніку ашукаў гандляроў.





У іншай грамаце таго часу рыжане крыўдуюць ужо на князевага брата, які «торговал... на 30 изроев. 17 изроев заплатил, а тринадесят изроев не заплатил». Гэтыя пісьмовыя звесткі сведчаць пра тое, што ізрой у канцы XIII стагоддзя ўжо быў досыць распаўсюджанай грашовай адзінкай на Віцебшчыне. Разам з тым ізрой пашырыўся і на іншых старажытнабеларускіх землях. У знакамітым Вішчынскім скарбе з сучаснай Гомельшчыны, датаваным сярэдзінай XIII стагоддзя, ізроі знойдзены разам з кіеўскімі і наўгародскімі грыўнямі.

Ізрой — першая пэўная аўтэнтычная, пацверджаная пісьмовымі крыніцамі назва грашовай адзінкі, што выраблялася на беларускіх этнічных тэрыторыях. Найменне, верагодна, паходзіць ад старaславянскага «изрыть», што адлюстроўвала тэхналогію вытворчасці пруткоў (адліццё ў формах у зямлі). Вядомыя таксама графіці са словам «ізрой» на гэтых прутках.

Паводле даных беларускага нумізмата Ш. Бекцінеева, вагавы норматыў ізроя прыкладна роўны 108 грамам. Навуковец кіраваўся ў сваіх даследаваннях пісьмовымі крыніцамі і знаходкамі гіракразнавагаў, датаванымі канцом XIII стагоддзя, і прыйшоў да высновы, што ізрой быў папярэднікам лічэбнай літоўскай капы. Ягоныя высновы выглядаюць асабліва пераканаўча, калі ўлічыць, што полацка-віцебская зямля была ў тым часе найбольш эканамічна развітай з усіх земляў, уцягнутых у палітычную арбіту ВКЛ. Аднак некаторыя сцвярджэнні тэорыі Бекцінеева пра развітую полацка-віцебскую манетна-вагавую сістэму выклікаюць сур'ёзныя пярэчанні, асабліва што тычыцца існавання ў пачатку XIV стагоддзя віцебскага рубля з тэарэтычнай вагой каля 189 грамаў, што не пацвярджаецца скарбавымі знаходкамі. Тым не менш даследаванні вартыя таго, каб быць працягнутымі.

Раз-пораз ізрой мянуецца даследнікамі заходнерускай ці літоўскай грыўняй, што залішне, бо захавалася летапісная назва. Паводле ўпамінання, першыя летапісныя ізроі дапушчальна называць віцебскімі грыўнямі, што, аднак, не азначае, што вытворчасць ізрояў трывала адзначалася найбольшымі памерамі менавіта ў гэтым горадзе. Шмат-





лікія знаходкі гэтых пруткоў далей на захад, на Віленшчыне кажуць пра тое, што маладая дзяржава Вялікае княства Літоўскае пераняла гэты від грыўні як першую ўласную грашовую адзінку. Тамтэйшыя скарбы пераважна датуюцца першай паловай XIV стагоддзя. Апошні скарб, які б месціў ізрой, датаваны 1365 годам. З часу выпадзення з абарачэння кіеўскай грыўні ізрой, натуральна, — найчасцей сустраканы від сярэбранага прутка ў скарбах Беларусі.


*Бектинеев, Ш.* Периодизация Полоцко-Витебской денежно-весовой системы (2-я половина XIII — XIV в.) / Ш. Бектинеев // «Numizmatika». № 1. Vilnius, 2000.

*Белецкий, В.* О монете № 203 корпуса древнейших монет России / В. Белецкий, С. Белецкий // Материалы VI Всероссийской нумизматической конференции. СПб., 1998.

*Ермаловіч, М.* Старажытная Беларусь / М. Ермаловіч. Мінск, 2001.

*Котляр, Н.* Северорусские («черниговские») монетные гривны / Н. Котляр // Древнейшие государства Восточной Европы. 1994 год. Новое в нумизматике : сб. ст. М., 1996.

*Мельникова, Е.* Эпиграфика древнерусских платежных слитков (в связи с надписями на гривнах клада из Бюрге, Готланд) / Е. Мельникова // Древнейшие государства Восточной Европы. 1994 год. Новое в нумизматике : сб. ст. М., 1996.

*Рябцевич, В.* Нумизматика Беларуси / Валентин Рябцевич. Минск, 1995.

*Сотникова, М.* Тысячелетие древнейших монет России / М. Сотникова, И. Спасский. Л., 1983.

*Станкевіч, Я.* Зь гісторыі Беларусі / Я. Станкевіч // Гістарычныя творы. Менск, 2003.

*Спасский, И.* Русская монетная система / И. Спасский. 2-е изд. Л., 1960.

*Юргенсон, У.* Атрыбутацыя манет, якія традыцыйна адносяць да эмісій Святаполка І Яраполчыча Тураўскага / У. Юргенсон // Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Усходняга Палесся : зб. арт. Гомель, 2006.

---

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі з інтэрнэт-старонак аўкцыёна *Gorny& Mosch*, *Classical numismatic group auction*, інфармацыйнага партала *zeno.ru* (з правамі ўладання карыстальніка *hfrans*, а таксама без пазначэння правоў уладання), Юрыя Барэйшы.

**Пры** канцы XIII стагоддзя ў Цэнтральнай Еўропе адбылася «сярэбраная» рэвалюцыя — у Кутняй Гары ў Чэхіі адкрылі нябачаныя даўней радовішчы серабра. Да сярэдзіны XIV стагоддзя там штогод здабывалася не менш за 20 тон чыстага серабра, што складала болей за траціну здабычы на ўсім кантыненце. Найбольш выгодна выкарыстоўваць перавагі вялікай колькасці каштоўнага металу можна было, выбіваючы манету добрай якасці дзеля абмену яе на замежны тавар. У ліпені 1300 года чэшскі кароль Вацлаў II пачаў эмісію пражскіх грошаў (ад лацінскага *grossus* — вялікі). Гэта была найбуйнейшая на свой час сярэбраная манета, якая набірала папулярнасць ва ўсёй Еўропе. Грошы былі яшчэ і





*Грош пражскі Вацлава II*

*Грош пражскі Яна*






*Грош пражскі Караля IV*

*Грош пражскі Вацлава IV*

*Грош пражскі Юрыя з Падзябрадаў*

*Грош пражскі Уладзіслава з Ягайлавічаў*

аднымі з найпрыгажэйшых манет. Доўгая легенда гатычнымі літарамі, змешчаная ў два абтокі на аверсе і адзін абток на рэверсе, чыталася як *+WENCEZLAVS SECVNDVS / +DEI:GRATIA:REX:BOEMIE / *+* GROSSI:PRAGENSES,* што азначала «Вацлаў Другі, Божай ласкай кароль Багемскі; грош пражскі». Каб манеты былі зроблены сапраўды на сусветным узроўні, да Чэхіі былі запрошаныя фларэнцыйскія






*Грош пражскі Людвіка з Ягайлавічаў*




*Грош пражскі Фердынанда I*

разьбяры штэмпеляў — Райнгера, Альфарда і Ціна Ламбарда.

Гэткі тып манет не быў новым. Упершыню «вялікая манета» была выбіта ў Францыі за 34 гады да пачатку эмісій Вацлава. Яна стала ратункам ад псуцця і драбнення традыцыйных сярэбраных пенязяў у сярэднявечнай Еўропе, якія ўжо цяжка было не зламаць, беручы ў руку. Манета атрымала назву турскага гроша і шырокае прызнанне ў народзе і сярод урадаў, якія пасьпяшаліся пачаць свае эмісіі.

З пражскай грыўні вагой 253,26 грама мусіла выходзіць 66 манет, што давала тэарэтычную вагу адной манеты ў 3,837 грама. Аднак рэальная вага грошаў Вацлава II, як і ягонага наступцы ў выбіцці грошаў Яна Люксембургскага, найчасцей ляжала ў межах 3,5—3,7 грама, да чаго прычыніліся тайныя распараджэнні манархаў, якія жадалі даставаць болей прыбытку са сваёй манетнае рэгаліі. У вірлівы перыяд чэшскай гісторыі з 1305 па 1310 год гэтыя манеты не эмітаваліся, хоць свае сілы на каралеўскім пасадзе спрабавалі ажно тры нешчаслівыя прэтэндэнты — Вацлаў III (быў забіты перад каранацыяй), Рудольф I Габсбуржанін (раптоўна памёр), Індрых Карутанскі (гвалтоўна пазбаўлены ўлады).

Урэшце ў краіне ўсталявалася палітычная стабільнасць.Валадаром стаў Ян I. Да канца яго праў-







Грош пражскі з фальшывай кантрамаркай г. Амберга



Грош турскі Філіпа IV (1285—1314)

лення (1346) дэвальвацыя пражскага гроша была відаць толькі ў нязначным паніжэнні пробы да 905-ай у сярэднім. За часамі ягоных наступцаў, Караля IV і Вацлава IV, абясцэненне манеты набывае трывалы характар. Якасць выбіцця істотна зніжаецца.

У гэты перыяд у Чэхіі з'яўляюцца надзвычай цікавыя манеты — тоўстыя грошы. Папулярнасць пражскага гроша, які станавіўся асноўнай міжнароднай валютай на вялікім геаграфічным абшары, спрычынілася да выбіцця праклямацыйных манет павялічанае вагі, што выдаваліся паслам у падарожжы да чужых двароў. Тоўстыя грошы мусілі сведчыць аб багацці чэшскага караля.

Бітыя ў вялікіх колькасцях, пражскія грошы разыходзіліся па ўсёй Еўропе, асабліва важную ролю адыграўшы на яе ўсходзе, які на той час не меў сваіх развітых грашовых сістэм.

У Польшчы на прыклад пражскага гроша каралём Казімірам Вялікім (гаспадарыў у 1333—1370 гадах) быў адбіты свой грош — кракаўскі. Ягоны дызайн імітаваў дызайн свайго прататыпа.

Польская лічэбная грыўня другой паловы XIV стагоддзя раўнялася 60 кракаўскім грошам альбо 48 пражскім. Гэтыя суадносіны (5 да 4) зацвердзіліся пасля ў ВКЛ і праіснавалі да рэформы Стафана Баторыя ў 1578 годзе. Роля наступцы праж-







*Грош люксембургскі Вацлава (1353—1383), брата Караля IV Чэшскага*

*Рэал наварскі Карласа II (1349—1387)*

скага гроша ў гэтай лічэбнай сістэме дасталася грошу літоўскаму, перш за ўсё лічэбнаму, а потым і манетнаму.

Найважнейшую ролю адыгралі пражскія грошы ў станаўленні грашовай сістэмы ВКЛ. Ужо ў XIV стагоддзі яны дасталі шырокае прызнанне ў краіне, стаўшы ў шэрагу з грыўнямі асноўным сродкам унутранага і знешняга гандлю як з Захадам, так і з Усходам (перадусім з Наўгародскай рэспублікай).

Перад беларускімі даследнікамі яшчэ стаіць пытанне аб тым, калі ўпершыню пражскія грошы пачалі адыгрываць важную ролю ў грашовым абарачэнні розных частак нашай дзяржавы. Найверагодней, істотнае пранікненне чэшскай манеты адбылося ў часы валадарання Караля IV, ці нават раней. Найвялікшая ж плынь грошаў палілася ў Беларусь з пачатку XV стагоддзя. Праз пэўны час па смерці Вацлава IV у 1419 годзе масавы прыток пражскіх грошаў на землі нашай дзяржавы прыпыняецца. Ягоныя грошы найбольш пашыраныя ў манетных скарбах Беларусі, аднак ступень іх захавання найгоршая перад грошамі ўсіх ягоных папярэднікаў.








*Грош люксембургскі Вацлава IV Чэшскага (1378—1419)*




*Грош малы, г. Нансі (Францыя), Караль II (каля 1400 года)*

Абмежаваныя па колькасці эмісіі новых уладароў Чэхіі сярэдзіны XV — сярэдзіны XVI стагоддзя не набралі ўжо былой папулярнасці ў ВКЛ, але манеты першых чатырох эмітэнтаў працягвалі сваё курсаванне. Асабліва гэта тычыцца грошаў Вацлава IV, бо даўнейшыя высакапробныя грошы перш за ўсё адбіраліся з абарачэння і пераплаўляліся: як у Чэхіі, гэтак і ў нас. Познія пражскія грошы на Беларусь практычна не трапілі (вядомая толькі адзіная знаходка гроша Юрыя з Падзябрадаў).

У першай палове XVI стагоддзя пражскія грошы выбіваліся, між іншым, у Яўхімаве, разам са знакамітымі яўхімсталерамі. У 1527 годзе кароль Фердынанд I выбіў першы датаваны пражскі грош. На жаль, ён жа назаўсёды спыніў эмісіі гэтай знакамітай манеты дваццаццю гадамі пазней. Гаспадар-аўстрыец зрабіў гэта самым ганебным чынам. На апошнім тыпе гроша з 1547 года чэшскі леў быў арыентаваны гэтак, нібы ён стаіць на чатырох лапах, сімвалізуючы страту Чэхіяй незалежнасці.

Асобная група пражскіх грошаў — грошы, контрамаркаваныя нямецкімі гарадамі. Гэта рабілася дзеля адрознення добрай манеты Вацлава IV ад нізкапробнага прадукту гусітаў і іншых тагачасных











Усходнееўрапейскія манеты, «прабацькам» якіх быў пражскі грош:

*кракаўскі грош Казіміра Вялікага*

*галіцкі грошык Ягайлы*

*віленскі грошык (пенязь) Ягайлы*

*падольскі грошык Канстанціна*

падробак. На грашах менавіта гэтага ўладара і сустракаюцца найчасцей кантрамаркі. На жаль, у цяперашні час рэдчыня контрамаркаваных манет сталася нагодай для спекуляцыяў — на шкоду калекцыянераў, пашырылася надбіццё сапраўдных грошаў фальшывымі кантрамаркамі.

Як ужо адзначалася, вялікая і больш-менш якасная манета карысталася найвялікшым даверам у





старажытных беларусаў і істотна паўплывала на фарміраванне адметнай грашовай сістэмы Вялікага княства. За аснову першых манет ВКЛ была ўзятая грашовая адзінка, роўная палове пражскага гроша Караля. Пражскі грош Вацлава IV, які ў часы Вітаўта меў курс 10:1 у адносінах да літоўскага пенязя, выступіў у ролі прататыпа лічэбнага літоўскага гроша. Ён стаўся краякутным каменьчыкам у падмурку дзесяцічнасці грашовай сістэмы ВКЛ, што праіснавала прыкладна 170 гадоў. Утрыманне серабра ў манеце адпавядала таксама 1/100 літоўскага рубля ў пачатку XV стагоддзя.

Метралагічны стандарт пражскага гроша паслужыў прыкладам для выбіцця і іншых усходнеславянскіх манет канца XIV стагоддзя — галіцкіх грошыкаў, эмітаваных яшчэ з часоў, калі край зваяваў польскі кароль Казімір Вялікі, а таксама падольскіх грошыкаў Канстанціна Карыятавіча. Абедзве гэтыя манеты мелі курс у палову пражскага гроша і адпавядалі свайму наміналу па вазе, за чым уважліва сачылі.

У наўгародскіх пісьмовых крыніцах пачатку XV стагоддзя ёсць успаміны пра тое, што наўгародцы ў гандлі замест кунаў сталі ўжываць... грошы літоўскія. Паколькі ніякіх літоўскіх грошаў на той час не эмітавалася, дый не знаходзяць манет ВКЛ у заўважных няўзброеным вокам кольскацыях на Наўгародчыне, відавочна, што храніст меў на ўвазе грошы пражскія. Яны рэгулярна паступалі ў Вялікі Ноўгарад з беларускага боку, і таму наўгародцу падалося, што гэтыя грошы эмітуюцца на Беларусі, гэта значыць на Літве.

Дзякуючы сваёй аднолькавай якасці, якая з 1419 года больш не пагаршалася, пражскі грош заставаўся асноўным платным сродкам краіны да канца XV стагоддзя. Не знік ён з абарачэння і ў шаснаццатым — стагоддзі росквіту вялікалітоўскай манетнай справы. З цягам часу курс гроша праз дэвальвацыю мясцовых міналаў спаў да 14 пенязяў ВКЛ.

*Бектинеев, Ш.* Денежное обращение Великого Княжества Литовского в XIII—XV вв. / Шамиль Бектинеев. Минск, 1994.

*Гулецкі, Дз.* Манеты Беларусі (да 1707 г.). ІЗРОЙ-MAGDUCLIT 2007. Даведнік / Дзмітрый Гулецкі, Аляксандр Грамыка, Аляксандр Крываручка. Мінск, 2007.

*Рябцевич, В.* Нумизматика Беларуси / Валентин Рябцевич. Минск, 1995.

*Smolík, J.* Pražské groše a jejich díly (1300—1547) / J. Smolík Praha, 1899.

---

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі з інтэрнэт-старонак аўкцыёнаў *Nummus, Aurea* (Прага), *Poznański Dom Aukcyjny*, Юрыя Барэйшы, Алега Пагарэльца.

# СВЕДЧЫМ ПРА СВАЮ АДМЕТНАСЦЬ

*Акцэнт трэці:*

*Рускі свет: два полюсы.*

*Зараджэнне развітых грашовых сістэм*



**XIV** стагоддзе прынесла на землі летапіснай Русі не толькі шырокую плынь пражскіх грошаў, але і ўзнаўленне ўласнай манетнай вытворчасці. На той час заходняя суседка Вялікага княства Літоўскага — Польшча — ужо мела даволі працяглыя традыцыі манетнай справы. Пашыраныя даўней мясцовыя і еўрапейскія пенязі ўжо не задавальнялі патрэбаў эканомікі краіны, і гэта прычынілася да з'яўлення новых, буйнейшых наміналаў. У пачатку стагоддзя ў розных рэгіёнах краіны сталі выбівацца квартнікі. Кароль Уладзіслаў Лакетак у 1320-ыя гады здзейсніў спробу эмісіі першых польскіх залатых фларынаў. Ягоны сын Казімір Вялікі працягваў біць пенязі і квартнікі, а таксама рэдкія паўквартнікі. Была ажыццёўлена спроба выпуску папулярных у Еўропе грошаў. Пры гэтым Казімір дбаў пра цэнтралізацыю як улады, так і манетнай справы ў гаспадарстве. Ягоным жыццёвым крэда быў тэзіс: «Адна дзяржава і адна манета». Польскія манеты за Казімірам выконваліся на высокім мастацкім узроўні. З'явіліся зробленыя ў густоўным стылі партрэтныя манеты. Ініцыятыве Казіміра таксама належыць пачатак выбіцця рускіх грошыкаў у Львове ў 50-ых гадах XIV стагоддзя.



*Польскі паўквартнік Казіміра Вялікага*





У другой палове XIV стагоддзя з'яўляюцца і першыя манеты ВКЛ. Гэты перыяд манетнай справы яшчэ недастаткова даследаваны, некаторыя тыпы манет вядомыя навуцы меней за дзесяцігоддзе, а ў бліжэйшай будучыні імаверна адкрыццё новых тыпаў, якія могуць дапоўніць і нават змяніць існую класіфікацыю. Пісьмовыя звесткі пра дзейнасць тагачасных манетных двароў не захаваліся, таму ўсе спробы сістэматызацыі даследаванняў манет маюць пэўную долю верагоднасці.



*Северская манета без імя князя (верагодна, 1350-ыя гады)*

Першыя ўдзельныя манеты ўсходу Вялікага княства Літоўскага, якія, верагодна, былі і першымі манетамі вялікалітоўскіх князёў увогуле, маюць характар перайманняў і, як правіла, нясуць золатаардынскія матывы калі не на абодвух, дык на адным з бакоў. Датаванне гэтых анэпіграфных манет выклікае найбольшыя спрэчкі. Галоўнае пытанне, у якое ўпраецца дакладнае вызначэнне даты эмісій, — чаму за прыклад быў абраны гэты, а не той тып ардынскай манеты? Ці магло прайсці шмат часу паміж выбіццём арыгінала і перайманне? І калі магчыма і тое, і другое, дык што было найбольш верагодна ў канкрэтных гістарычных умовах?

У 2003 годзе каля старажытнага гарадзішча Алексін (цяпер Тульшчына, Расія) быў знойдзены







*Пенязь Уладзіміра Альгердавіча з пляцёнкай, Кіеў (канец 1360-ых — 1370-ыя гады)*

*Пенязь Уладзіміра Альгердавіча са знакам IS, Кіеў (1370—1380-ыя гады)*

скарб манет XIV стагоддзя, у якім сярод абсалютнай бальшыні золатаардынскіх дзенгаў і старадубскай манеты князя Аляксандра была і манета з вершнікам на адным баку і наследаваннем дзензе Джанібека, якая выбівалася каля 1345—1348 гадоў, — на другім. Вядома яшчэ адна падобная манета, выбітая той жа парай штэмпеляў. На падставе стылістычных асаблівасцей манет і даследаванняў кіеўляніна К. Хромава беларускі нумізмат А. Грамыка зрабіў выснову, што гэта мясцовыя северскія наследаванні пачатку 1350-ых гадоў, адбітыя яшчэ да ўваходжання пераважна беларускай Северпічыны ў склад ВКЛ у 1362 годзе. Сутнасць тэорыі К. Хромава палягае ў тым, што між выпускам арыгінальных ардынскіх манет, якія біліся ў непасрэднай блізкасці ад Кіеўскай і Чарнігава-Северскай земляў, і выпускам наследаванняў не магло прайсці шмат часу, бо ардынскія манеты біліся ў дастатковай колькасці і даволі хутка замяшчаліся новымі, якія і браліся за ўзор. Таму час выбіцця наследаванняў мог спазніцца максімум на 2—3 гады адносна прататыпа. Гэтае меркаванне дапамагло беларускаму даследніку датаваць і некаторыя іншыя манеты ўдзелаў ВКЛ. Зазначу, што ёсць нямала даследнікаў, якія не падтрымліваюць гэтага пункту гледжання. Галоўным чынам таму, што вядомы выключэнні з гэтага пра-





віла, хоць і рэдкія. Яны датуюць гэтую манету пазнейшым часам.

Куды ж сягаюць пачаткі манетнай справы Вялікага княства? Эмісіі ўласных манет на тэрыторыі Кіеўскага княства, падобна, найстаражытнейшыя сярод усіх земляў, што ўваходзілі ў склад ВКЛ. Яшчэ раней першыя мясцовыя перайманні дзенгаў Джанібека, эмітаваных у Гюлістане ў 1352—1353 гадах, верагодна, выбіваліся з другой паловы 1350-ых, перад далучэннем Кіеўскага княства да ВКЛ (1362). Асноўныя месцы знаходак гэтых манет — Кіеўшчына і Сумшчына, але ёсць і знаходка з-пад Гродна ў цяперашняй Беларусі, вагой 0,53 грама.

Пасля далучэння Кіеўскага княства да ВКЛ на кіеўскі пасад сеў адзін са старэйшых сыноў Альгерда — Уладзімір, які распачаў біццё сваіх уласных манет, магчыма, ужо ў 1360-ыя. Дакладна акрэсліць дату пачатку грашовых эмісій Уладзіміра пакуль не выпадае. Вагавыя характарыстыкі наследаванняў Джанібеку паказваюць, што ў Кіеўскім княстве яшчэ раней пачала складацца арыгінальная грашовая сістэма, якая лягла ў аснову манет Уладзіміра Альгердавіча. Але ж новыя кіеўскія манеты нічым не нагадвалі папярэднія наследаванні. Гэта цалкам арыгінальныя манеты, на адным баку якіх быў змешчаны асабісты клейнод князя, а на другім — яго імя, напісанае кірыліцай па коле. Выраблялiся яны па тэхналогіі, запазычанай з Залатой Арды, — з сярэбранага дроту. Серабро выцягвалася ў доўгі дрот, які пасля разразаўся нажніцамі і раздушваўся ўдарам молата. Атрыманы кавалак і быў манетнай загатоўкай. Гэтая тэхналогія была зручнай і менш працаёмкай, чым выцінанне, выдатна пасуючы да вытворчасці дробных пенязяў.

Найбольш раннія ўдзельныя манеты Уладзіміра Альгердавіча можна падзяліць на два тыпы, якія адрозніваюцца паміж сабой сярэдняй вагой і выявай у цэнтры манеты: з пляцёнкай і са знакам у выглядзе «IS». На сённяшні дзень няма адназначнага тлумачэння гэтых сімвалаў. Верагодна, што пляцёнка нясе характар чыста дэкаратыўнага «вузла шчасця», які шырока распаўсюджаны на татарскіх манетах менавіта ў гэтым значэнні.

Знаходкі манет Уладзіміра Альгердавіча досыць рэдкія, яны галоўным чынам паходзяць з Кіеўшчыны







*Дзенга стрададубскага князя Аляксандра Нарымонтавіча з кірылічнай легендай і імем Пятра (канец 1360-ых гадоў)*

*Дзенга стародубскага князя Патрыкея Нарымонтавіча (1370-ыя — сярэдзіна 1380-ых гадоў)*

і Чарнігаўшчыны, але вядомыя таксама знаходкі з поўдня Украіны, Крыма, Кубані і Віленшчыны. Аналіз вядомых скарбаў паказвае, што першапачатковая нарматыўная вага выбіцця гэтых манет складала каля 0,60—0,65 грама. Манеты з пляцёнкай біліся параўнальна нядоўга, а са знакам «IS», наадварот, — працяглы час. Яны і сталіся асноўным тыпам манет у грашовым абарачэнні Кіеўскага княства, пры гэтым іхняя вага пастулова зніжалася.

У 1362 годзе Альгердам да ВКЛ былі далучаныя і Северскія землі, дзе свае ўдзелы атрымалі ягоныя сыны Дзмітрый і Канстанцін, пазней Дзмітрый-Карыбут, а таксама нашчадкі старэйшага брата Альгерда — князі Нарымонтавічы. Большасць гэтых князёў біла свае ўдзельныя манеты, якія разам з кіеўскімі манетамі Уладзіміра Альгердавіча склалі аснову ўласных грашовых сістэм, што існавалі на ўсходніх тэрыторыях ВКЛ у другой палове XIV стагоддзя.

На памежных землях з Улусам Джучы, у тым ліку і на ўскраінных землях самой Залатой Арды, вядомы эмісіі мясцовых перайманняў. Гэтыя выпускі былі залежныя ад шматлікіх палітычных ды эканамічных чыннікаў, аднак часцей за ўсё мелі





сваёй мэтай папаўненне нястачы гатовай манеты на мясцовым рынку. Арабскія легенды перайманняў часта зусім нечытальныя, што гаворыць аб няведанні майстрамі арабшчыны, а легенда пераймалася проста як малюнак. Северскія ўдзельныя манеты наследуюць найбольш распаўсюджаным залатаардынскім манетам, якія абарачаліся ў гэтым рэгіёне. Іх разьбяры мелі на мэце толькі візуальнае падабенства да арыгінала.

Да манет, якія атрыбутуюць князям Нарымонтавічам, належаць наследаванні залатаардынскім дзенгам з так званым «княскім знакам» і наследаванні без знакаў, якія на падставе стылістычных асаблівасцяў можна аднесці да эмісій на тэрыторыі Старадубскага княства. Група дзенгаў з княскім знакам не аднародная па сваёй вазе і стылю выканання. Сярод іх вылучаюцца дзве групы манет.

1. Манеты з княскім знакам і кірылічным надпісам ***ПЕҮТЬ КNЗЯ ОЛКСNДРА*** («пячатка князя Аляксандра») вакол. Другі бок манет гэтае групы наследуе татарскім дзенгам Джанібека II з 1365—1366 гадоў; вага каля 1,45 грама.

2. Манеты з княскім знакам, але без кірылічных надпісаў, за аснову якіх узяты тып манет Мухамеда Буляка 1370-ых гадоў; вага каля 0,9 грама.

Існуюць і манеты без княскага знака, якія таксама наследуюць манетам Мухамеда Буляка. Перайманні без княскага знака аналагічныя манетам са знакам паменшанай вагі стылістычна, метралагічна, храналагічна і па тэхналогіі выраблення — загатоўкі маюць большы дыяметр адносна наследаваных манет, але малую таўшчыню. Яны выразаныя з аркуша металу ці перабітыя з іншых ардынскіх манет і даведзены шляхам абцінання да нарматыўнай вагі. Верагодна, манеты гэтых тыпаў біліся адначасова і належаць аднаму эмітэнту.

Асноўная колькасць вядомых манет гэтых тыпаў паходзіць з Кіеўшчыны, Тульшчыны і Браншчыны, гэта значыць з рэгіёнаў у межах гістарычнай Севершчыны альбо побач з ёю. Асабліва частыя знаходкі ў Клінцоўскім раёне, у непасрэднай блізкасці ад Старадуба.

З гістарычных крыніц вядома, што ў апошняй траціне XIV стагоддзя княствам валодаў Патрыкей



Нарымонтавіч. Пасля Патрыкея Нарымонтавіча Старадубскае княства перайшло да ягонага сына Аляксандра, які ў 1398 годзе падпісаў дамову з Ордэнам, а ў 1401 годзе склаў прысягу Ягайлу. Захаваліся сціплыя звесткі і пра другога Аляксандра – старэйшага брата Патрыкея Нарымонтавіча. Да 1338 года ён быў намеснікам свайго бацькі ў Арэшку (Вялікі Ноўгарад), потым адкліканы ў ВКЛ. Далей звесткі пра яго губляюцца. Не выключана, што Аляксандр браў удзел разам з Альгердам у паходзе 1362 года на Северскія землі, дзе і атрымаў ва ўдзел Старадуб, які па яго смерці адышоў пад аднаасобнае кіраванне Патрыкея.

Існаванне двух Аляксандраў у княскай галіне Нарымонтавічаў выклікала жарсныя спрэчкі сярод нумізматаў у пытанні, хто ж з іх быў эмітэнтам манет першай групы. Больш моцнае гістарычнае абгрунтаванне мае гіпотэза аб прыналежнасці перайманняў Аляксандру Патрыкеевічу. Тым не менш, нягледзячы на недастатковасць звестак, нельга выключаць магчымасць выбіцця перайманняў яшчэ ў канцы 1360-ых гадоў князем Аляксандрам Нарымонтавічам. Апроч вышэйзгаданай тэорыі Хромава пра гэта сведчыць і высокая вага перайманняў, не характэрная для ардынскіх манет 1390-ых гадоў, а таксама неспрыяльная для пачынання новых мясцовых эмісій палітычная сітуацыя ў краіне на рубяжы 1390-ых гадоў.

Манеты Аляксандра з легендай па-старабеларуску маюць цікавую асаблівасць — на некаторых з іх зверху ад княскага знака стаяць маленькія літары ***ПТ-Р***, што мусіла азначаць імя манетнага майстра — Пятра. Існуе і іншае прачытанне гэтай міні-легенды, высунутай мінскім даследнікам Юрыем Барэйшам. На яго думку, гэта скарачэнне ад «Патрыкеевіча», імя па бацьку князя-эмітэнта.

Калі ўсё ж дапусціць, што манету першай групы біў Аляксандр Нарымонтавіч, то можна патлумачыць і з'яўленне манет другой вагавой групы — Патрыкея Нарымонтавіча, брата Аляксандра, якія маглі біцца паміж 1372—1380 гадамі.

Суадносіны татарскіх і северскіх манет Патрыкея былі 2:3. Адметна, што менавіта такія ж суадносіны мелі татарскія і маскоўскія дзенгі.





Апошнія пачалі біцца ў Маскве каля 1381 года. Годам раней Дзмітрый Маскоўскі здзейсніў паход на Севершчыну, дзе на пэўны час захапіў гарады Бранск, Трубчэўск, Старадуб. Магло стацца, што грашовая сістэма Старадубскага княства нейкім чынам магла паўплываць на абранне падобнай грашовай сістэмы Дзмітрыем Маскоўскім. Верагодна, пасля гэтага паходу біццё манет у Старадубе спынілася, а Патрыкей Нарымонтавіч пакінуў княства і больш манеты не біў. Найбольш познія северскія перайманні, якія атрыбутуюцца яму, наследуюць эмісіям Мухамеда 1375—1376 гадоў, а значыць, біліся не раней чым у самым канцы 1370-ых.



*Манета Дзмітрыя Бранскага*

Верагодна, біў манеты і Дзмітрый Альгердавіч Бранскі. Нядаўна стала вядома аб існаванні дзенгі перайманьнага тыпу, найбольш верагоднае прачытанне легенды якой — ***ПЄҮАТ К[NA]ZA Д[М]НТР[А].*** Яе рэверс наследуе дзензе хана Гіяс ад-Дзіна Мухамеда, эмісіі Арды ў 1371—1372 гадах. Паходзіць гэтая манета з Браншчыны. Некаторыя даследнікі атрыбутуюць яе, а таксама яшчэ адну манету, аб існаванні якой вядома ўжо болей за 50 гадоў, акурат Дзмітрыю. Ён прыкладна з 1370 года быў бранскім князем, а з сярэдзіны 1370-ых гадоў — трубчэўскім. У выніку паходу Дзмітрыя Маскоўскага на Северскія землі ў 1380 годзе ён страціў свае северскія ўладанні і перайшоў на службу да апошняга. Пасля 1380 года гэтыя землі былі перададзеныя ў валоданне Дзмітрыю-Карыбуту Альгердавічу, малодшаму брату Дзмітрыя Бранскага.

Другая дзенга, апроч кірылічнай легенды, мае і своеасаблівы княскі знак, падобны знаку Уладзіміра Альгердавіча. Легенда, як і ў папярэднім выпад-



ку, размешчана ў два радкі па коле манеты, супраць стрэлкі гадзінніка, і, верагодна, мела чытацца як *ПЕЧАТЬ... ДМИТРЕВА*.

Існуе і трэцяя манета, атрыбутаваная Дзмітрыю. Яе вага складае 1,30 грама. А.Грамыку ўдалося прачытаць асобныя часткі легенды яе аверса як *ПЄ... KZA ДМ...Т...* Другі бок манеты, як і папярэдніх дзвюх, наследуе дзензе хана Мухамеда.

Вышэйзгаданыя тры манеты выкананыя на даволі нізкім мастацкім узроўні, але прачытанне іх легендаў дазваляе дапусціць верагоднасць удзельнага біцця манет Дзмітрыем Бранскім каля 1373—1376 гадоў у сваім удзеле.

Малады і амбітны Дзмітрый-Карыбут Альгердавіч таксама не застаўся ўбаку ад «эмісійнай ліхаманкі», што ахапіла Севершчыну. Упершыню манета, атрыбутаваная гэтаму ноўгарад-северскаму князю, была апублікаваная ў 1868 годзе графам Кёнэ. Ён прачытаў на манеце кірылічны надпіс ***Д КОРНБТВА,*** змешчаны вакол мяча з аднаго боку манеты (з другога боку было наследаванне арабскаму пісьму). У 1913 годзе іншы расійскі нумізмат М. Догель апісаў падобную манету, якая розніцца ад першай наяўнасцю княскага знака. З дзвюх апісаных манет Карыбута да сённяшняга часу захавалася толькі адна. Яна знаходзіцца ў Эрмітажы ў Санкт-Пецярбургу. Болей манет падобнага тыпу не знаходзілі. Існуе думка, што да сведчанняў барона Кёнэ трэба ставіцца з пэўнай доляй скептыцызму, на што ўказваў яшчэ А. Кіркор, пішучы ў сваёй «Манетнай справе ў Літве» (1869), што «нататкі п. Кёнэ могуць нават увесці ў зман менш знаёмага з тутэйшай гісторыяй».

Аднак існаванне сапраўдных дзенгаў падобнага тыпу цяжка аспрэчыць, бо матывы гэтых манет добра кладуцца ў канву манетнай справы ўсходу Вялікага княства ў апошняй чвэрці XIV стагоддзя. Яны наўрад ці маглі быць прыдуманыя, бо на той час іншыя манеты ўсходу Вялікага княства яшчэ не атрымалі належнай атрыбуцыі. Можна крытычна ставіцца да дакладнасці пададзенай расійскімі даследнікамі інфармацыі, але няможна ставіць пад сумнеў яе агульны змест.

Першае ўпамінанне пра Дзмітрыя-Карыбута датуецца толькі 1381 годам, калі ён, ужо як ноўга-





рад-северскі князь, адмовіўся прысягнуць Кейстуту, што захапіў велікакняскі пасад. Верагодна, пасля спусташэння Севершчыны Дзмітрыем Маскоўскім у 1380 годзе і пераходам да яго на службу некаторых удзельных северскіх князёў Карыбут атрымаў вялікія землі на Севершчыне, што зрабіла яго адным з найбуйнейшых феадалаў у ВКЛ.

Загадкавым ёсць з'яўленне на адной з манет Карыбута княскага знака, якім карысталіся князі Нарымонтавічы ў канцы 1360—1370-ых гадоў. Найбольш верагодна, што пры выразанні штэмпеля манетнымі майстрамі Карыбута ў якасці прататыпа былі ўзятыя старадубскія манеты Патрыкея Нарымонтавіча, якія, безумоўна, былі вядомыя ў суседнім Ноўгарад-Северскім удзеле. Гэтыя пробныя, ці малалікія, манеты Дзмітрыя-Карыбута маглі паходзіць прыкладна з 1380 года.

Скарбы з літоўска-ардынскага памежжа, перадусім Северскіх княстваў і Кіеўшчыны, маюць вялізнае значэнне для дакладнага датавання першых манет ВКЛ. Яны часта месцяць манеты Залатой Арды, на якіх пазначаўся год выбіцця, што дазваляе прыкладна датаваць і першыя велікакняскія манеты ВКЛ. Усход ВКЛ у вялікай ступені быў звязаны ў грашовых стасунках з татарамі, шмат у іх пераймаў і вучыўся. Найбольш знакаміты скарб літоўскіх манет з сучаснай украінскай тэрыторыі — Баршчоўскі (Кіеўшчына, адкрыты ў 1947 годзе, захаваны каля 1380 года). Апроч ардынскіх манет у ім было багата кіеўскіх, колькі северскіх і адна велікакняская манета, што месціла надпіс ***ПЕЧАТЬ*** пабеларуску з аднаго боку і наверша дзіды з роўнабаковым крыжам — з другога.

Гэты манетны тып, верагодна, быў першым, выбітым у сталічнай Вільні. Ён пачаў эмітавацца ў канцы 1370-ых гадоў, магчыма яшчэ Альгердам. Найбуйнейшы скарб манет гэтага тыпу знойдзены ў 1933 годзе ў ковенскім прадмесці Шанцах. Яго манетную частку складалі 90 грошыкаў тыпу ***ПЕЧАТЬ / Наверша дзіды з крыжам*** і чатыры найбольш раннія варыяцыі грошыкаў малдаўскага гаспадара Пятра Мушата, выбітыя паміж 1377 і 1387 гадамі.

Што ж паслужыла штуршком для пачатку эмісій уласнай манеты ў Вільні? Існуе меркаванне, што



гэта магло адбыцца не раней за міжнароднае прызнанне ВКЛ хрысціянскай дзяржавай, бо манеты нясуць на сабе сімволіку хрысціянства — крыж. Гэта здарылася 2 снежня 1375 года, калі канстанцінопальскі патрыярх Філафей пасвяціў у мітрапаліта «кіеўскага, рускага і літоўскага» Кіпрыяна, што азначала атрыманне Вялікім княствам статуса праваслаўнай дзяржавы. Узровень рынкавых адносін на той час таксама патрабаваў ад уладара ўвядзення ўласнай дробнай манеты поруч са сродкамі буйнога гандлю — сярэбранымі пруткамі і прывазнымі пражскімі грошамі.

Біццё манет прыпыняецца пасля захопу ўлады Кейстутам і зняволення Ягайлы на пачатку 1381 года. Па аднаўленні сваёй улады праз год Ягайла працягнуў біццё манеты, якая захавала свой ранейшы выгляд, але страціла ў якасці з-за няўстойлівасці «нованароджанай» цэнтралізаванай грашовай сістэмы ВКЛ і жадання эмітэнта даставаць болей прыбытку са сваёй манетнай рэгаліі.

Фактычна першыя велікакняскія манеты адпавядалі па вазе палове пражскага гроша Караля. Некаторыя з іх былі перабітыя з рускіх грошыкаў Людвіка Венгерскага, бітых у Львове па стапе, прывязанай да пражскага гроша, да 1382 года. Аднак са стратай якасці манеты ***ПЕЧАТЬ / Наверша дзіды з крыжам*** упалі і ў курсе.

Тым часам стапу рускіх грошыкаў бралі за ўзор не толькі ў Вільні. Колькі гадоў таму ўкраінскім даследнікам А. Пагарэльцу і Р. Саўваву ўдалося атрыбутаваць вельмі рэдкія манеты, якія маюць легенду, напісаную гатычным шрыфтам: Av: ***MONETA CONSTATINI***, Rv: ***D H DOMINI DE SMOTRIC***, што азначае «манета Канстанціна, князя, дзедзіча і гаспадара Смотрыча». Стала вядома імя эмітэнта, а таксама тытул князя і месца выбіцця — Смотрыч, які ў XIV стагоддзі быў першай сталіцай Падольскага княства. Гэтае княства заснавалі князі Карыятавічы — сыны новагародскага князя Міхаіла-Карыята, якія разам з Альгердам удзельнічалі ў разгроме татар на Сініх Водах у 1362 годзе і атрымалі ў валоданне адваяваную Падольскую зямлю. Сярод Карыятавічаў быў і Канстанцін, які валодаў Падоллем каля 1382—1390 гадоў.

Манеты важаць каля 1 грама і маюць наступны дызайн: з аднаго боку змешчаная выява святога Юрыя Пераможца, які дзідай забівае цмока, — родавы герб Карыятавічаў, з другога — наследаванне гербу венгерскай каралеўскай дынастыі ў выглядзе тарчы. Па сваёй стапе манеты Канстанціна падобныя да львоўскіх (рускіх) грошыкаў, а вонкавым выглядам нагадваюць венгерскія манеты, распаўсюджаныя ў гэтым рэгіёне. Падобны выгляд і метралогію мелі таксама манеты суседняй Малдовы, таму, відавочна, грошык Канстанціна носіць пераймальны характар, але выкананы на высокім еўрапейскім узроўні. Ён меў курс, роўны рускаму грошыку Людвіка Венгерскага, эмітаванаму да 1382 года, які заўсёды быў эквівалентны палове пражскага гроша.

Пасля смерці Людвіка ў 1382 годзе эмісія рускіх грошыкаў спынілася, што выклікала пэўную нястачу гатовай манеты на рынку, у тым ліку і ў суседнім Падоллі, дзе аснову грашовага абарачэння складалі менавіта рускія грошыкі. Брак прывазной манеты вымагаў ад Канстанціна распачаць уласныя эмісіі. Пасля прыезду ў Галічыну Уладзіслава Апольскага ў 1385 годзе біццё рускіх паўгрошаў аднавілася, і яны зноў пачалі паступаць на Падолле ў значнай колькасці. У гэтых умовах эмісіі грошыкаў Канстанціна страчвалі эканамічную мэтазгоднасць і, відаць, былі спыненыя.

З грамат вялікага князя Вітаўта 1418—1429 гадоў вядома пра існаванне так званых «падольскіх паўгрошкаў». У гэтым выпадку мы маем справу з цікавым замяшчэннем паняткаў на працягу нейкіх сарака гадоў. Грошыкі Канстанціна былі падольскімі, і лагічна было б дапусціць, што ў граматах Вітаўта ўпамінаюцца менавіта яны. Аднак там ідзе гутарка пра значныя сумы парадку 60—100 грыўняў, манет жа Канстанціна на сёння вядома толькі пяць экзэмпляраў. Вельмі рэдкія знаходкі грошыкаў Канстанціна сведчаць аб нязначнасці эмісіі. За такі тэрмін ягоныя манеты не маглі працягваць курсаваць на Падоллі ў якасці найбольш распаўсюджаных манет. Такім чынам, летапісныя «падольскія паўгрошкі», верагодна, насамрэч — галіцкія грошыкі. Гэта пацвярджаюць шматлікія іх знаходкі як на











*Грошык львоўскі Казіміра Вялікага*

*Грошык львоўскі Людвіка*

*Грошык львоўскі Уладзіслава Апольскага*

*Пул львоўскі Людвіка*

Галіччыне, дзе яны эмітаваліся, так і на суседнім Падоллі.

Гісторыя эмісій галіцкіх (рускіх) грошыкаў уяўляе сабой надзвычай важны складнік гісторыі зараджэння развітых грашовых сістэм на Русі ў XIV стагоддзі. Нягледзячы на тое што гэтыя манеты біліся ад імя польскіх каралёў, галіцкая сістэма заставалася адасобленай ад польскай да 1401 года, калі







*Грошык львоўскі Ягайлы*

Львоўскі манетны двор перайшоў на выбіццё паўгрошаў па польскай стапе. З гэтага часу грашовая сістэма Галіччыны губляе сваю адметнасць.

Вернемся да пачаткаў апанавання гэтак званай Чырвонай Русі палякамі. У 1349 годзе адбылася выправа караля Казіміра Вялікага на Львоў, па якой Галіцка-Валынскае княства канчаткова перастае існаваць. Да 1352 года вядзецца несупынная вайна за Галіччыну паміж Польшчай, Венгрыяй і Вялікім княствам Літоўскім. Вялікалітоўскі князь Любарт Гедзімінавіч, што меў спадчынныя прэтэнзіі на княства, быўшы зяцем апошняга з двух галіцка-валынскіх князёў — Льва II Уладзімірскага, зацята абараняўся, але не змог утрымаць усю Галічыну пры сабе. У 1352 годзе была падпісана дамова, згодна з якой Львоўская і Люблінская землі адышлі да Польшчы, а Уладзімірская, Луцкая, Бэлзская, Хелмская і Берасцейская засталіся за ВКЛ.

У сярэдзіне 1350-ых Казімір распачаў у Львове эмісію галіцкіх грошыкаў. Паколькі дагэтуль найбольш пашыранай манетай у Галіцка-Валынскім княстве быў пражскі грош, іхняя стапа дастасоўвалася да апошняга і грошык адпавядаў роўна палове чэшскай манеты. І далей грашовая палітыка аўтаноміі праводзілася гэткім чынам, што стапа львоўскіх манет мянялася адпаведна са зменамі стапы грошаў. На працягу ўсяго перыяду выбіцця грошыкаў іхні курс не мяняўся. Гэтыя суадносіны абавязвалі і наступцаў Казіміра, нягледзячы на палітычныя гульні ў дыпламатычнае перацягванне зямлі паміж Польшчай і Венгрыяй за часамі Людвіка Венгерскага і ягонага стаўленіка, князя апольскага Уладзіслава. Як ужо гаварылася ў сувязі з падольскімі эміссіямі Карыятавічаў, Уладзіслаў біў рускія грошыкі



не толькі ў часе свайго намесніцтва на Галічыне ў 1372—1378 гадах, але і пазней, у 1385—1386 гадах, калі ён, насуперак волі Польшчы, паспрабаваў аднавіць там сваю ўладу. Апошнія грошыкі па выгнанні Уладзіслава выбіў Ягайла ў 1389—1399 гадах. Назва галіцкай манеты «грошык» не раз сустракаецца ў пісьмовых крыніцах.

Інакш справа была з другім гатункам львоўскіх манет — меднымі пуламі. Яны не адносіліся да чэшскай, ані нават польскай грашовых сістэм, якія наогул не ведалі медных манет. Пулы мелі пераменны курс у адносінах да грошыкаў, бо прывязваліся да традыцыйна развітага ўсходняга накірунку гандлю Галіцкай зямлі, дзе медзяныя наміналы эмітаваліся татарамі. Так, ужо ў трэцяй чвэрці XIV стагоддзя Галічына мела сваю гнуткую і добра распрацаваную грашовую сістэму, заснаваную як на «заходніх» манетных гатунках — пражскім грошы і мясцовым грошыку, так і на «ўсходнім» — медным пуле.

Тым часам у Польшчы са смерцю Казіміра Вялікага занікла дынастыя Пястаў. Людвік Венгерскі і



*Пенязь Ядвігі, г. Познань (каля 1384 года)*

каралева Ядвіга адзначыліся толькі эмісіямі дробных пенязяў. Краіне была патрэбная новая магутная дынастыя. У 1385 годзе адбылася Крэўская унія паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай. Згодна з ёй, Ягайла прыняў каталіцтва і стаў каралём Польшчы. Ліцвіну давялося рэфармаваць польскую манетную сістэму, увёўшы замест былых квартнікаў новыя паўгрошы і трацякі, якія спярша мелі назву квартнікаў вялікіх і малых адпаведна.

Каронныя трацякі Ягайлы нагадваюць па сваім стылі найбольш папулярную з яго літоўскіх манет — пенязь тыпу ***Герб Ягайлы / «Пагоня»***, выбіваны







*Пенязь літоўскі Ягайлы тыпу* ПЕЧАТЬ/ЛЕЎ

ў Вільні падчас намесніцтва ягонага брата Скіргайлы, які заняў гэты пасад у 1386 годзе. Са Скіргайлам звязаны новы этап у вялікалітоўскай манетнай справе. Да атрымання фактычнай улады ў гаспадарстве Вітаўтам (у 1392 годзе) пенязі ВКЛ выбіваліся паралельна з рознымі матывамі, часам на розным мастацкім узроўні, што можа сведчыць пра аддание паасобных выпускаў на адкуп у розныя, канкуруючыя майстроўні. Верагодна, ужо ў тым жа годзе былі выбітыя першыя манеты з ільвом, што быў гербам Скіргайлы. Гэта яшчэ была не класічная геральдычная выява заходняга кшталту, а выява міфічная. Па-над ільвом быў змешчаны ўсходні дэкаратыўны элемент — пляцёнка. Падобная аздоба змяшчалася на шмат якіх усходнерускіх манетах, а таксама на манетах Уладзіміра Альгердавіча Кіеўскага. На другім баку пенязя па-ранейшаму заставалася слова ***ПЕЧАТЬ***. Вядома менш за два тузіны гэткіх манет, таму малаверагодна, каб яны біліся болей за адзін-два гады. Яны найцяжэйшыя з усіх паслякрэўскіх манет Ягайлы.

Падобна, з гэтага ж 1386 года пачынаецца біццё пенязяў з тварам з аднаго боку і львом з пляцёнкай — з другога. Прыналежнасць партрэта дагэтуль ёсць прадметам жарсных спрэчак даследнікаў, бо лацінамоўная легенда, што ўпершыню з'явілася на манетах ВКЛ паабапал партрэта, толькі дробнымі часткамі трапляла на паасобныя экзэмпляры. У выніку яе рэканструкцыі атрымалі словы ***MAGNA REGINA,*** што азначае «Вялікая Каралева». Найбольш верагодна, што гэтыя словы адносяцца да Маці Божай і на пенязі выяўленая акурат яна. Матыў культу Божай Маці ўказваў на паварот рэлігійнага курсу дзяржавы ад праваслаўнай да каталіцкай царквы. Такім чынам абвяргаліся довады галоўнага на той час ворага ВКЛ — Ордэна рыцараў Дзевы Марыі —







*Пенязь літоўскі Ягайлы тыпу* ТВАР/ЛЕЎ *(каля 1387—1388 гадоў)*

*Пенязь літоўскі Ягайлы тыпу* ТВАР/ГЕРБ КНЯЗЯ *(каля 1387—1388 гадоў)*

аб схізме ці нават паганскасці велікакняскай улады, што часта былі зачэпкай для нападаў на беларускія землі. Тым не менш існуюць версіі аб прыналежнасці партрэтнай выявы польскай каралеве Ядвізе ці нават Ягайлу. Першыя партрэтныя пенязі з лацінамоўнай легендай хутка былі замененыя новымі, з імітацыяй легенды і стылізаваным тварам. Гэтак, верагодна, запрошаныя з Заходняй Еўропы майстры нядоўга папрацавалі ў Віленскім манетным двары, ізноў саступіўшы месца мясцовым кадрам.

Унікальная партрэтная манета паходзіць з-пад старажытных Гальшанаў. На ёй замест ільва паўстала першая, не самая ўдалая спроба выявы геральдычнага сімвала заходняга кшталту — падвойнага крыжа, асабістага герба Ягайлы. Ён змешчаны ў нетыповай чатырохкутнай тарчы, канцы крыжа выходзяць за яе межы да абводкі. Нягледзячы на заходні генэзіс гэтага сімвала як геральдычнага, ягонае выкананне яшчэ цалкам «рускае», няправільнае з геральдычнага пункту гледжання. Наўкол герба кірылічны надпіс, з якога чытаецца тры літары — ***ЯГА***. Гэты тып адносяць да эмісій Ягайлы каля 1388 года.

На працягу таго ж перыяду выбіваўся і шэраг манет з іншымі матывамі. Пры раскопках Віленскага Дольняга замка былі выяўленыя дзве манеты з ільвом





*Пенязь літоўскі Ягайлы тыпу «ПАГОНЯ»/ГЕРБ КНЯЗЯ, падтып з «класічнай» «Пагоняй», перыяд трэці*

*Пенязь літоўскі Ягайлы тыпу «ПАГОНЯ»/ГЕРБ КНЯЗЯ, падтып з «архаічнай» «Пагоняй», перыяд трэці*





з аднаго боку і «ягелонскім» арлом — з другога. Гэткі сімвал замясціў «пястаўскі» тып арла ў якасці дзяржаўнага герба Польшчы ўжо ў самым пачатку ўладарання Ягайлы, што добра відаць з параўнання польскіх манет Ядвігі і Ягайлы. Адзінае відавочнае адрозненне ад герба «саюзнай дзяржавы» складала тое, што на вялікалітоўскай манеце арол паўстаў без кароны. Намінал гэтай манеты немагчыма вызначыць, бо абодва знойдзеныя экзэмпляры пашкоджаныя, таму пакуль няма падставаў сцвярджаць, што з'явіўся нейкі новы гатунак манет. Краіна працягвала эмітаваць выключна пенязі.

Таксама з тэрыторыі Дольняга замка паходзіць іншая унікальная манета, на якой з аднаго боку змешчаны падвойны крыж у трохкутнай тарчы, а з другога — леў. Абапал Ягайлавага герба (цяпер ужо ў геральдычна слушным выглядзе, але ўсё яшчэ з пабочнымі элементамі — кропкамі ўнутры тарчы) і над ім выяўленыя тры колачкі, а на персях ільва — крыж у выглядзе кратаў.

Іншы даволі рэдкі тып манет Ягайлы — пенязі з ягоным гербам і рыбай, скручанай у кальцо, вакол якой — легенда па-старабеларуску. Сустракаюцца манеты двух падтыпаў: тыя, што маюць абапал тар-



чы арнамент з кропак, і іншыя — з арнаментам з усходніх «сэрцападобных» пляцёнак. Даволі загадкавая сімволіка рыбы-пярсцёнка. Калі гэта насамрэч рыба, яна можа сімвалізаваць прызнанне Вялікага княства каталіцкай краінай папам Урбанам VI у 1388 годзе.

Найбольш распаўсюджаным сярод усіх тыпаў манет Ягайлы ёсць тып ***Герб Ягайлы / «Пагоня»***. Гэтыя манеты біліся на працягу прыкладна 5 гадоў, пачынаючы з 1387—1388 гадоў, і маюць ажно тры перыяды выбіцця, што паддаюцца выдзяленню.

Манеты першага перыяду маюць на адным баку выяву падвойнага крыжа ў трохкутнай тарчы (на гэты раз — зусім класічнай з пункту гледжання заходняй геральдыкі) і легенду ***+КНЯЗЬ ЯГАІЛО***; на другім выяўлены вершнік на кані з дзідай і такая самая легенда. Манеты другога перыяду адрозніваюцца іншым выглядам «Пагоні», блізкім да «класічнага», або «Ягайлава», — вершнік трымае меч перад сабой. У трэці перыяд з'яўляецца «архаічная» «Пагоня», дзе вершнік трымае меч рукой, адведзенай за спіну. Але працягваліся выбівацца і манеты з папярэднімі тыпамі «Пагоні» — з дзідай і мячом перад вершнікам. Праўда, яны трошкі змянілі свой кшталт, што можна патлумачыць прыходам у манетны двор новых майстроў. «Пагоня» трапляецца павернутай у абодва бакі, легенда ледзьве прасочваецца, часта зусім не чытаецца. Манеты трэцяга перыяду складаюць каля 80% ад агульнай колькасці вядомых пенязяў гэтага тыпу.

На працягу 1390—1392 гадоў адбылася рэзкая дэвальвацыя манет Вялікага княства. У тыя гады вялося актыўнае змаганне паміж Ягайлам і Вітаўтам за ўладу ў краіне, што і стала адной з галоўных прычын хуткага псуцця манеты. Асабліва ў час вайны адчуваўся дэфіцыт серабра, выкліканы бракам уласных радовішчаў. Да 1390 года пенязі мелі даволі стабільную вагу і высокую пробу, а затым хутка замясціліся ў абарачэнні менш якаснымі. Ягайла і далей, ужо на польскім каралеўскім пасадзе, не надта прытрымліваўся прынцыпу выбіцця якаснай манеты. Як сведчаць польскія крыніцы, кароль «у справах манетарных кіраваўся вылучна даходам».

У пачатку 1390-ых на манеты ізноў вярнуўся сімвал «наверша дзіды з крыжам». На новай мане-





це Ягайлы ён змяшчаўся поруч з асабістым гербам вялікага князя. Нягледзячы на афіцыйны статус ВКЛ як каталіцкай дзяржавы, абсалютна большая частка насельніцтва заставалася праваслаўнай, з чым прыходзілася лічыцца Ягайлу, а пасля і Вітаўту. Мітрапаліт Кіпрыян не страціў сваіх пазіцый у дзяржаве, а наадварот, у 1389 годзе рашэннем канстанцінопальскага патрыярха Антона быў абвешчаны мітрапалітам «кіеўскім і ўсяе Русі». Такім чынам, ВКЛ афіцыйна прызнавалася канстанцінопальскім патрыярхам за цэнтр праваслаўя ўсіх рускіх земляў, уключна з Масквой. Магчыма, якраз гэтая падзея паслужыла матывам для выбіцця новых пенязяў з праваслаўнай сімволікай. Манеты нагадваюць па вонкавым выглядзе пенязі Вітаўта ***Герб Вітаўта / Наверша дзіды з крыжам***, што сталі першай масавай эмісіяй Вялікага княства.

Такім чынам, за кароткі перыяд паміж 1386 і 1392 гадамі было выбіта 8 толькі асноўных матываў дробных манет, што складалі, праўдападобна, адзін намінал. Першыя пенязі канца 1370-ых гадоў адпавядалі палове пражскага гроша, але з цягам часу значна страцілі ў вазе: да сярэдзіны 1380-ых яны адпавядалі 1/3—1/4 гроша, а на пачатку 1390-ых гадоў ужо меней за 1/5. Ужо за Вітаўтам пенязям быў нададзены пастаянны курс 1/10. Няма, праўда, пісьмовых доказаў, што першыя манеты ВКЛ называліся менавіта пенязямі. Вядома, што здавён на Беларусі пенязямі зваліся найдрабнейшыя манеты грашовага абарачэння. Слова «пенязі» выкарыстоўвалася таксама ў якасці збіральнага панятка грошай. За падставу для выбару манетна-вагавой стапы першых пенязяў мог паслужыць досвед рускіх земляў у складзе Польшчы, якія з часоў Казіміра Вялікага білі свае грошыкі, дастасаваныя па вазе да пражскага гроша як 1/2. Таму, па аналогіі, першыя манеты ВКЛ тыпу ***ПЕЧАТЬ / Наверша дзіды з крыжам*** маглі звацца грошыкамі, але, як ужо згадана вышэй, пісьмовымі крыніцамі гэта не пацвярджаецца. Наогул пражскі грош быў паноўнай манетай у грашовым абарачэнні Усходняй Еўропы да Дняпра і нават далей, таму выглядае лагічна, што за аснову была ўзятая кратная менавіта яму адзінка.

Першыя манеты Вялікага княства былі самастойным наміналам, які меў пераменны курс ад 1/2



да 1/10 да пражскага гроша на працягу 15 гадоў з канца 1370-ых да 1392—1393 гадоў. Толькі ў выніку рэформы Вітаўта пенязь быў трывала прывязаны да пражскага гроша ў наватарскай для сярэднявечча дзесяцічнай прапорцыі (10:1). Грашовая сістэма ВКЛ цалкам сфарміравалася на доўгія гады, набыўшы гарманічны выгляд: 1 рубель = 100 пражскіх грошаў = 1000 пенязяў.

Удзельныя князі таксама спрабавалі пагадзіць грашовыя сістэмы сваіх краёў з ужо даволі развітай сістэмай метраполіі. Гэтак, моцна знізіўся вагавы нарматыў выбіцця кіеўскіх манет Уладзіміра Альгердавіча. У самым канцы 1380-ых тут пачынаецца біццё новага тыпу манет — з візантыйскім крыжам, у кутках якога размешчаны чатыры кропкі вагой каля 0,25—0,30 грама. Змяшчэнне сімвала хрысціянства на цэнтральнае месца манет, найверагодней, было выклікана ўжо згаданым абвяшчэннем Кіпрыяна, што жыў у Кіеве, мітрапалітам усяе Русі. Такім чынам, горад зноў станавіўся сталіцай праваслаўя.

Некаторыя даследнікі сцвярджаюць і пра існаванне аднабаковых манет Уладзіміра вагой каля 0,15



*Пенязь Уладзіміра Альгердавіча з крыжам, Кіеў (канец 1380-ых — пачатак 1390-ых гадоў)*

грама, дзе адна са старон наогул не месціць ані выяў, ані легенд. Калі гэта сапраўды адметныя манеты, а не моцна пацёртыя пенязі з крыжам, існуе верагоднасць таго, што існаваў і паўпеняжны гатунак манет Уладзіміра, а сама грашовая сістэма Кіеўшчыны належала да развітых. На цяперашні момант не стае довадаў, каб гэта сцвярджаць хаця б з нейкай доляй пэўнасці.

Стыкам 1380—1390-ых гадоў датуецца выпуск валынскіх манет князя Фёдара Любартавіча. Гэтая атрыбуцыя была выведзена зусім нядаўна Ю. Барэйшам. На адным баку манеты месціцца выява крыжа (герба Валыні), а на другім — леў, што стаіць







*Пенязі Дзмітрыя-Карыбута Альгердавіча (канец 1380-ых — пачатак 1390-ых гадоў)*



на чатырох лапах з павернутай назад галавой. Вядомы знаходкі гэтага тыпу на памежжы Валынскай, Ровенскай і Львоўскай абласцей сучаснай Украіны, а таксама ў знакамітым Сосніцкім скарбе з Чарнігаўшчыны (1911).

У складзе гэтага ж скарбу быў знойдзены пенязь вагой 0,32 грама, які меў на адным з бакоў манаграму *ТМ* — ініцыял Тодара Міхайлавіча Падольскага. Над манаграмай змешчаны маленькі крыжык з раздвоенымі канцамі. На другім баку манеты — выява кароны, пад якой літары *d · P* (*dux Podoliae* — князь Падольскі), падзеленыя кропкай, пад імі тры маленькія колцы. Гэтак падпісваўся другі сын Карыята — Тодар, што ў 1391 годзе з'яўляўся аднаасобным гаспадаром Падольскай зямлі, а ў 1393 годзе быў пазбаўлены Падолля Вітаўтам і ўцёк у Закарпацце. Тытул з ягонай лацінамоўнай граматы 1408 года гучыць як *Princeps Theodorus dux Podoliae*.

Вядома 6 манет, што маюць на адным баку выяву тамгі Нарымонтавічаў і мяча (на некаторых), на другім — нечытальны кірылічны ці арабскі надпіс. Выява мяча сустракаецца выключна на манетах Дзмітрыя-Карыбута, што дазваляе прыпісваць гэты сімвал яму асабіста.

Манеты захоўваюцца ў нацыянальным запаведніку «Нясвіж» у складзе скарбу нявысветленага



паходжання, дзе апроч іх былі 3 пражскія грошы Вацлава IV, прыток якіх рэзка вырас у канцы XIV стагоддзя. Манеты не толькі не наследуюць золатаардынскім дзенгам, але і маюць нашмат меншую за іх вагу — каля 0,2—0,33 грама, характэрную для пенязяў пачатку 1390-ых гадоў, як велікакняскіх, гэтак і ўдзельных. Калі дапусціць, што Дзмітрый біў гэтыя манеты ў Ноўгарадзе-Северскім, як лічыць большасць сучасных даследнікаў, то выглядае, што нават на ўсходзе ВКЛ да пачатку 1390-ых гадоў адбыўся пераход ад грашовай сістэмы, заснаванай на золатаардынскіх эмісіях, да сістэмы пражскіх грошаў. Тады найбольш верагодны перыяд выбіцця гэтых пенязяў — пачатак 1390-ых да 1393 года, калі Карыбут быў пазбаўлены свайго северскага ўдзела Вітаўтам. Аднак нястача звестак пра месца знаходкі манет, як і іх унікальнасць, не дазваляе сцвярджаць з пэўнасцю, у якім са сваіх уладанняў і тым больш у якім горадзе Дзмітрый мог іх эмітаваць.

Прыкладна 1370—1380-і гадамі датуецца пачатак уласных эмісій шматлікімі ўсходнерускімі княствамі. Манетная справа гэтых земляў, якія пасту-



*Маскоўская дзенга Дзмітрыя Данскога (пачатак 1380-ых гадоў)*

пова ўцягваліся ў арбіту палітычнага ўплыву, а потым і непасрэднай улады Масквы, была нагэтулькі стракатай і разнастайнай на працягу канца XIV — пачатку XVI стагоддзя, што, каб расказаць пра яе падрабязна, не хапіла б цэлай кнігі. Таму спынімся коратка на галоўных момантах, якія лучылі і рознілі яе з манетнай справай заходнерускай, гэта значыць літоўскай і галіцкай. Безумоўна, спробы эмітаваць мясцовыя наследаванні манетам Залатой Арды распачаліся на Русі яшчэ раней. Дзякуючы тонкай палітычнай гульні паміж Ардой і яе рускімі васаламі, у другой палове XIV стагоддзя асаблівую ролю набывае Маскоўскае княства. Са знакамітай перамо-











*Дзенга разанская Фёдара Алегавіча (пачатак XV стагоддзя)*

*Дзенга Пскоўскай рэспублікі з выявай Даўмонта*

гай яго ўладара Дзмітрыя Данскога ў 1380 годзе на Куліковым полі звязваецца пачатак змяшчэння на маскоўскія перайманні кірылічных легенд, ці проста пачатак незалежных ад Арды эмісій манеты — дзенгі. Гэтая назва, відавочна, перанятая ад татараў і паходзіць ад арабскага «танка» ці «тенга», што азначала дробную манету з серабра. Ад іх жа была перанятая і тэхніка выбіцця на срэбным дроце. Маскоўскія дзенгі мелі трывалы курс у дачыненні да дзенгі золатаардынскай, адпавядаючы 2/3 гэтай манеты.

У другой палове XIV стагоддзя ў Разані пачынаюць контрамаркаваць ардынскія манеты ўласнай тамгой ці літарамі. Гэтую дзейнасць адносяць да адной з першых дакладна атрыбутаваных манетных акцый ва ўсходняй Русі. З часам тамгу перасталі надбіваць на чужых дзенгах — замест гэтага сталі ўжывацца пустыя кружкі серабра. У сярэдзіне XV стагоддзя былі выбітыя і разанскія манеты па маскоўскай стапе з надпісам «дзенга разанская».

Іншае княства, якое пачало біць сваю манету рана, верагодна яшчэ да Маскоўшчыны, было княства Суздальска-Ніжненаўгародскае. Першыя яго манеты важаць каля 1 грама. У канцы XIV стагоддзя і пачатку наступнага «эмісійная ліхаманка» аха-



піла шматлікія самастойныя і ўдзельныя княствы ўсходняй Русі. Дзенгі пачалі вырабляцца ў Цверы, якая таксама паставіла на шырокія рэйкі выпуск пулаў. Медныя манеты выбіваліся таксама і ў іншых гарадах Вялікага княства Цвярскога, напрыклад у Кашыне і Гарадзене. Урэшце распачалі свае эмісіі дзенг і пулаў Наўгародская і Пскоўская рэспублікі. Лічыцца, што выява чалавека на адным з бакоў пскоўскай дзенгі належыць літоўскаму і пскоўскаму князю Даўмонту, сучасніку Міндоўга, пазней кананізаванаму як пскоўскі святы.

Апроч тэхнікі выбіцця і срэбна-меднай біметалічнай сістэмы ад татараў часта пераймаўся і дызайн. Асабліва гэта тычыцца манет Маскоўскага княства. Часта і фактычна да позняга XV стагоддзя некаторыя з іх месцяць арабскія надпісы ці іх імітацыі. У XIV стагоддзі вельмі папулярныя былі татарскія аздобы-пляцёнкі. Разам з тым манетная стапа даволі хутка адасобілася ад татарскай, чаму паспрыялі шматлікія мясцовыя эмісіі і сталае аслабленне татарскага ўплыву. Напачатку існавала некалькі розных грашовых сістэм у асобных рускіх княствах. У другой палове XV стагоддзя засталіся дзве асноўныя — маскоўская і наўгародская, манеты якіх розніліся па вазе прыкладна ўдвая. Замацаваўся прынцып лічэння на рублі, дзе апошні адпавядаў 200 маскоўскім ці 100 наўгародскім дзенгам. Рубель гэтай сістэмы быў не матэрыяльным, а лічэбным паняткам (вага ста наўгародскіх дзенгаў другой паловы XV стагоддзя была нашмат меншай за вагу даўнейшага наўгародскага прутка-рубля).

Такім чынам, грашовыя сістэмы Вялікага княства Літоўскага, асабліва ўсходняй яго часткі, і ўсходнерускіх княстваў мелі напачатку багата супольных рысаў. Далейшае іх развіццё, уплыў мясцовых фактараў і заходнія павевы ў ВКЛ спрычыніліся да істотнага разыходжання шляхоў гэтых сістэм ужо ў канцы XIV стагоддзя.

*Барэйша, Ю.* Аб атрыбуцыі, сімволіцы і датаванні манет ВКЛ з ільвом і крыжам / Юрый Барэйша / / Банкаўскі веснік. 2007. № 16 (381).

*Гулецкі, Дз.* Манеты Беларусі (да 1707 г.). ІЗРОЙ-MAGDUCLIT 2007. Даведнік / Дзмітрый Гулецкі, Аляксандр Грамыка, Аляксандр Крываручка. Мінск, 2007.

*Ильин, А.* Классификация русских удельных монет / А. Ильин. Л., 1940.

*Кольизин, А.* О начале чеканки монет в Москве в XIV в. / А. Колызин // X Всероссийская нумизматическая конференция : тезисы докладов и сообщений. М, 2002.

*Погорілець, О.* Карбування монети на Поділлі в другій половині XIV ст. / О. Погорілець, Р. Саввов // Реф. на наук. конф. «Грошовий обіг в Україні, минуле та сучасність». Львів, 2004.

*Хромов, К.* Новое в изучении Новгород-северских подражаний джучидским дирхемам третьей четверти XIV века / К. Хромов // Тез. докл. на Междунар. нумизматической конф., посв. 150-летию Нац. музея Литвы. Вильнюс, 2006.

*Хромов, К.* О монетной чеканке на территории Киевского княжества в 50-е годы XIV века (Киевские подражания монетам Джанибека) / К. Хромов // Реф. на наук. конф. «Проблеми охорони та відновлення фортифікаційних споруд Київської землі». Київ, 2005.

*Gumowski, M.* Podręcznik numizmatyki polskiej / Marian Gumowski. Kraków, 1914.

*Ivanauskas, E.* Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės lydiniai ir monetos nuo 1387 iki 1495 metų / E. Ivanauskas, M. Balčius. Vilnius, 1994.

*Ivanauskas, E.* Coins of Lithuania 1386—1707 / E. Ivanauskas, R.J. Douchis. Vilnius, 1999.

*Krzyżaniwskij*, A. Czy w mennicy lwowskiej bito monety w latach 1383—1387? / Andrij Krzyżaniwskij / / Pieniądz pamiątkowy i okolicznościowy — Wspólnota dziejów : materiały z IV Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 2000.

*Kryżaniwskij*, A. Stopa mennicza groszyków ruskich Kazimierza Wielkiego a stopa groszy praskich / Andrij Krzyżaniwskij // Wiadomości Numizmatyczne. 2003. # 2.

*Remecas*, E. Vilniaus žemutinės pilies pinigų lobis / E. Remecas. Vilnius, 2003.

*Sajauskas*, S. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės numizmatika / S. Sajauskas, D. Kaubrys. Vilnius, 1993.

---

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі Аляксандра Калызіна, Андрэя Разнёва, Юрыя Барэйшы, Томаса Астраускаса.

З прыходам да ўлады ў краіне Аляксандра I Вітаўта (1392) пачынаецца новы перыяд манетнай справы Вялікага княства. На першых парах Вітаўт не змяніў нічога ў грашовай сістэме гаспадарства, працягнуўшы біць пенязі, што мелі вагу каля 0,28 грама ўжо напрыканцы княжання Ягайлы. Проба гэтых манет таксама стабілізавалася на ўзроўні, трохі ніжэйшым за 500 праміле. Такім чынам, ужо ў той час 1000 пенязяў адпавядала літоўскаму рублю трохкутнага сячэння, што з'явіўся ў апошняй чвэрці XIV стагоддзя. Ізроі тады ўжо не выраблялiся.

У той жа час вялікае распаўсюджанне амаль на ўсім абшары ВКЛ атрымалі пражскія грошы Караля і Вацлава IV, якія зручна кладліся ў сістэму грашовых гатункаў рынку ВКЛ, бо месцілі каля 1,7—1,8 грама серабра. Гэта адпавядала ўтрыманню серабра ў сотні пенязяў з папраўкай на інтарэс эмітэнта.

Гэткая сістэма была дзесяцічнай: 1 рубель = 100 пражскіх грошаў = 1000 пенязяў. Нягледзячы на тое што яе ўсталяванню ў вялікай меры паспрыяў збег абставінаў, а не мэтанакіраваная грашовая палітыка ўрада, беларусы маюць поўнае права ганарыцца тым, што нашыя продкі ўжо ў канцы XIV стагоддзя карысталіся найбольш распрацаванай і прагрэсіўнай у свеце дзесяцічнай сістэмай наміналаў. Цяпер дзесяцічная сістэма агульнапрызнаная ва ўсім свеце, а на той час гэта была выключная з'ява. Шмат якія краіны Еўропы перайшлі на яе толькі ў XIX стагоддзі, а Вялікабрытанія пры-



*Рубель літоўскі*









*Пенязь «Калюмны» / Наверша дзіды з крыжам*

*Тагачасная падробка пенязя «Калюмны» / Наверша дзіды з крыжам*

знала і ажыццявіла гэтую сусветную тэндэнцыю ажно ў 1971 годзе.

Паводле вонкавага выгляду, першыя беларускія рублі нагадваюць рублі наўгародскія, але маюць меншую вагу. Не выключана, што яшчэ раней у Полацка-віцебскім рэгіёне выпускаліся рублі, якія цалкам паўтаралі вагу і форму наўгародскіх, таму атрыбутуюцца сучаснымі археолагамі як апошнія. Часта гэтыя пруткі серабра падзяляліся на часткі дзеля атрымання кратных намінальных адзінак. Наогул знаходкі палцін ВКЛ часцейшыя за знаходкі рублёў. Іхняя вага складае 85—95 грамаў, а рублёў, адпаведна, удвая болей. Літоўскі рубель важыў прыкладна 189 грамаў. Магчыма, у пачатку XV стагоддзя ягоная вага ўпала да 180 грамаў, пра што ўскосна сведчаць некаторыя дакументы з вялікалітоўска-наўгародскіх дачыненняў. У скарбах рублі і палціны знаходзяць пераважна разам з першымі манетамі княства.

Першыя манеты Вітаўта — пенязі тыпу ***«Калюмны» / Наверша дзіды з крыжам.*** Іх атрыбуцыя Вітаўту, апроч метралогіі і даных скарбаў, грунтуецца на тым, што князь змясціў на манеты свой асабісты герб — «Калюмны». Гэтыя даволі распаў-



сюджаныя маленькія манеткі біліся з раздушанага сярэбранага дроту па тэхніцы, характэрнай для ўсіх ранніх манет ВКЛ за выняткам першых пенязяў **ПЕЧАТЬ / *Наверша дзіды з крыжам,*** што, падобна, выразаліся з ліставога серабра. Яны біліся з пачатку валадарання Вітаўта прыкладна да 1401 года ў двух манетных дварах — Луцку і сталічнай Вільні.

Дзеля атрымання ўлады ў Вялікім княстве Вітаўт парваў усе адносіны з Ордэнам, у выніку чаго былы хаўруснік ператварыўся ў грознага ворага, а над сталіцай навісла рэальная магчымасць яе страты. У гэткіх складаных умовах праца манетнага двара ў Вільні была небяспечнай, і натуральна, што манетны двор быў часова пераведзены ўглыб ВКЛ — на Валынь, якая здавён, яшчэ за Ягайлам, была асабістым уладаннем Вітаўта. Праз нейкі час небяспека знікла, і манетны двор зноў запрацаваў у Вільні.

Пенязі ***«Калюмны» / Наверша дзіды з крыжам*** сталі першай насамрэч масавай агульнадзяржаўнай манетай ВКЛ. Арэал знаходак гэтых манет ахапляе амаль усе велізарныя абшары краіны, а месцы найбольшай канцэнтрацыі пенязяў — гэта перадусім Валынь і Віленшчына. Разам з пенязямі Вітаўта ў абсалютнай бальшыні скарбаў меліся і пражскія грошы ў значнай колькасці.

Наступную вялікую групу велікакняскіх манет Вітаўта складаюць пенязі тыпу ***«Калюмны» / «Пагоня».*** Але гэтым манетам папярэднічала яшчэ і лакальная серыя пенязяў, выбітая ў Смаленску.

Пасля авалодання велікакняскім пасадам адной з асноўных задач Вітаўта стала цэнтралізацыя ўлады. Некаторыя князі (між імі ўплывовыя Уладзімір Кіеўскі, Дзмітрый-Карыбут, Тодар Карыятавіч, Юрый Святаславіч Смаленскі) непрадбачліва адмовіліся прысягнуць Вітаўту. Да 1395 года Вітаўт здолеў скарыць непакорных васалаў. Апошнім быў скораны Смаленск. Вітаўт пасадзіў там сваіх намеснікаў, да часоў княявання каторых можна аднесці пачатак манетнай справы ў Смаленску (1396—1399). Першыя смаленскія пенязі былі выкананыя на вельмі высокім мастацкім узроўні. На адным баку месцілася выява «Калюмнаў» — герба Вітаўта, на другім — два барсы, павернутыя ўправа (большы і меншы), над імі — лілея. Поруч з барсамі на смаленскіх манетах вядомы таксама матыў ільва на задніх ла-













*Пенязь віленскі з «Пагоняй» і «Калюмнамі»*

*Пенязь смаленскі з «Калюмнамі» і барсамі*

*Пенязь смаленскі з «Калюмнамі» і львом*

*Пенязь смаленскі з літарай «Ю» і львом*

пах, павернутага ўлева. Гэта вядомы зямельны герб Смаленшчыны.

У 1401 годзе былы смаленскі князь Юрый Святаславіч ізноў авалодаў горадам. Ён працягнуў біццё манеты, карыстаючыся паслугамі таго самага манетнага майстра. На яго манеце выяўленая кірылічная літара **Ю** і ўсё той жа смаленскі леў.







*Пенязь «Калюмны»/«Пагоня», група 1*

*Пенязь «Калюмны»/«Пагоня», група 4*

Пасля шматлікіх спробаў вярнуць Смаленск Вітаўт дамогся поспеху ў 1404 годзе і замацаваў яго ў складзе ВКЛ. Смаленскае княства было ператворана ў намесніцтва, якому быў нададзены новы зямельны герб: белы мядзведзь у чырвоным полі. Стары герб княства, што сімвалізаваў яго незалежнасць, — леў — быў скасаваны. Манеты ўсіх вышэйзгаданых тыпаў знаходзяць пераважна на Смаленшчыне, але вядома і адзінкавая знаходка з Кернава на Віленшчыне.

У Вільні тым часам пачалося выбіццё новага тыпу манет — ***«Калюмны»/«Пагоня»***. З'яўленне дзяржаўнага герба ВКЛ на манетах Вітаўта можна звязаць з атрыманнем ім афіцыйнага тытула вялікага князя ў 1401 годзе.

Для выразання новых штэмпеляў у Вільню былі запрошаныя найлепшыя майстры. Падабенства стылю са смаленскімі пенязямі, а таксама высокая якасць выканання першых манет гэтага тыпу дазваляе меркаваць, што яны былі зробленыя тымі ж манетнымі майстрамі, што працавалі ў Смаленску. На адным баку гэтых манет выяўлены «Калюмны», абведзеныя па контуры, а на другім — «Пагоня», павернутая ўправа, вакол яе знакі манетнага майст-







*Контрамаркаваная «Калюмнамі» золатаардынская дзенга*

*Контрамаркаваны «Калюмнамі» генуэзскі аспр*

ра: чатырохліснік і трыліснік. Падобна, што на працягу выбіцця гэтых пенязяў Вітаўтам была праведзеная манетная рэформа, звязаная з паніжэннем пробы пенязяў, што кампенсавалася павелічэннем утрымання лігатуры. Гэтыя манеты біліся нядоўгі час.

Пазней выбіццё гэтага ж тыпу пенязяў узнавілася, хоць і выглядалі яны ў драбніцах інакш. На новыя манеты ***«Калюмны»/«Пагоня»*** былі змешчаныя знакі іншага кшталту, якія знаходзіліся ўжо ўзбоч «Калюмнаў», а не «Пагоні». Дзяржаўны герб Вялікага княства мае так званы «архаічны» выгляд. Ёсць цэлая група падтыпаў, якія розняцца паміж сабой толькі знакамі манетных майстроў. Гэтыя знакі з-за няякасных адбіткаў і нізкага мастацкага ўзроўню выканання штэмпеляў часта прымаюцца за гатычныя літары. Насамрэч дакладна ідэнтыфікуецца толькі літара «К». Беларускі даследнік А. Грамыка падзяліў спалучэнні гэтых знакаў на 4 групы:

1) у цэнтры і пад «Калюмнамі» знак ⌊⌉( ці люстэркава павернуты ⌈⌋), над «Калюмнамі», з любога боку ад іх, знак ⌊ (сустракаюцца павернутыя знакі ⌋, ⌈, ⌉);

2) у цэнтры «Калюмнаў» маленькая гатычная 𝔎 [K], пад «Калюмнамі» ⌉⌉;

3) у цэнтры «Калюмнаў» гатычная вялікая 𝔎 [K], пад «Калюмнамі» знак 𝔫, над «Калюмнамі» 𝔩;

4) у цэнтры «Калюмнаў» гатычная вялікая 𝔎 [K] (часта люстэркава павернутая 𝔎).

З прычыны падабенства ўсіх гэтых знакаў і наогул саміх манет слушнай здаецца выснова, што гэтыя пенязі біліся не надта доўгі час, наўрад ці болей за 10 гадоў. У цэнтры «Калюмнаў» сустракаецца толькі адна гатычная літара 𝔎 плюс невядомы знак 𝔫. Таму найбольш верагодна, што знак у цэнтры «Калюмнаў» быў знакам (у першым выпадку ініцыялам) дзяржаўцы манетнага двара, а пабочныя знакі выкарыстоўваліся як умоўныя абазначэнні для кантролю за якасцю прадукцыі манетнага двара.

Манеты ***«Калюмны» / «Пагоня»*** апошніх падтыпаў знаходзяць у скарбах з заходнееўрапейскімі манетамі, бітымі пераважна ў 1420-ыя гады, і амаль ніколі (за адзіным выняткам) — з папярэднім тыпам ***«Калюмны» / Наверша дзіды з крыжам,*** што дазваляе дапусціць пэўны перапынак у грашовай вытворчасці Вялікага княства ў пачатку XV стагоддзя.

Асобную групу складаюць залатаардынскія (канец XIV — першая трэціна XV стагоддзя) і генуэзска-крымскія (першая чвэрць XV стагоддзя) манеты з кантрамаркай у выглядзе «Калюмнаў». Яны былі найбольш распаўсюджаныя на землях, дзе аснову грашовага абарачэння традыцыйна складалі ардынскія дзенгі — перш за ўсё гэта поўдзень ВКЛ, які непасрэдна межаваў з Залатой Ардой. Амаль усе контрамаркаваныя манеты паходзяць з Кіеўшчыны і Падолля, але вядомыя знаходкі і ў Малдове, на Браншчыне і нават Гарадзеншчыне.

З'яўленне асабістага герба Вітаўта на залатаардынскіх манетах было перш за ўсё выяўленнем палітычных амбіцый князя. УНіканаўскім летапісе пры апісанні пахода Вітаўта супраць хана Цімур-Кутлука ў 1399 годзе гаворыцца, што ў час перамоваў «...восхоте Витовт во всей орде быти на денгах ординских знамение Витовтово».

Па смерці Вітаўта ў 1430 годзе эмісіі вялікалітоўскіх манет надоўга прыпыніліся. Да гэтага спрычынілася палітычная нестабільнасць у дзяржаве — грамадзянскія войны за ўладу паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Давалася ў знакі і

нястача сыравіннага серабра, якое больш не паступала з Чэхіі ў дастатковай колькасці. Тым не менш у краіне працягвалі шырока абарачацца пражскія грошы Вацлава IV. Увесь перыяд станаўлення грашовай сістэмы ВКЛ менавіта яны, а не ўласныя манеты Вялікага княства былі асноўным сродкам абарачэння нашай краіны. Пятнаццатае стагоддзе ў найбольшай меры сталася стагоддзем пражскага гроша на Беларусі.

У другой палове XV стагоддзя спынілі сваё курсаванне рублі, саступаючы дарогу заходнееўрапейскім дукатам і новым манетам ВКЛ. Вытворчасць літоўскіх рублёў скончылася прыкладна ў сярэдзіне XV стагоддзя, як і наўгародскіх. Прычынай спынення эмісій у Ноўгарадзе стала крымінальная справа Хведара Жарабца (1447), якога злавілі на вырабе рубля з заніжанай пробай серабра. Наступныя звесткі пра актыўнасць у манетнай справе ВКЛ мы маем ужо не толькі з манет, але і з дакументальных крыніц, — і яны адносяцца да самага канца XV стагоддзя.

*Бектинеев, Ш.* Денежное обращение Великого Княжества Литовского в XIII—XV вв. / Шамиль Бектинеев. Минск, 1994.

*Гулецкі, Дз.* Манеты Беларусі (да 1707 г.). ІЗРОЙ-MAGDUCLIT 2007. Даведнік / Дзмітрый Гулецкі, Аляксандр Грамыка, Аляксандр Крываручка. Мінск, 2007.

*Ivanauskas, E.* Lietuvos pinigų lobiai / Eugenijus Ivanauskas. Vilnius, 1995.

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі Юрыя Барэйшы, Андрэя Разнёва, з сайта Нацыянальнага літоўскага музея ў Вільнюсе *(www.lnm.lt)*, Яўгена Ганчарова.



# КАЛІ РАБІЦЬ, ДЫК ШЫРОКА

## *Акцэнт пяты:*

*Фальсіфікацыя манет на Беларусі*

**У** гісторыі беларускага грамадства, як і любога іншага, не абышлося без фальсіфікацыі грашовых знакаў. Гэта рабілася дзеля падману суграмадзянаў ці замежнікаў з мэтай атрымання матэрыяльнага прыбытку. Гэты тып эканамічнага злачынства застаецца характэрным для ўсіх часоў і народаў. Можна сцвярджаць, што фальшаванне манет з'явілася адначасова з іх прадукцыяй. Безумоўна, сучаснікі фальшароў







Тагачасныя падробкі літоўскіх паўгрошаў:

*1512 года*

*недатаванага Жыгімонта Аўгуста*

*1550 года*













Тагачасныя падробкі літоўскіх паўгрошаў:

*1556 года*

*1559 года*

*медны двупенязь з пасярэбраннем і фантастычнай датай «1565»*

*медны двупенязь 1570 года*

не маглі ацаніць гэтыя часам густоўныя, часам дзівосныя вырабы. Паспрабуем зрабіць гэта мы.

Ці лёгка жылося майстрам-саматужнікам у мінулыя часы? Яшчэ ў час існавання Рымскай імперыі падробка манет трактавалася як абраза маестату цэзара. Наогул фальшары манет як грашовага сродку заўсёды дасставалі жорсткай кары з боку дзяржавы, што не замінала з'яўленню новых і новых пад-







*Тагачасныя падробкі шэлегаў Стафана Баторыя і Жыгімонта Вазы*

робак, бо для чалавека ўмелага гэты занятак быў цікавы і пажыўны, а пры належнай асцярожнасці кары можна было доўгі час пазбягаць. Пакаранне ж сапраўды было суворае — у часы сярэднявечча простае павешанне было б для фальшароў за шчасце. У Францыі злачынцы варыліся зажыва, а ў Расіі ім адсякалі рукі ці залівалі ў горла іхнія ж манеты, папярэдне растопленыя да вадкага стану. З цягам часу пакаранні змякчыліся і звяліся да доўгіх тэрмінаў зняволення.

У нашай краіне да фальшароў практыкавалася спаленне. Раздзел першы, трынаццаты артыкул Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 года апісвае кару для тых, хто падрабляе манеты, наступным чынам: «Тэж хто б манэту нашую фалшаваў і без волі нашае перарабляў і абразаў, таксама і мынцары нашыя, якія золата і серабра і іншую матэрыю, што належыць ці адносіцца да мынцы, злівалі б і мяшалі к пажытку свайму а шкодзе рэчы паспалітае, а гэта было б пра іх даведзена; тыя маюць быць пакараныя агнём без літасці». Закон вельмі шырока трактуе панятак фальсіфікацыі, ахапляючы не толькі ўласна падрабленне манеты, але і яе мадыфікацыю і абразанне, а таксама наўмыснае паніжэнне стапы працаўнікамі манетнага двара. Пры гэтым апошнія ўжывалі часам сапраўдныя штэмпелі для выбіцця







*Абцяты траяк літоўскі (1593)*

фальшывых (з пункту гледжання пробы ці вагі) манет. Часам таемны загад пра псуццё грошай сыходзіў з самых вярхоў.

Не заставаліся ўбаку і шараговыя грамадзяне, якія самі выконвалі штэмпелі і імітавалі манеты часам на высокім мастацкім узроўні, але часам і такія, якія ўводзілі ў зман хіба што людзей непісьменных. Не бяда — у былыя часы такіх мелася большасць. А калі-нікалі абыходзіліся і без дарагога абсталявання. Досыць было нажніцаў, якімі адцінаті сабе крышачку каштоўнага металу, гэтак, каб не заўважылі іншыя.

Калі дзяржава пачынала сумнеўную справу з эмітаваннем крэдытных грошай, задача фальшароў значна спрашчалася. Не патрабавалася ўжо паніжаць вагу ці пробу металу, трэба было толькі дакладна паўтарыць манету — і прыбытак быў забяспечаны. Праект выбіцця медных шэлегаў Яна Казіміра — барацінак — быў нагэтулькі непрыхаваным рабаваннем люду, што прадпрымальныя сучаснікі спрычыніліся да павелічэння колькасці гэтай манеты ў абарачэнні Рэчы Паспалітай хіба не ўдвая. Пры гэтым яны не давалі сабе марокі вытрымання вагі. Іхнія вырабы часам нават цяжэйшыя за афіцыйна эмітаваныя шэлегі. Выгодна было ўсё адно. Фальшавалі крэдытныя грошы і ў нашай краіне, і за мяжой.

Такім чынам, падрабленне манеты як грашовага сродку ў мінулым уключала ў сябе некалькі пунктаў:

- выкананне манеты з паніжанай пробай ці вагой у дзяржаўным манетным двары;
- выкананне манеты з паніжанай вагой ці пробай (ці зусім з іншага металу) прыватнымі асобамі;











*Польскі паўгрош (1509)*

*Свідніцкі паўгрош Людвіка (1525)*

*«Пасмяротны» свідніцкі паўгрош Людвіка (1527)*

*$^{1}/_{4}$ шэлега, графства Рытберг (1519)*

• выкананне крэдытнай манеты без паніжэння ці нават з павышэннем стапы;

• абцінанне кружка манеты дзеля здабычы каштоўнага металу.

Бескаранна падраблялі манеты нават цэлыя дзяржавы, але тое ўжо лічылася не злачынствам, а палітычным крокам. Мы маем багата прыкладаў «падрыўніцкай» фінансавай дзейнасці суседзяў у дачы-










Шэлегі шведскія:

*Густава Адольфа (1632)*

*Густава Адольфа (1633)*

ненні да грошай, якія курсавалі на тэрыторыі Беларусі. З найбольш яскравых варта ўспомніць наступныя.

**Свідніцкія паўгрошы.** У 1517 годзе кароль венгерскі і чэшскі Людвік, Ягайлавіч з чэшскай лініі гэтай дынастыі, распачаў выбіццё нізкаякасных пераймальных паўгрошаў у сілезскай Свідніцы. Гэтыя паўгрошы наследавалі дызайну паспалітай, фактычна, асноўнай манеты абарачэння Каралеўства Польскага, таксама добра знаёмай і на Літве — паўгроша Жыгімонта Старога ўзору 1507—1511 гадоў, але месцілі на 10% меней серабра. Адзінае адрозненне між гэтымі манетамі складалі легенды, што не мела значэння ў эпоху яшчэ паўсюднай непісьменнасці. Так, пры роўным рынкавым курсе паўгрошаў, якія паспалітаму люду немагчыма было адасобіць, каралеўскі скарб страчваў 10% вартасці ў кожнай манеце. На шматлікія просьбы Жыгімонта перапыніць эмісіі ці хаця б змяніць дызайн сілезскіх паўгрошаў сваяк не рэагаваў. Інтэнсіўнай дзейнасці ў манетнай справе не зашкодзіла нават смерць Людвіка ў 1526 годзе. Дзяржаўцы Свідніцкага манетнага двара, прадчуваючы хуткае згортванне вытворчасці, прычыніліся да паскарэння працы дзеля хутчэйшага атрымання прыбытку. Толькі ў 1528 годзе манетны двор быў зачынены дэкрэтам на-









Шэлегі шведскія:

*Хрысціны (1645)*

*Хрысціны (1653)*

*Караля Густава (1655)*

ступцы Людвіка на чэшскім пасадзе Фердынандам з дынастыі Габсбургаў.

Цікава, што папулярная польская манета штурхнула на выбіццё перайманняў не толькі апошняга чэшскага Ягайлавіча. Падобныя паўгрошы спрабаваў эмітаваць і Ота, гаспадар графства Рытберг (1516—1535). У мясцовай сістэме наміналаў гэтая манета мела курс у чвэрць шэлега.

**Шэлегі і паўтаракі шведскія Вазаўскіх часоў.** У другой палове XVI стагоддзя ў шведскім грамадстве стала папулярнай ідэя ператварэння Балтыйскага мора ва ўнутранае «шведскае возера». Гэта дазволіла б Швецыі стаць дзяржавай нумар адзін на поўначы Еўропы, кантралюючы ўвесь балтыйскі міжнародны гандаль. Перашкаджалі амбітным планам нашчадкаў вікінгаў гаспадарствы, што ўжо ва-









*Бракаваныя манетныя аркушы з г. Сучава (сучасная Румынія)*

лодалі ці мелі віды на гэтыя абшары — Данія, Рэч Паспалітая, Расія.

У гэтым рэчышчы непазбежным ставаў узброены канфлікт над Балтыкам. Сітуацыю пагаршала варажнеча паміж абраным у 1587 годзе на вялікалітоўскі і польскі пасады шведскім каралевічам Жыгімонтам Вазам і ягоным суродзічам Каралем IX, што захапіў шведскі пасад, які пэўны час таксама належаў Жыгімонту. Увосень 1600 года нечаканым наступам шведскага войска на Лівонію пачалася Першая Паўночная вайна, што трывала з перапынкамі 29 гадоў. Праз два дзесяцігоддзі шведам удалося канчаткова адарваць ад Рэчы Паспалітай найважнейшы гандлёвы цэнтр Лівоніі — Рыгу. Спыненне гандлю з гэтым горадам азначала катастрофу для эканомікі Вялікага княства. Ліцвіны імкнуліся да спынення вайны, у той час як палякі не зважалі на



інтарэсы ВКЛ, выкарыстоўваючы эканамічныя праблемы нашай дзяржавы для працягу сваёй культурнай экспансіі. У 1621 годзе шведы пачалі выбіццё білонавых шэлегаў і паўтаракаў у гарадскім манетным двары захопленай Рыгі. Гэтыя гатункі адпавядалі сваім наміналам і вонкавым выглядам найбольш пашыраным на той час у гандлі Рэчы Паспалітай манетам, аднак месцілі менш серабра. Рыжскія шэлегі і паўтаракі распаўсюдзіліся ў аграмадных колькасцях па ўсёй тэрыторыі Беларусі і Украіны, у той жа час практычна не трапіўшы ў абарачэнне ў самой Швецыі. Гэтак шведы ўжылі эканамічную зброю супраць свайго суперніка, увёўшы ўскосны падатак з мясцовага насельніцтва. У 1629 годзе быў заключаны мір паміж дзяржавамі, але ўжо ў 1632 годзе да кампаніі па падрыве эканомікі Рэчы Паспалітай далучыўся манетны двор у Эльблёнгу, а ў 1644 годзе — дзяржаўны манетны двор Лівоніі ў той жа Рызе. Сеймы 1631 і 1633 гадоў катэгарычна запатрабавалі тэрміновага вываду з абарачэння «злое манеты эльблёнгскае і рыскае». Аднак тая кепская манета, перадусім рыжскія шэлегі, працягвала біцца і ўкідвацца ў краіну да сярэдзіны 1650-ых гадоў, руйнуючы фінансавую сістэму дзяржавы. Цікава, што, як і ў выпадку са свідніцкімі паўгрошамі, знясільваў эканоміку Рэчы Паспалітай эмісіямі нізкавартаснай манеты... сваяк караля і вялікага князя.

У пачатку 1630-ых гадоў да афіцыйных шведскіх эмісій шэлегаў далучыўся падпольны манетны двор ў румынскай Сучаве. Яе вельмі якасныя падробкі, якія часам немагчыма адрозніць ад уласна шведскіх манет, курсавалі нароўні з апошнімі, прыносячы нечуваныя прыбыткі фальшарам.

**Сеўскія «чэхі», а таксама шастакі і тымфы Пятра Першага.** Акцыя па ўкідзе першых была накіраваная перадусім не супраць беларускіх земляў, а супраць той часткі Украіны, што з 1654 года апынулася ў складзе Маскоўскай дзяржавы. Аднак закранула яна надзвычай папулярную ва ўсёй Рэчы Паспалітай манету — паўтарак. Адразу пасля далучэння левабярэжнай Украіны царскі ўрад задумаў замяніць курсуючыя там манеты Рэчы Паспалітай сваімі. У гэтым расіяне сутыкнуліся з пэўнымі праблемамі, бо манетная сістэма Маскоўшчыны заста-









*Сеўскія «чэхі» (1686)*

валася найбольш адсталай у Еўропе. Рынкі краіны забяспечваліся фактычна адзіным, нязручным ва ўжытку гатункам — капейкай-«луской» вагой каля 0,45 грама. Зусім іншая сітуацыя назіралася на Украіне: там здаўна курсавалі літоўскія, польскія і заходнееўрапейскія манеты рознага кшталту. Па сваім узроўні развіцця існая расійская грашовая сістэма не магла супернічаць з той, што панавала на Украіне. Патрэба рэформы фінансаў у Маскоўскай дзяржаве ставала відавочнай.

Пасля колькіх не надта ўдалых спробаў уводу манет заходняга ўзору, у северскім Сеўску, што на той час ужо належаў да Маскоўшчыны, дайшло да выбіцця «чэхаў накшталт... каралеўскіх Жыгімонтаўскіх». Гэта адбылося ў 1686 годзе. За больш як трыццаць гадоў сітуацыя на ўкраінскім рынку ані не змянілася. Па-ранейшаму навадалучаны рэгіён заставаўся ў рэчышчы польска-літоўскага манетнага абарачэння. Сеўскім «чэхам» надаваўся прымусовы курс, роўны маскоўскай капейцы, у той час як серабра яны месцілі на дзенгу (палову капейкі). У той жа час падаткі да царскага скарбу мусілі надыходзіць толькі ў традыцыйнай манеце. Людзей жа, якія б скуплялі за «чэхі» капейкі, належала бязлітасна караць смерцю. Былі распрацаваныя амбітныя планы выпуску дзесяткаў мільёнаў гэтых манет, калі б,



як спадзяваўся маскоўскі ўрад, рынак прыняў «чэха». Выканаўцы акцыі абавязаныя былі забяспечыць, каб «та манета ў маларасійскіх гарадах і ў Польшчы хадзіла бяз жаднага пярэчання». Натуральна, пад Польшчай у прыведзенай цытаце мелася на ўвазе ўся тэрыторыя, што заставалася за Рэччу Паспалітай, а перадусім частка беларускай Севершчыны і Магілёўшчына, як найбольш блізкія «польскія» землі да месца падзеяў. Дакументальныя крыніцы засведчылі пранікненне сеўскіх «чэхаў» на Беларусь. Але ўжо ў наступным годзе эмісію маскоўскіх паўтаракаў давялося спыніць. «Чэхі» не вытрымалі канкурэнцыі з больш якаснымі і шматлікімі паўтаракамі Рэчы Паспалітай, не здолеўшы ўтрымацца ў абарачэнні па нададзеным ім завышаным курсе.

Мінула 14 гадоў. На мяжы стагоддзяў малады маскоўскі цар Пётр I і кароль Рэчы Паспалітай саксонец Аўгуст II дамовіліся аб хаўрусе супраць Швецыі. Распачалася Вялікая Паўночная вайна, у якую неўзабаве было ўцягнутае і ВКЛ. Пятру цяжка давалася ўтрыманне Аўгуста на сваім баку, бо той без



*Тымф Пятра I (1708)*

перапынку патрабаваў ад яго грашовых субсідый. Вымаганне Аўгустам новых і новых сумаў «на ўтрыманне войска» прыняло несупынны характар. У адным з лістоў да Пятра найбліжшы ягоны паплечнік Меншыкаў піша пра саксонца: «Королевское Величество зело скучает о деньгах и со слезами наодине у меня просил, понеже так обнищал... что есть нечего. Видя его скудость, я дал ему своих денег 10 000 ефимков».

Наталенне грашовай смагі хаўрусніка патрабавала ад цара вялікіх сродкаў, прычым у трывалай еўрапейскай валюце, а не ў малазнаёмых і непапулярных у Рэчы Паспалітай капейках-«лусках». У гэ-








*Вендэнскі шэлег магістра Лівоніі Фрайтага фон Ларынгофэна (1483—1494)*




*Полацкае перайманне вендэнскага шэлега Фрайтага фон Ларынгофэна. Медзь са слядамі пасярэбрання*

тых умовах у Маскве ўзнікае ідэя арганізацыі адмысловай грашовай эмісіі звыклых для беларуска-польскага і саксонскага абарачэння манетных гатункаў. У 1706 годзе вялікім падскарбіем літоўскім Людвікам Пацеем па просьбе Пятра і Аўгуста была выбіта апошняя манета Вялікага княства — літоўскі шастак, што была выпушчаная ў абарачэнне па завышаным курсе. Фактычна, гэта быў пачатак «тымфавай справы». Маскоўскім манетным дварам было загадана працягнуць эмісію шастакоў, а таксама тымфаў, але гэтаму запярэчыў Аўгуст, баючыся хваляванняў супраць яго ў нашым гаспадарстве з нагоды выкіду на рынак вялікай колькасці «подлай» манеты. І ўсё ж у 1707 годзе ў Маскве былі адбітыя шастакі, а тымфы біліся там жа з 1707 па 1709 год. Гэтыя манеты былі прызначаныя для беларускага рынку, але мелі выразна расійскі выгляд. На адным баку яны месцілі партрэт цара і ягонае імя, а на другім — двухгаловага арла і дэкларацыйна-прапагандысцкі штамп «усяе Расіі валадар». Манеты не мелі на рынку поспеху і неўзабаве былі адкліканыя з абарачэння.

Найбольш знакамітая фальсіфікатарская афера, у якую былі ўцягнутыя беларусы, адносіцца да канца XV стагоддзя і звязана з некалі буйным эканамічным і палітычным цэнтрам нашага краю — По-







*Тагачасныя падробкі траякоў Жыгімонта Вазы са знакамі прыналежнасці да Віленскага манетнага двара*

лацкам. 25 студзеня 1493 года магістр Лівонскага ордэна Фрайтаг фон Ларынгофэн піша ў грамаце да магістрата Рэвеля (цяпер — Талін): «...паведамляем вам, што якіясь рускія прыехалі да Рыгі з Полацка, што на Літве, маючы з сабой фальшывыя манеты, бітыя накшталт вендэнскіх, а менавіта — на адным баку герб, а на другім — рэвельскі крыж з кропкай. Аднаго з іх злавілі, і той распавёў, што падобных манет выбіта паўласта і яны прывезеныя да нас... І яшчэ, шаноўныя падданыя, гэтыя манеты, падобна, дасланыя з Полацка ў Пскоў, каб перасланы іх адгэнуль у нашую краіну... Прыклады гэтых фальшывых манет запячатанымі дасылаем вам, каб вы іх агледзелі і маглі засцерагчыся...»

Колькасць падробак, паходзячых, па словах Ларынгофэна, «з Полацка, што на Літве», уражвае — амаль мільён штук (паўласта роўныя каля 960 кілаграмаў, пры вазе аднаго шэлега каля 1 грама)! Нагэтульпі падрабязнае апісанне магістрам манеты выклікае непаразуменне сучасных даследнікаў, бо арыгінальныя манеты Ларынгофэна, якія б выглядалі падобным чынам, невядомыя. У часе яго панавання працаваў толькі Вендэнскі манетны двор, у якім біліся шэлегі з падоўжаным крыжам, але без кропкі.








*Тагачасныя падробкі польскіх грошаў Жыгімонта Вазы. Пасярэбраная медзь*

Тая кропка вядомая з рэвельскіх шэлегаў папярэдняга ўладара Лівоніі — магістра Бэрнда фон дэр Борга (1472—1483). Але акурат на вендэнскіх шэлегах апошняга яе няма.

Мы не можам цяпер дакладна адказаць, ці дапусціў магістр недакладнасць і ў чым менавіта, але можам аперыраваць тым матэрыялам, які знойдзены ў скарбах за апошні час. Так, вядома даволі дакладнае медзяное перайманне вендэнскага шэлега Фрайтага фон Ларынгофэна са слядамі серабрэння. Звесткі пра больш незвычайныя манеты прыводзяць мінскія даследнікі В. Рабцэвіч і І. Колабава. У 2001 годзе яны паведамілі пра комплекс дзівосных наследаванняў, знойдзеных, паводле іх звестак, «на беразе ракі ў Полацку».

Чым больш распаўсюджаная была манета, тым болей яе падробак паўставала на рынку. Ці далучаліся да народных майстроў сваёй краіны працаўнікі дзяржаўных манетных двароў? Наўрад ці магло быць інакш.

Вядома даволі кампактная група фальшывых траякоў Жыгімонта Вазы, якія нясуць на сабе атрыбуты прыналежнасці як да польскіх манетных двароў, так і да адзінага на той час манетнага двара







Вялікага княства Літоўскага ў Вільні. Польскі нумізмат XIX стагоддзя граф Станіслаў Валеўскі акрэсліў гэткія траякі як анармальныя.

Звычайна анармальныя траякі нясуць на сабе знак (герб падскарбія ці сімвал манетнага двара), уласцівы віленскім эмісіям, спалучаны з легендай, што мусіла змяшчацца на польскія манеты. Пры гэтым легенда, як правіла, напісана беспамылкова. У прыватнасці, Валеўскім, а пазней і іншым даследнікам — Паўлам Багдановічам — выдзелена група анармальных траякоў з гербамі Дзмітрыя Халецкага і Андрэя Завішы, датаваных 1597—1601 гадамі



Медныя наследаванні літоўскім шэлегам Яна Казіміра ўзору 1652 года з фантастычнымі датамі — 18, 155, 1556

альбо без датаў наогул. Усе гэтыя манеты выкана용ныя на даволі высокім узроўні. Паводле версіі Багдановіча, яны маглі нелегальна вырабляцца на адным з каронных манетных двароў, а выкарыстанне







*Тагачасная падробка літоўскага орта Яна Казіміра 1664 года*

знакаў, уласцівых для манетнай справы ў Вільні, мела на мэце заблытаць сляды гэтай дзейнасці.

Выглядае, што майстры, якія выконвалі манеты, не скарысталіся з магчымасці проста скапіраваць дызайн арыгінала, а наўмысна спалучылі элементы траякоў розных манетных двароў. Часам камбінаваліся таксама аверс і рэверс траякоў аднаго манетнага двара, але розных гадоў.

Досыць часта, асабліва ў Польшчы, фальшаванне манет ставілі на сур'ёзны падмурак і мажнаўладныя паны. Іхнія замкі, дзякуючы сваёй недаступнасці, дасканала падыходзілі для стварэння падпольных манетных двароў. Да прыкладу, са знакамітага фальсіфікатарскага манетнага двара ў Старадраўскім замку ў Польшчы выйшла больш як 100 тысяч каронных пенязяў і паўгрошаў XV стагоддзя, ад наследаванняў эмісіям Ягайлы да паўгрошаў Яна Ольбрахта, а таксама манет паморскіх і крыжацкіх. У 1610—1621 гадах дзейнічаў фальшэрскі манетны двор Мікалая Камароўскага ў Жывецкім замку, дзе майстэрскі падрабляліся каронныя грошы Жыгімонта Вазы. Арыштаваны, Камароўскі здолеў выкруціцца, забіўшы сваіх наймітаў-майстроў — сведкаў злачынства.

Кампактную і не вывучаную пакуль групу падробак з адзіным «почыркам» складаюць медныя наследаванні літоўскім шэлегам Яна Казіміра ўзору 1652 года. Вядомы шэраг манет падобнага стылю, якія адзначаюцца тым, што пры пісьменна выкананых легендах яны маюць у канцы легендаў выдуманыя фантастычныя даты — 18, 155, 1556.

З навуковага і калекцыянерскага пунктаў гледжання тагачасныя падробкі надзвычай цікавыя для вывучэння і збірання. Нярэдка мудрагелістыя фальсіфікаты выбіраюцца калекцыянерамі за галоўную тэму збірання, а навукоўцам дапамагаюць развязаць пэўныя загадкі гісторыі.

*Катлярчук,* А. Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў / Андрэй Катлярчук. Мінск, 2002.

*Колобова, И.* Фальсификация шиллингов Ливонского ордена в Полоцке конца XV – первой половины XVI в. / Ирина Колобова, Валентин Рябцевич // «Нумизматика на рубеже веков» : сб. Государственного исторического музея России (часть XV). М., 2001.

*Рябцевич,* В. Нумизматика Беларуси / Валентин Рябцевич. Минск, 1995.

*Рябцевич,* В. Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I / Валентин Рябцевич. Тольятти, 1995.

*Białkowski,* A. Monety ostatnich Jagiellonów / Andrzej Białkowski, Tomasz Szweycer. Warszawa, 1975.

*Bohdanowicz,* P. Trojaki koronne z herbami podskarbich litewskich / Paweł Bohdanowicz // Przegląd numizmatyczny. Gdańsk, 1999. # 2.

*Kokociński,* L. Pieniądz fałszywy / Lech Kokociński. Łomża, 1995.

---

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі Андрэя Разнёва, Гіртса Эйстэрса, з інтэрнэт-старонкі *Poznański Dom Aukcyjny.*



# ЛІТОЎСКІ МОНАМЕТАЛІЗМ

***Акцэнт шосты:***

*Паўгрош як асноўны сродак абарачэння*

**«Аляксандр,** вялікі князь літоўскі (1492—1506), кароль польскі (1501—1506), чацвёрты сын Казіміра Ягайлавіча ад Альберты Габсбуржанкі. Атрымаў адукацыю пад кіраўніцтвам знакамітага Яна Длугаша, польскага гісторыка. Яшчэ ў 1484 годзе быў вызначаны спадкаемцам велікакняскага пасада на Літве». Гэткімі звесткамі пачынаецца артыкул энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» пра вала-







*Паўгрош Аляксандра*

*Паўгрош 1509 года*

*Гібрыдны паўгрош 1519 года*













*Паўгрош 1527 года (вершнік з двума колцамі на рукаве)*

*Паўгрош 1527 года з памылкай «Манета Жыгімонта, Вялікага Жыгімонта Літоўскага»*

*Паўгрош 1545 года*

*Паўгрош 1546 года*

дара, што пакінуў след у беларускай манетнай справе як вялікі рэфарматар. Пры Аляксандры пражскі грош саступіў ролю асноўнага грашовага сродку на рынках краіны новаму літоўскаму паўгрошу, выканаму на заходнееўрапейскі кштальт і па заходнееўрапейскай тэхніцы біцця.

У той жа час манетная рэформа Аляксандра не закранула даўнейшай манетна-вагавой сістэмы Вя-



лікага княства, заснаванай на літоўскім пенязі. На той час падзяліліся паняцці манетнага гроша пражскага і лічэбнага гроша літоўскага. Першы, прадстаўлены ў большасці эмісіямі стогадовае даўніны Вацлава IV, меў курс у 14 пенязяў літоўскіх (цягам стагоддзя адбылася дэвальвацыя валюты ВКЛ на 40%). Лічэбны ж літоўскі грош заставаўся ў межах дзесяцічнае грашовае сістэмы ВКЛ, будучы роўным 10 пенязям. Як бачым, за стагоддзе гэтая прагрэсіўная сістэма нікуды не знікла. Яна была падмацаваная рэформай Аляксандра, які пачаў біць не толькі традыцыйныя мясцовыя пенязі, але і паўгрошы, ці пятакі. Апошні зназоваў адлюстроўвае суадносіны паўгроша і пенязя. У прыведзенай Валянцінам Рабцэвічам цытаце з судовай справы 1579 года (і гэта ўжо ў той час, калі грашовая сістэма ВКЛ была фактычна скасаваная) полацкі месціч Марцін Мітковіч сцвярджае, што ён «...солоду продал за пятдесят грошей без петака», што азначае 49 з паловай грошаў.

Што ж змянілася ў вонкавым выглядзе манет? Перадусім, была змененая тэхніка вырабленне ма-



*Паўгрош 1556 года з памылкай у слове «MA[G]NI»*

нетных кружкоў, якія раней амаль безвыняткава рабілі па метадыцы цягнення з дроту. Інакш рабілі на Захадзе. Серабро патрэбнай якасці зліваласся ў пруткі. Вышэйзгаданы тэхпрацэс мог адбывацца паза межамі манетнага двара, забяспечваючы апошні, як і іншых замоўцаў, унармаванымі па вазе і пробе пруткамі кову. Наступным этапам вытворчасці была падрыхтоўка пласцін серабра патрэбнай таўшчыні. Срэбны пруток разаграваўся, што надавала яму большую пластычнасць, і раскоўваўся молатам. У першай чвэрці XVI стагоддзя быў вынайдзены вальцавальны варштат, які стаў рэвалюцыйнай тэхналогі-





яй для разгляданае аперацыі. Ён прыводзіўся ў рух вадой (дзеля гэтага тагачасны манетны двор звычайна месціўся каля ракі) альбо жывёльнай сілай. З раскаваных і разрэзаных стужак серабра выразаліся альбо адбіваліся прабойнікам манетныя кружкі.

Затым выконвалася праверка адпаведнасці вагі кружкоў норме. Для дробнай манеты прымяняўся прынцып *al-marco*, што азначала забавязанне выбіць канкрэтна вызначаную колькасць манет з грыўні серабра, без аглядкі на вагу кожнай манеты асобна. Калі вага была меншай, выбіраліся цяжэйшыя кружкі з іншай партыі, калі большай — лягчэйшыя. Калі-нікалі гэта прыводзіла да злоўжыванняў, якія палягалі ў прыёмцы ў вазе грыўні большай колькасці кружкоў, чым было вызначана ардынацыяй. Манеты вялікіх наміналаў прымалі па прынцыпе *al-pezzo*, калі кантралявалася вага кожнае манеты. Цяжэйшыя кружкі юставаліся (апілоўваліся), лягчэйшыя ішлі ў новы цыкл перапрацоўкі. Расфасаваныя па партыях загатоўкі выбельваліся і паліраваліся, што надавала прыгожы срэбны бляск нават не вельмі высакапробным манетам, якімі былі паўгрошы.

Цікава, што паўгрошы Аляксандра, таксама як і бітыя з яшчэ большай інтэнсіўнасцю манеты яго-



*Паўгрош 1512 года з падвойным адбіццём здолу, выкліканым адскокам штэмпеля*



*Паўгрош 1513 года з двума моцна пасунутымі адбіткамі штэмпеляў з абодвух бакоў і дыяганальным змяшчэннем*





*Паўгрош 1557 года з двума моцна пасунутымі адбіткамі штэмпеляў з абодвух бакоў*



*Паўгрош 1563 года з моцна пасунутым змяшчэннем другога адбітка штэмпеля*



*Гатычны паўгрош Аляксандра, біты зношаным штэмпелем*



*Загана выбіцця рэнесансавага паўгроша (пачатак 1520-ых гадоў). Тып «негатыў/пазітыў»*

нага наступцы — Жыгімонта Старога, нашмат радзей трапляюцца ў музейных і прыватных зборах з бляскам, чым паўгрошы апошняга Ягайлавіча — Жыгімонта Аўгуста. Гэты факт абумоўлены ані не старэйшым векам першых, а толькі недасканаласцю аперацыі паліравання на Віленскім манетным двары ў канцы XV — першай палове XVI стагоддзя.







*Паўгрош 1562 года, адбіты нецэнтрычна*



*Паўгрош 1563 года, выраблены па «рускай» методыцы*

Да 1558 года ўсе паўгрошы мусілі адпавядаць сталай, але даволі нізкай 6-лотавай (375-ай) пробе. Як было прынята паўсюль, манетнае серабро легіравалася меддзю. Гэты працэс жорстка кантраляваўся вардайнам (кантралёрам якасці прадукцыі), які быў падначалены ўжо не кіраўніцтву манетнага двара, а непасрэдна ўраду.

Другое важнае адрозненне ад былых манет Вялікага княства палягала ў тым, што на паўгрошах былі ўведзены доўгія легенды на лацінскай мове — мове міжнародных зносінаў. Да гэтага спрычынілася перадусім тое, што пасля больш як стогадовага перапынку была ізноў выбіта даволі буйная манета, што мела вагу, большую за 1 грам. На адным баку паўгроша Аляксандра выяўлялася дзяржаўная «Пагоня» і надпіс ***Манета Аляксандра***, на другім — Ягайлаўскі арол без кароны і надпіс ***вялікага князя літоўскага***.

Першая захаваная справаздача аб даходах новастворанага Віленскага манетнага двара паходзіць з 1499 года і распавядае пра выбіццё манеты на працягу чатырох гадоў, гэта значыць з 1495 года. Паводле даных С. Янушоніса (што праўда, нявысветленага паходжання), якія прывялі ў сваёй кнізе «Lietuvos monetų kalybos istorija 1495—1769» Яўген Іваноўскі і Роберт Дучыс, ёсць звесткі 1489 года пра віленскага майстра Генрыка Шлёгера, немца, было-





га кракаўскага месціча. Як пераканаўча сцвердзіў віцебскі нумізмат Аляксандр Грамыка, наўрад ці на той час Віленскі манетны двор мог біць нейкія іншыя манеты (а менавіта манеты з «Пагоняй» і «Калюмнамі», выкананыя «рускай» методыкай), апроч манет Аляксандра. Верагодна, немец Шлёгер быў запрошаны якраз з мэтай пераходу ад мясцовых тэхналогій манетнай справы і састарэлага сярэднявечнага абсталявання да прагрэсіўнага заходнееўрапейскага. Гэтая дата дазваляе казаць, што ў 1489 годзе ўжо адбылася спроба адкрыцця новага Віленскага манетнага двара праз Аляксандра, княжыча ВКЛ, які, верагодна, яшчэ пры жыцці свайго бацькі аднавіў эмісіі літоўскіх манет. Прыклад такіх адносін мы бачым і паміж апошнімі Ягайлавічамі — Жыгімонтамі Старым і Аўгустам, калі апошні пачаў біць манеты Вялікага княства ад свайго імя, у той час як бацька працягваў эмісіі ў Кароне ад свайго.

Літоўскія паўгрошы Аляксандра былі выбіваныя досыць старанна прыгатаванымі штэмпелямі. Пры вялікай колькасці захаваных на сёння манет вельмі рэдка сустрэнеш памылку ў легендзе, гэтак характэрную для эмісій Жыгімонта Старога. Затое неадпрацаванасць тэхналогіі яшчэ давалася ў знакі. Як ужо адзначалася вышэй, недастаткова якасна выконвалася паліраванне манет. Часам не даволі выразна адбітыя літары слоў і элементы выяў «Пагоні» і арла. Часта трапляюцца дэфекты прэгавання (біцця), што выконвалася малатковай методыкай. Біліся паўгрошы наступным чынам. Сподні штэмпель замацоўваўся ў цяжкім бервяне і заставаўся нерухомы. На яго клаўся манетны кружок, да якога згары прыкладаўся другі штэмпель. Па рукаятцы апошняга і адбівалі малатком. Цягам XVI стагоддзя ўдалося ўдасканаліць гэтую методыку, замяніўшы чыста чалавечую працу з малатком пабойным механізмам, дзе молат уздымаўся на патрэбную вышыню, а потым па бэльцы спадаў на загатоўку. Цікавым будзе згадаць, якія дэфекты прэгавання былі характэрныя для навачаснай вялікалітоўскай манетнай справы. Перадусім гэта падвойнае адбіццё. Двойчы (а можа, і колькікроць) адбітыя манеты мы сустракаем не толькі ў XVI стагоддзі, але і пазней. Існуе некалькі відаў падвойнага адбіцця:





1. Абодвух бакоў мала пасунутымі адбіткамі штэмпеляў у выніку адскоку вышняга штэмпеля. Гэта магло адбывацца, калі сподні штэмпель замацоўваўся не ў бервяне, а ў металёвай ці іншай аснове, што не забяспечвала патрэбнае амартызацыі. З другога боку, падобны эфект мы назіраем і на манетах другой паловы XVI стагоддзя, калі ўжо напэўна праца майстра была больш аўтаматычнай, і тым больш ужо не магло ісці гаворкі пра падкладку, якая б не амартызавала выцень. Тут справа ў іншым. Адразу пасля вытню майстар мог не зафіксаваць вышні штэмпель на адбітай манеце, і, пасунуўшыся, той даваў эфект падвойнага адбітку.

2. Аднаго з бакоў, калі пры выбіцці манета заставалася ў сподні́м штэмпелі і дзеля таго, каб адчапіць яе, майстар прыкладаў вышні штэмпель яшчэ аднойчы, вядома, не трапляючы дакладна ва ўжо адбіты малюнак, і другі раз цяў малатком. Такі эфект магчымы і ў выпадку, калі майстар, адняўшы вышні штэмпель, адразу заўважаў пэўны хіб у ягоным адбітку і дзеля яго выпраўлення цяў яшчэ раз (манета пры гэтым трывала знаходзілася ў счапленні са штэмпелем сподні́м). Гэткія дэфекты сустракаюцца рэдка, што можна патлумачыць высокай ступенню «аўтаматычнасці» дзеянняў майстра, для якога адначасовыя праверкі якасці сваёй працы былі б



*Паўгрош 1560 года з кветачкай над арлом*



*Паўгрош 1563 года з крыжамі над «Пагоняй» і арлом*







*Паўгрош 1563 года з перарэзанай апошняй лічбай у даце*

*Паўгрош 1564 года з арлом у кароне*

неэфектыўнымі. Ніводнага разу яны нам не трапіліся ў паўгрошах Жыгімонта Аўгуста.

3. Абодвух бакоў моцна пасунутымі адбіткамі штэмпеляў у выніку паўторнага адбіцця па няўдала выбітай манеце. Вынікі працы прэгера падлягалі выхадному кантролю якасці, і найменш удалыя адбіткі вярталіся на папраўку. Майстры, якія перабівалі бракаваныя кружкі, не марнавалі часу на тое, каб дакладна трапіць у малюнак першага адбітку, што зразумела, бо ў выпадку ідэальнай моцы і дакладнасці другога першы адбітак ставаў нябачным. Аднак тае самае дакладнасці і моцы ім не заўжды ставала, сведкамі чаго ёсць манеты з моцна пасунутымі восямі абодвух адбіткаў, і нават такія, дзе кожны з бакоў нясе часткі выяў і аверса, і рэверса. Апошні факт пацвярджае і тое, што хібы на манетах выпраўляліся не адразу, а пасля кантролю. Дарэчы, для кантролю якасці прадукцыі на Віленскім манетным двары яшчэ пры Аляксандры (а магчыма, і раней, але ў іншым выглядзе) на манетах пачалі ставіцца маленькія колцы, аналагаў чаму не было ў той час у польскай манетнай справе.

Сустракаюцца і манеты з даволі сур'ёзна пасунутымі адбіткамі штэмпеляў, але выклікаванымі іншай










*Паўгрошы 1566 года з гербам «Ястрабец»*

прычынай. Такі прыклад відаць на паўгрошы 1557 года. Верагодна, пры першай спробе выбіць манету майстар выканаў аперацыю неакуратна, альбо зашкодзіў яму хтосьці іншы. Паўгрош адбіўся часткова, пры гэтым павярнуўшыся на некалькі градусаў. Другім адбіткам майстар скончыў справу, пакінуўшы нязначныя сляды першай спробы, што не адразу і заўважыш няўзброеным вокам.

Наступную вялікую групу складаюць мясцова неадбітыя паўгрошы. Яны паўставалі, калі прэгер няроўна прыкладаў вышні штэмпель. Такім чынам, моц ягонага адбітку нераўнамерна размяркоўвалася па полі манеты, што прычынілася да адсутнасці малюнка ў адным месцы з абодвух бакоў. Манеты з вялікім неадбіткам перабіваліся, а з нязначным выпускаліся ў абарачэнне.

Апроч класічнага бакавога сустракаюцца і іншыя віды неадбіткаў. Да прыкладу, існуюць манеты, неадбітыя па дыяметры. Яны ўтвараліся на манетным кружку, які быў нязначна выгнуты пад прабойнікам. Падчас прэгавання кружок раўняўся, але штэмпель прыкладаўся да розных бакоў манеты нераўнамерна. Больш-менш рэгулярна трапляюцца паўгрошы з гэткай хібай сярод тых, што выйшлі



з Віленскага манетнага двара ў 1520-ых гадах. Пазней гэтая праблема была выпраўлена і больш не ўзнікала.

Наступная, вельмі пашыраная загана прэгавання, звязаная з няпоўным адбіццём выявы, — біццё зношанымі і пашкоджанымі штэмпелямі. Вылучна распаўсюджаная ў часы Аляксандра, яна відаць і на даволі значнай частцы манет Жыгімонта Старога. Толькі ў часы Жыгімонта Аўгуста да стану штэмпеляў сталі адносіцца больш адказна. Так, знакаміты польскі сістэматызатар нумізматычнага матэрыялу Эдмунд Капіцкі ўлучыў у свой грунтоўны каталог падобную варыяцыю паўгроша Аляксандра. Ён нібыта не мае абводкі паміж «Пагоняй» і легендай на аверсе. Памылка пазней перайшла з ягонае кнігі ў некаторыя іншыя. Аднак манет, якія наўмысна выпускалі без абводкі, не было. Дробныя пазы «перлінавае» абводкі на штэмпелях забіваліся брудам і металам і ўжо не выконвалі свайго прызначэння. Існуе шмат варыяцый паўгрошаў Аляксандра, дзе відаць толькі частка абводкі, альбо, напрыклад, твар вершніка ці нага каня маюць зусім няпэўныя відарысы. Усе гэтыя заганы абумоўленыя зношанасцю штэмпеля.

Працоўныя штэмпелі звычайна выраблялі шляхам адціску з пазітыўнае выявы матрыцы, якія, у сваю чаргу, адціскаліся з узорных штэмпеляў. Апошнія выконваліся толькі галоўнымі майстрамі манетнага двара, у той час як працоўныя штэмпелі мог выраблядь вучань. Для гэтага выкарыстоўвалі пунсоны з выявамі асобных, часта сустраканых элементаў малюнка манеты. З дапамогай пунсонаў на штэмпель наносіліся літары, лічбы, знакі, абводкі, дзяржаўныя гербы. Пасля гэтага майстру заставалася толькі падправіць драбніцы — і штэмпель быў гатовы да ўжытку. Пунсоны былі прыватнай уласнасцю манетнага майстра — разьбяра штэмпеляў.

Выкананне штэмпеляў было складанай тэхналагічнай аперацыяй. Ніжні штэмпель, пры добрым уменні малатабойцы, мог ставаць на выбіццё прыкладна 10—15 тысяч манет, а верхні — дзесьці на ўдвая менш, таму апошнія прыходзілася часцей мяняць. Трываласць штэмпеляў залежала ад мноства чыннікаў — якасці жалеза, ступені загартоўкі,

таўшчыні кружка, умеласці майстра. Адно няўдалае адбіццё (напрыклад, моцна нецэнтрычнае) магло знішчыць штэмпель.

Сярод рэдка сустраканых дэфектаў можна вылучыць аднабаковыя манеты тыпу «пазітыў/негатыў» і нецэнтрычна выбітыя манеты. Раз-пораз і гэткія траплялі ў абарачэнне. Першыя звычайна маюць даволі добры адбітак рухомага штэмпеля і чэзлы адбітак негатыва таго ж самага штэмпеля на другім баку. Гэтак адбывалася, калі прэгер забываўся ссунуць са сподняга штэмпеля ўжо адбітую манету і клаў на яе другую. У выніку на апошняй адбіваўся толькі рэверс, а замест аверсу атрымліваліся відарысы рэверсу папярэдняе манеты. Другія паўсталі ў выніку недакладнага памяшчэння манетнага кружка на сподні штэмпель ці недакладнага прыкладання вышняга.

Аднаго разу трапіўся таксама цікавы паўгрош 1563 года, які з двух бакоў манетнага кружка мае невялічкія выемкі, нібы ён быў выраблены па старадаўняй «рускай» методыцы, з разрэзанага дроту.

Выпуск паўгрошаў Вялікага княства, аднастайных па сваёй стапе і пробе, цягнуўся, з невялічкім перапынкам, да 1529 года. Наноў адчыніўшы Віленскі манетны двор у 1545 годзе, Жыгімонт Аўгуст працягнуў выбіваць гэтыя папулярныя манеты ў аграмадных колькасцях, што абумовіла іхні шырокі распаўсюд па абшарах ВКЛ. Толькі ў 1558 годзе проба паўгроша была зніжаная на паўлота, што было сустрэта насельніцтвам з абурэннем. Апошні літоўскі паўгрош быў адбіты ў 1566 годзе ў памежным з Польшчай Тыкоціне.

У XVI стагоддзі на Беларусі моцна павышаецца ўзровень таваравытворчасці. Працягваецца інтэнсіўны рост гарадоў, чаму спрыяе ўлада праз ільготы і прывілеі для жыхароў, што жадалі займацца рамёствамі. Ужо неўзабаве пасля пачатку эмісій Аляксандра віленскія паўгрошы апанавалі ўсе сферы жыццядзейнасці ў нашай краіне. Гэтыя манеты бясспрэчна дамінуюць ў скарбах першай паловы XVI стагоддзя ад Падляшша да Смаленшчыны. Падобную ж пазіцыю займалі яны і на Украіне. Манетны інтэрнацыянал, які курсаваў там яшчэ ў



XV стагоддзі, цалкам саступае сваё месца на карысць паўгроша ВКЛ, які пачынае сустракацца ў скарбах па ўсёй яе тэрыторыі. На доўгі час паўгрош стаў паноўнай грашовай адзінкай і сродкам гандлю ўсяе краіны. Ён меў сталы курс да паўгроша польскага, які раўняўся чатыром пенязям літоўскім.

У Польшчы скарбы пачатку XVI стагоддзя, што месцяць паўгрошы, складаюць сціплую частку з памежных з ВКЛ тэрыторыяў — у вузкім поясе ад Падолля да Мазовіі. Гэта было выклікана тым, што Вялікае княства працягвала карыстацца сваёй старажытнай дзесяцічнай грашовай сістэмай, адрознай ад польскай нагэтулькі, што ўзаемнае пранікненне манет не стала значным нават пры вялікай ступені палітычнай інтэграцыі. У ніклай колькасці сустракаюцца паўгрошы ў скарбах сучасных Латвіі і Эстоніі. З-за метралагічнае несумяшчальнасці, натуральна, не былі яны шырока распаўсюджаныя і ў Маскоўскай дзяржаве. Трапілі паўгрошы і ў «далёкае» замежжа, а менавіта ў Сяміградздзе, Славачыну, Малдову, але ўжо ў канцы XVI стагоддзя, калі з абраннем на велікакняскі пасад Стафана Баторыя



*Пенязь Аляксандра*

пашырыўся адток добрай літоўскай і польскай манеты ў тыя землі.

Рынак хутка прывык да паўгрошаў, бо яны не мянялі даўняй вялікалітоўскай сістэмы разлікаў. Цяжэй было адвыкаць. Амаль стагоддзе пасля таго, як сама сістэма была скасаваная, а значыцца, паўгрошы ВКЛ сталіся «не свабодна канвертаванымі», яны сустракаюцца ў скарбах, часам у вялікіх колькасцях.

Паўгрошы былі асноўным, але не адзіным складнікам монаметалічнай грашовай сістэмы ВКЛ. Яшчэ з часоў Ягайлы эмітаваліся літоўскія пенязі. Пенязі





Аляксандра выглядалі зусім па-іншаму, замест колішняга надпісу па-беларуску адзіным элементам легенды яны мелі ініцыял князя — літару «А». Шматгадовымі эмісіямі пенязяў адзначыўся і Жыгімонт Аўгуст.

Яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя панятак лічэбнага літоўскага гроша, на той час не існага ў якасці рэальнай манеты, увайшоў у шырокі ўжытак. Іншымі элементамі сістэмы, што таксама існавалі толькі ў лічэбным выглядзе, былі копы (60 грошаў) і рублі (100 грошаў, адпаведна са старадаўняй дзесяцічнай сістэмай). Лік на грошы літоўскія, ці шырокая лічба, згортваўся ў копы, радзей у рублі, хоць на той час рэальныя рублі ўжо не курсавалі. Гэтак, у лісце 1527 года з Літоўскае метрыкі сцвярджаецца, што шляхціц Іван Глябовіч купіў сабе землі за «осмъ рублевъ грошеи широкое личбы». Гэткае найменне літоўскага гроша прадвызначылася яговым курсам, большым на два пенязі ў параўнанні з грошам польскім. У першай палове XVI стагоддзя апошнім у разліках на Беларусі амаль не карысталіся, але калі даходзіла да яго ўжытку, яго інакш менавалі вузкім. Пражскія грошы, што раней мелі менавіта такі назоў (шырокія), але страцілі сваё значанне ў грашовым абарачэнні краю з пачаткам масавых эмісій паўгрошаў ВКЛ, у дакументах цяпер называліся грошамі чэскае лічбы.

Вядомы фразеалагізм, ужыты ў дакуменце з таго ж самага году багатым берасцейскім яўрэем Ізакам Езафовічам, братам памерлага Абрама. Апошні, між іншым, у свой час быў дзяржаўцам Віленскага манетнага двара і пакінуў значны след у яго дзейнасці. Але гэтым разам ішлося пра іншае. Ізак упамянуў у лісце свайго другога брата, Міхала. Абрам і Міхал «в которомъ же ся они братъстве были от сорока лет, робили и добывали на один грошъ». Гэтак ён адзначаў сумесную працу братоў на карысць радзіны. Далей Ізак у духу таго часу ўдакладніў, што меў на ўвазе пад адным грошам, падаўшы доўгі спіс нажытых разам каштоўнасцей: «и он делилъ его с нимъ золотомъ, серебромъ и перлы, и каменемъ дорогимъ, и перстени золотыми, и оксамиты, одомашки, отласы, табины и цевочнымъ золотомъ, чамлеты, чарусы, сукны дорогими и дешо-











*Грош 1535 года, лістападаўская эмісія*

*Грош 1536 года, студзеньская эмісія*

*Грош 1556 года*

выми, и шубы, и япончами, шины, железомъ и шатами их и жонъ их, и зверемъ мохнатымъ, куницами, лисицами, горностаи, ласицы и иными многими речми, и к тому пнзми готовыми...» Багацце братоў Езафовічаў уразіла б і сучаснага мільянера, тым больш што ўсё яно было зароблена братамі супольна, «на адзін грош».

У 1535—1536 гадах былі адбіты першыя манетныя грошы ВКЛ. Яны мелі унікальную асаблівасць — апроч года, на большасці манет пазначаўся і месяц выбіцця. Магчыма, гэта быў працяг традыцыі адзначаць чарговасць выбіцця даўнейшых паўгрошаў колцамі ў канцы легенды. Да таго часу грош шырока ўжываўся ў лічэбным значанні.

Жыгімонт Аўгуст выбіў шырокія літоўскія грошы ў 1545—1546 гадах, а таксама у 1555—1559 га-



дах. У другой палове 1560-ых кампанентныя гатункі традыцыйнай вялікалітоўскай монаметалічнай сістэмы перасталі эмітавацца, у 1569 годзе адной з умоў Люблінскай уніі стаў поўны пераход усяго гаспадарства на польскую манетную сістэму, а ўжо па абранні Стафана Баторыя выйшла манетная ардынацыя апошняга, якая ўводзіла польскую сістэму дэ-факта. Гэтак скончылася амаль двухсоттадовая гісторыя апрычонасці і адметнасці ўласнай старажытнабеларускай грашовай сістэмы.

Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя : у 2 т. Т. 1. Мінск, 2005.

*Рябцевич, В.* Нумизматика Беларуси / Валентин Рябцевич. Минск, 1995.

*Ivanauskas, E.* Lietuvos monetų kalybos istorija 1495—1769 / Eugenijus Ivanauskas, Robert J. Douchis. Vilnius, 2002.

*Ivanauskas, E.* Lietuvos pinigų lobiai / Eugenijus Ivanauskas. Vilnius, 1995.

*Kopicki, E.* Ilustrowany skorowidz pieniędzy polskich i z Polską związanych / Edmund Kopicki. Warszawa, 1995.

*Kuźmin, A.M.* Organizacja mennic i techniki mennicze w Polsce XVI—XVII w. / A.M. Kuźmin. Warszawa, 2003.

Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 12 (1522—1529). Vilnius, 2001.



# АБЫВАЦЕЛІ НЯБЁСАЎ ПАСМЯЮЦЦА З ВАС...

***Акцэнт сёмы:***
*Стагоддзе траякоў*

**Стагоддзе** Рэнесансу дыктавала змены ў грамадскім жыцці, у тым ліку мяняліся і грашовыя сістэмы. Адбываўся павольны пераход ад сярэднявечных сістэм з двума-трыма наміналамі (адным асноўным) да сістэм новага часу з вялікай колькасцю наміналаў.

Не абышлося і без каталізатара гэтых пераўтварэнняў, які прыйшоў з Захаду. Са станаўленнем











*Траяк торуньскі (1535)*

*Траяк гданьскі (1540)*

*Траяк прускі, г. Каралявец (1535)*
















*Траяк літоўскі (1546)*

*Траяк літоўскі (1562)*

*Траяк літоўскі (1564)*

*Траяк «сатырычны» (1565)*

моцнай польскай дзяржавы шырокае распаўсюджанне атрымала ідэя аб'яднання грашовых сістэм краін, уцягненых у арбіту палітычнага ўплыву Польшчы, у агульную, заснаваную, вядома, на ўласна польскай. Першая спроба ажыццяўлення гэтых планаў была здзейсненая ў 1508 годзе, калі на Наваградскім сойме абмяркоўваліся варункі новага адкрыцця Віленскага манетнага двара. Тады вярхі



Вялікага княства адпрэчылі прапанову палякаў зраўняць курс літоўскіх і польскіх паўгрошаў, што прывяло б да скасавання адметнай манетнай стапы ВКЛ.

Болей пашчасціла Польшчы ў перамовах са сваімі леннікамі — Прусамі Каралеўскімі і Княскімі. За некалькі гадоў грашовае абарачэнне гэтых краёў змянілася да непазнавальнасці. Галоўны ўплыў на згаворлівасць прускіх урадаў аказала стварэнне новай, шматнаміналавай грашовай сістэмы ў Польшчы. Яна сапраўды была вельмі прагрэсіўнай і праіснавала з невялічкімі зменамі ажно да часоў Яна Казіміра. Сістэма нараджалася ў дыскусіях слынных тэарэтыкаў манетнае справы — Ёста Людвіка Дэцыя і Міколы Каперніка. Быў прыняты праект першага, бо Дэцый валодаў пэўным досведам у манетнай справе і ўлічваў інтарэс дзяржавы ў эмітаванні грошай. Капернік жа стаяў на пазіцыях беспрыбытковага біцця манеты, пры якім яе намінальная вартасць была большай за фактычную толькі на велічыню выдаткаў на яе выраб.

Галоўным штуршком для ўзнаўлення актыўнай заканадаўчай дзейнасці ў Польшчы паслужыла замяшанне, выкліканае сілезскімі паўгрошамі Людвіка з Ягайлавічаў, караля Чэхіі і Венгрыі, што выглядалі аднолькава з кароннымі, але былі меней якаснымі. Гэтыя манеты прымаліся людам за польскія, прыносячы фінансавую шкоду дзяржаве і падрываючы яе грашова-разліковую сістэму. У 1520-ыя гады паступова пагаршалася і якасць прускіх манет, асабліва грошаў Альберта Гагенцолерна. Такім чынам, пры канцы дзесяцігоддзя польскія рынкі былі залітыя чужаземнай нізкаякаснай манетай пры тым, што мясцовай не эмітавалася з 1511 года.

У 1526 годзе была прынятая першая пастанова аб пераўтварэнні польскай грашовай сістэмы. Асноўным наміналам станавіўся грош, які пачаў выпускацца ў тым жа годзе. Апроч яго, у Кракаве біліся тэрнары і пенязі, затое не было болей паўгрошаў, якія страцілі давер насельніцтва Польшчы. Трэба адзначыць, што ў той жа час грашовая сістэма Вялікага княства Літоўскага не патрабавала падобных зменаў, бо літоўскія паўгрошы па-ранейшаму карысталіся высокім даверам. Падзяліўшы ўсю манету, якая мела абарачэнне ў Польшчы, на добрую і благую,











*Траяк польскі, г. Олькуш (1579)*

*Траяк літоўскі (1580)*

*Траяк літоўскі (1581)*

Людвік Дэцый у сваім трактаце «De monete cussione ratio» аднёс усе паўгрошы ВКЛ да першай катэгорыі. Абарачэнне ВКЛ не спазнала ў якой-колечы заўважнай меры крызісу нізкаякасных манет, і таму на той час не дайшло да прыняцця нават гэтай, прагрэсіўнай польскай сістэмы. У 1535—1536 гадах былі выбіты шырокія грошы Вялікага княства па даўнейшай, адметнай вялікалітоўскай стапе.

Новая польская ж сістэма стала насамрэч прагрэсіўнай праз паўтара гады, у лютым 1528-га, калі была прынята новая ардынацыя, зноў падрыхтаваная Дэцыем. У ёй пастанаўлялася выбіваць новыя гатункі манет — траякі і шастакі са «свідніцкага», 6-лотавага серабра. Гэта азначала, што яны мусілі вырабляцца наўпрост з выкупленых у насельніцтва сілезскіх паўгрошаў, без папярэдняга ачышчэння серабра.









*Траяк літоўскі (1585)*

*Траяк літоўскі (1585) («Пагоня» з плюмажам)*

*Траяк рыжскі (1586)*

Гэтая сістэма і была прынятая Прусіяй з чыста прагматычнага гледзішча, як спрыяльная для эканамічнага развіцця. Яна парадзіла найбольш папулярную манету Усходняй Еўропы наступнага стагоддзя — траяк, які дасягнуў вялікай папулярнасці і на Беларусі, асабліва з часоў Стафана Баторыя. Пакуль жа ён меў кшталт даволі вялікае манеты вагой каля 6,2 грама. Налета, у 1529 годзе, дайшло да новай рэдакцыі ардынацыі Кароны, дзе проба траяка павышалася да 14 лотаў, адпаведна памяншаліся дыяметр і вага, а таксама дакладна апісваўся вонкавы выгляд манеты. Гэтыя змены адбыліся на просьбу Прус Каралеўскіх, якія вялі найактыўнейшы гандаль з Заходняй Еўропай і патрабавалі наяўнасці ў абарачэнні высакапробнае манеты. Манетныя двары галоўных гарадоў гэтых земляў — Гданьска, Торуні і Эльблёнга — занялі паноўнае месца ў эміта-





ванні польскай манеты з самага пачатку 1530-ых гадоў і ажыццявілі першыя эмісіі паспалітых траякоў у тым выглядзе, у якім мы і цяпер прызнаём іх за адныя з найпрыгажэйшых манет нашай гісторыі. Адзін з бакоў класічнага траяка месціў чатырохрадковы надпіс, які складаўся з абазначэння намінальнай вартасці і зямельнай прыналежнасці манеты, а таксама герб і дату. На другім баку быў партрэт эмітэнта і ягоная тытулатура.

Праз некаторы час дайшло і да першых траякоў ВКЛ, праўда, яны былі выбітыя... па польскай стапе. Малады вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, апошні Ягайлавіч, заняў вялікалітоўскі пасад яшчэ пры жыцці бацькі, у 1544 годзе. Ён энергічна ўзяўся за рэфармаванне старажытнай грашовай сістэмы Вялікага княства, але дзейнічаў паступова і абачліва. У 1545 годзе пад кіраўніцтвам Івана Гарнастая зноў адчыніўся Віленскі манетны двор. У ім працягнулася эмісія традыцыйных яшчэ з сярэднявечча мясцовых гатункаў манеты — пенязяў, паўгрошаў і грошаў. А ўжо налета ў Польшчы пабывала дэлегацыя ВКЛ з мэтай заключэння грашовай уніі. З 1546 года, адначасова са старымі наміналамі, у Вялікім княстве пачаўся выпуск манет па польскай стапе — грошаў, траякоў і шастакоў. Выгляд новых манет адпавядаў польскай ардынацыі 1529 года. Фактычна, у адной краіне сталі выбівацца манеты дзвюх абсалютна розных грашовых сістэм. Для выкупу з абарачэння нізкаякаснай іншаземнай драбязы быў уведзены і зусім унікальны намінал — пенязь малы, удвая горшы за традыцыйны літоўскі пенязь. Варта ўзгадаць, што вытворчасць польскіх гатункаў несла выразны экспартны характар, у той час як традыцыйныя наміналы прызначаліся для курсавання ў самой краіне. У тым жа годзе кіраўніцтва Віленскім манетным дваром прыняў Ян Лютамірскі. Вельмі абмежаваным накладам былі выпушчаны першыя залатыя манеты нашай радзімы — фларыны, якія, бадай, не выйшлі за межы каралеўскага двара, бо неслі дэкларатыўна-ўзнагародны, а не грашовы характар.

У 1548 годзе эмісіі польскіх гатункаў былі прыпыненыя, і з 1549 года ізноў у ВКЛ біліся толькі наміналы старажытнай вялікалітоўскай сістэмы.









*Траяк літоўскі (1589)*

*Траяк літоўскі (1590)*

*Траяк літоўскі (1595)*

Адзіны вынятак на працягу наступных 13 гадоў — якраз траяк па польскай стапе 1556 года, зрэшты, сумнеўны, бо вядомы толькі ў адным экзэмпляры з былога збору беларускага графа Эмерыка Гутэн-Чапскага, нашчадка Радзівілаў па жаночай лініі, што меў сядзібу ў Станькаве пад Мінскам. На жаль, граф быў не ўсвядоміўшыся свае беларускасці і аддаў сваю выключна багатую калекцыю, сабраную галоўным чынам на нашых землях, Нацыянальнаму музею ў Кракаве. Так ці інакш, гэтыя траякі не занялі якога-кольвек значнага месца ў грашовым абарачэнні краю.

Тым больш нечаканым быў выпуск у 1562 годзе новых вялікалітоўскіх траякоў, ды не па польскай, а па старадаўняй літоўскай стапе! Тым больш яны мелі выразна іншы дызайн, далёкі ад пастанаўленняў ардынацыі 1529 года. Замест чатырохрадковай легенды ўводзіўся надпіс у абтоку, цэнтральнае мес-














*Траяк літоўскі (1596)*

*Траяк літоўскі (1598) з гербамі «Бык» і «Лебедзь»*

*Траяк літоўскі (1599) з гербамі «Лебедзь» і «Гак»*

*Траяк літоўскі 1601 года з памылковай датай «1001»*

ца, як і на традыцыйных пенязях, паўгрошах і грошах, займала велічная «Пагоня», а дата пераносілася на другі бок, дзе партрэт эмітэнта быў заменены на ягоную манаграму. Пазней у тым жа годзе «Пагоню» змясцілі ў геральдычную тарчу пад велікакняскай мітрай. Так былі парушаны прадпісанні ардынацыі 1529 года. Узнікае пытанне, ці сапраўды гэта былі траякі па літоўскай стапе? Так, насам-







*Траяк літоўскі (1602)*

*Траяк рыжскі (1594)*

рэч, вага манет была большая за папярэднія выпускі траякоў. Але ці заставалася той самай проба? Вядома, што прыбыткі манетнага двара ў часы Жыгімонта Аўгуста ўжо не сягалі тых значных сум, як пры ягоным бацьку. У 1558 годзе проба паўгроша і пенязя была паніжаная на паўлота. Пры гэтым не толькі павялічваўся прыбытак скарбу ад біцця манеты, але і ўскосна праводзілася іншая мэта — літоўскі паўгрош страчваў у пробе, а значыць —. набліжаўся па якасці да паўгроша польскага. Апошнія на той час не эмітаваліся, таму іх якасць заставалася на адным узроўні. Адпаведна, у літоўскіх траяках (гіпатэтычных, бо яшчэ няісных) проба серабра павінна была таксама паменшыцца. Інакш гэтая манета была б задобрая і вывозілася б з краю, прыносячы яму фінансавую шкоду. Ды й манет для Польшчы не эмітавалася з 1548 года, што магло выклікаць нястачу наяўных грошай на рынку Кароны. Калі яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя на сеймах узнікалі жарсныя спрэчкі пра ўзаеміны літоўскага і польскага паўгрошаў, дык з пагаршэннем якасці першага палякі тым больш не маглі добраахвотна прымаць 4 літоўскія грошы за 5 сваіх. Урэшце, зніжэнне пробы траяка ўскосна пацвярджае і той





факт, што новыя буйныя гатункі манет, якія з'явіліся ў 1565 годзе, дваяк і чворак, ані не прытрымалі пробы, згоднае з ардынацыямі канца 1520-ых (для буйных наміналаў). Замест 14 іхняя дабрыня ледзьве дасягла толькі 10,5 лота. Такім чынам, амаль пэўна можна сцвярджаць, што новы літоўскі траяк меў у Польшчы курс, роўны траяку польскаму.

1565—1566 гадамі датуецца адна з найзнакамітшых манет нашай гісторыі — «сатырычны» траяк з чатырохрадковай легендай ***QVI HABITAT IN COELIS IRRIDEBIT EOS*** («Абывацелі нябёсаў пасмяюцца з вас»). Дагэтуль сярод даследнікаў няма згоды, што значыць гэтая легенда. Безумоўна толькі тое, што ўсе версіі можна падзяліць на дзве асноўныя падгрупы — траяк выбіваўся з санкцыі альбо вялікалітоўскага, альбо польскага (сюды ўлучым і асабістую санкцыю Жыгімонта Аўгуста, праз якога толькі і маглі дзейнічаць палякі) боку.

Заўважна, што гэткі надпіс фармальна вяртае манету ў прававое поле ардынацыі 1529 года. Праўда, пры імені вялікага князя выяўлены не ягоны партрэт, а «Пагоня». Стапа гэтага траяка адпавядае траякам 1562—1564 гадоў, што, падобна, былі пераходнымі ад літоўскага да польскага, як паказана вышэй, і абарачаліся як у ВКЛ, гэтак і ў Кароне. Даволі верагоднай выглядае версія, што прычынай з'яўлення «сатырычных» траякоў сталася незадаволенасць польскіх вярхоў у адхіленні манетнай палітыкі краіны (нагадаем, што ў гэты час манеты ВКЛ выбіваліся і для Польшчы) ад узятага курсу да аб'яднання грашовых сістэм, што ўжо поўнай хадой ішоў да завяршэння. Грашовы гатунак, які ў 1562 годзе «адышоў» ад плану па сваім дызайне і, магчыма, у некаторай ступені, па стапе, быў траяк. Польшча магла ўзняць на адным з сеймаў пытанне аб тым, што манеты абавязкова выбіваць у поўнай адпаведнасці з ардынацыяй 1529 года, на што вялікалітоўскі бок, не могучы супярэчыць наўпрост, адказаў здзеклівай легендай, але ў адпаведнасці з патрабаваннямі да дызайну.

Нераспрацаваная, але даволі перспектыўнай застаецца версія, што рэлігійную зброю ўжылі ў выніку рэлігійных жа спрэчак унутры Вялікага княства, дзе ў той час ішло актыўнае змаганне пратэстанцт-









*Траяк польскі, г. Олькуш (1590)*

*Траяк польскі, г. Мальбарк (1592)*

*Траяк польскі, г. Быдгашч (1598)*

ва супраць безальтэрнатыўнасці ў краіне каталіцтва, што ініцыравалася польскай партыяй на чале з каралём.

Дзве іншыя версіі, што сцвярджаюць накіраванасць эмісіі супраць польскага боку, указваюць на палітычны сэнс лозунга. Ці гэта агульны пратэст народа ВКЛ да палякаў і караля, што спрабуюць падняволіць сваёй уладзе дзяржаву, ці выкрыццё непрыхаванага задавальнення палякаў з прычыны смерці галоўнага абаронцы незалежнасці Вялікага княства Мікалая Радзівіла Чорнага.

Варта прыгадаць, што менавіта замяніла цытата з другога псальма Давыда — назоў гаспадарства. Гэткая замена была б надта абразлівай, калі б сыходзіла ад палякаў ці Жыгімонта. Што праўда, апошні ўжо адмовіўся ад усіх сваіх правоў на ВКЛ на карысць Кароны ў 1564 годзе, што было не менш























*Траяк польскі, г. Кракаў (1601)*

*Траяк польскі, г. Кракаў (1619)*

*Траяк курляндскі (1598)*

*Траяк малдаўскі Ярома Магілы*

адыёзным з вялікалітоўскага гледзішча крокам. На апошнім грунтуецца версія І. Сінчука і Д. Грымалоўскай, што манета была адбітая з санкцыі Жыгімонта. Даследнікі прыводзяць звесткі, што Мікалай Радзівіл Чорны ў сваёй карэспандэнцыі з каралём і вялікім князем у жніўні 1564 года цытаваў адзін з псальмоў Давыда, параўноўваючы апошнія няшчасці абедзвюх Рэчаў Паспалітых з нядоляй, што чакае












*Траяк семіградскі (1613)*

*9 пеняъзяў вугорскіх (1623)*

*Траяк, г. Рагуза (1629)*

грахоўнікаў паводле Святога Пісання. Сам другі псальм Давыда ў агульным сэнсе сцвярджае богамдадзенасць зямное ўлады сваім «памазанікам» і марнатраўства тых, хто ім супрацьпастаўляецца. Гэтак, кароль нібы на манетах пабіваў апанента ягонай жа зброяй, перасцерагаючы, што анічога той не даможацца, калі ўжо сам «памазанік» пастанавіў далучыць Вялікае кяства да Кароны Польскае. Супярэчнасць гэтай вельмі верагоднай версіі палягае хіба ў тым, што на другім баку манеты перад тытулатурай уладара не стаіць тае самае адсылкі на богамдадзенасць ягонае ўлады — прыстаўкі ***D.G.*** *(DEI GRATIA* — з Божае Ласкі), што змяшчалася на некаторыя манеты пачынаючы ўжо з 1562 года. Але гэта не можа быць сур'ёзным довадам супраць, бо сама формула ***D.G.*** упершыню з'явілася на манетах ВКЛ толькі нядаўна. Ужо ў наступ-







*Траяк літоўскі з дзіркай (1593)*



*Залачоны траяк літоўскі (1595)*



*Тагачасная падробка літоўскага траяка Стафана Баторыя*

ным, 1566 годзе эмісія абразлівых траякоў была назаўсёды перапыненая.

Вядомыя яшчэ і буйныя траякі Вялікага княства з серабра кепскае пробы, датаваныя 1562 годам. Яны па сваім памеры, дабрыні і вонкавым выглядзе найболей нагадваюць першыя кракаўскія траякі ўзору 1528 года, што вырабляліся з выкупленых у насельніцтва свідніцкіх паўгрошаў. Верагодна, таму ў нумізматычнай літаратуры часта сустракаецца азначэнне гэтых манет як «траякоў са свідніцкага серабра». Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасці. Свідніцкія паўгрошы на той час ужо не мелі заўважнага значэння ў грашовым абарачэнні ні ВКЛ, ні нават Польшчы. Манеты былі ў асноўнай масе даўно выкупленыя ў паспалітага люду, а мінулыя праблемы, звязаныя з імі, — забытыя.





*Тагачасная падробка кароннага траяка Стафана Баторыя*




*Тагачасная падробка траяка Жыгімонта Вазы з фантастычнай датай «1900»*



*Тагачасная падробка траяка Жыгімонта Вазы*

Што ж магло паслужыць прычынай для выбіцця гэткіх нетыповых для свайго часу траякоў? Захаваныя на сёння манеты гэтага тыпу вызначаюцца надзіва благім станам. Відавочна, што штэмпелі для буйных траякоў выраблялiся тэрмінова. Выкарыстанне серабра нізкай пробы, уласцівай для дробных грашовых гатункаў, бясспрэчна даводзіць тое, што траякі біліся альбо з серабра, падрыхтаванага для выбіцця нізкапробнай манеты, альбо з самой нізкапробнай манеты. У першым выпадку відавочна, што толькі тэрміновая нястача манет буйных гатункаў на рынку (ці тэрміновая неабходнасць платы вайсковым наймітам) магла выклікаць адмову ад аднаго наміналу, што планавалася выбіць, на карысць другога. Але рынак быў звыклы да паўгрошаў нізкае, але пэўнае пробы, тым больш што ў 1562 годзе не назіраецца зніжэння інтэнсіўнасці





выбіцця апошніх (ад якіх мелі б «адарваць» частку накладу разгляданыя траякі). Тым болей дзіўным выглядае выпуск гэткіх нізкапробных траякоў аднначасова з высакапробнымі, бо апошнія, значна болей шматлікія, здаецца, лепей прыдаліся б да выплат замежным наймітам. Такім чынам, найбольш верагодна, што гэтыя манеты эмітаваліся трохі пазней, магчыма ўжо па Люблінскай уніі, але не раней за выпуск апошняга «правільнага» з гледзішча дабрыні траяка, гэта значыць 1566 года. Была ўжытая адна з апошніх «легальных» датаў (1562), бо на час выбіцця эмісіі траякоў ужо былі забароненыя. Прынука ж да выпуску была. У 1566 годзе па завышанай стапе былі выбітыя літоўскія паўгрошы з гербам «Ястрабец», якія хутка выклікалі незадавальненне ў насельніцтва. На прускім сейміку 1567 года прагучалі скаргі на ліхасць гэтых манет. Пашыраўся новы скандал у манетнай справе (адразу па яшчэ памятным «сатырычным»), што да ўмяшальніцтва Польшчы было не характэрным для стабільнай грашовай сістэмы ВКЛ. Каб безадкладна залагодзіць яго, кепскія паўгрошы, што не паспелі трапіць у абарачэнне (або і некаторыя выкупленыя), тэрмінова перабілі ў траякі.

Наступныя вялікалітоўскія траякі біў ужо толькі Стафан Баторый у час, калі ад былой адметнай грашовай сістэмы ВКЛ не засталося і сляда. Ягоная ардынацыя 1580 года была абвешчана як для наноў адкрытых польскіх, так і для вялікалітоўскіх манетных двароў. Гэтак пачаўся перыяд Рэчы Паспалітае Абодвух Народаў у манетнай справе ВКЛ, калі апошняя нічым ужо не рознілася ад польскай і суіснавала побач з ёй як складовая частка аднаго цэлага. У новай грашовай сістэме цэнтральнае месца заняў траяк. Нягледзячы на тое што традыцыйныя літоўскія паўгрошы трапляюцца ў скарбах нават XVII стагоддзя, яны паступова выціскаюцца з рынку менш вартаснымі манетамі новых эмісій. Літоўскія траякі біліся бесперапынна з 1580 да 1586 года, года смерці Стафана. З 1581 да 1583 года на траяках з'явіўся герб «Ляліва» падскарбія Вялікага княства (пасада, аналагічная сённяшняму міністру фінансаў) Яна Глябовіча. З 1585—1586 гадоў вядомыя траякі з гербам Льва Сапегі «Ліс».



Вельмі шырокі распаўсюд у Вялікім княстве атрымалі траякі Рыгі, якая пры Баторыі ўвайшла ў склад Рэчы Паспалітае. Рыга, што мела багатыя манетныя традыцыі як уласных эмісій, гэтак і выпуску манет для Лівонскага ордэна, пачала выбіццё манет па польскай стапе, найперш траякоў і шэлегаў. У 1578 годзе адчыніўся каронны манетны двор у Олькушы, а ў 1584 — у Познані, дзе таксама найбольш пашыраным гатункам манет стаўся трак. Ужо з тых часоў у дзяржаве і за мяжой пачалі актыўна падрабляць новую ўпадабаную манету. Вядома процьма яе самых мудрагелістых тагачасных падробак. Аднак то быў толькі пачатак найшыршае экспансіі гэтых прыгожых манет на рынкі не толькі Рэчы Паспалітае, але і ўсяе Усходняе Еўропы.

Сапраўды масавымі эмісіі траякоў сталі з узыходам на польскі і вялікалітоўскі пасады шведскага каралевіча Жыгімонта Вазы. З 1590 і да 1609 года, калі пасаду кароннага падскарбія займаў Ян Фірлей, траякі выбіваліся ў аграмадных колькасцях ажно ў 9 манетных дварах краіны. Апошнія раслі нібы грыбы: да былых Віленскага, Рыжскага, Олькушскага і Пазнанскага, што працягвалі дзейнасць яшчэ з часоў Стафана, у 1588 годзе далучыўся манетны двор ва Усхове, у 1591 — у Мальбарку, 1594 — у Быдгашчы, 1595 годзе — у Любліне і, урэшце, на зломе стагоддзяў — у Кракаве. Ва ўсіх гэтых вытворчых пляцоўках траякі былі найшырэй эмітаваныя.

У сталіцы нашага гаспадарства Вільні эмісіі ўзнавіліся ў 1589 годзе. Пашырыўся звычай падскарбіяў і найважнейшых манетных майстраў класці свае гербы на манеты. У часе доўгага панавання Жыгімонта пасаду падскарбія займалі пяцёра, і чацвёра з іх адзначыліся эмісіямі літоўскіх траякоў — Тодар Скумін Тышкевіч герба «Ляліва» (да 1590 года), Дзмітрый Халецкі герба ўласнага (1590—1598), Юрый Завіша герба «Лебедзь» (1598—1603) і Геранім Валовіч герба «Багорыя» (1603—1618). Упершыню ў часы кіравання Завішы з'яўляецца на траяку і ініцыял горада — V альбо W.

У пачатку новага гаспадарання прытрымліваліся стапы, устаноўленай ардынацыямі Стафана Баторыя ў 1578 і 1580 гадах. Згодна з імі, мелася вы-










Лічэбныя жэтоны падскарбіяў ВКЛ:

*Ваўрынца Войны (1577)*

*Дзмітрыя Халецкага (1591)*

біваецца 82 траякі з грыўні 14-лотавага серабра. З часам даражэла серабро і слабеў каралеўскі кантроль за працай манетных майстроў, што выразілася ў сапраўдны абвал на грашовым рынку краіны ў першых двух дзесяцігоддях XVII стагоддзя. За 20 гадоў вартасць манет упала болей як удвая, што спрычынілася да поўнае забароны эмітавання дробных грошай. Гэта, аднак, не выратавала сітуацыі. Супраць якасці манеты, што стала пагаршалася, не раз адбываліся публічныя выступы. Гэтак, у 1613 годзе Гданьск і Каралеўскія Прусы заказалі абарачэнне каронных шэлегаў на сваіх рынках. Але ўсё гэта да пары мала тычылася траякоў, якія засталіся адносна высакапробнай і жаданай манетай, што ахвотна прымалася ў межах краіны і шырокім фронтам вывозілася за мяжу. Гэтак адбылося таму, што ўжо ў пачатку XVII стагоддзя фактычна перасталі біць траякі. Найбольшае распаўсюджанне ў манетных эмісіях гаспадарскіх манетных двароў тады атрымалі акурат шэлегі і грошы, затым паўтаракі, што і падлеглі псуццю ў найвялікшай меры. Праўда, стапа траякоў таксама падвышалася — напрыклад, да 83 штук у 1598 годзе, а затым да 90 1/3 штукі з грыўні серабра ў 1604 годзе — але гэта ўжо







*Траяк польскі Яна Казіміра (1662)*

*Траяк польскі Яна Сабескага (1684)*

быў час, калі эмісіі траякоў станавіліся штораз меншымі. Траякі сыходзілі з пляцовак манетных двароў, але не з рынку.

Вывезеныя за межы краіны прыгожыя манеткі з партрэтам Жыгімонта набралі вялікую папулярнасць у іншых краях, асабліва на поўдзень ад гаспадарства і на Балканскім паўвостраве, дзе таксама часта ператвараліся наўпрост у ювелірныя вырабы. У скарбах гэтых краін часта знаходзяць траякі з атворам для нашэння на шыі, залачоныя манеты і нават цэлыя кампазіцыі ў выглядзе аздобных бранзалетаў, келіхаў і г.д.

Тып траяка Рэчы Паспалітае стаўся надзвычай пашыраным дызайнавым рашэннем і для ўласных эмісій на поўдні Еўропы. Вядомы малдаўскія траякі, падобныя па вазе і пробе на польскія. Яны цалкам легальна выбіваліся Яромам Магілам у 1597—1600 гадах для гандлю з РП і нават месцілі партрэт Жыгімонта Вазы. У Семіграддзі траякі білі гаспадары Жыгімонт Баторый, Сцяпан Башкай, Габрэль Баторый і Юры Ракочы. У далмацкай Рагузе на шырокую ногу была пастаўленая справа фальшавання траякоў, асабліва рыжскіх, выбіваных у вялікіх колькасцях, а трохі пазней быў уведзены і ўласны





гатунак падобнага тыпу, які меў вонкавы выгляд... у поўнай адпаведнасці з польскай манетнай ардынацыяй стогадовае даўніны! Нават у Венгрыі, што мела багатыя манетныя традыцыі, капіравалі дызайн траяка ў мясцовай 9-пенязевай манеце. Шырока ўжываліся польска-літоўскія траякі для гандлю нават з арабскімі краінамі, у прыватнасці Турэччынай.

Новыя траякі, эмісіі якіх узнавіліся ў канцы 1610-ых, месцілі ўжо толькі 0,90 грама чыстага серабра замест былых 2,01 грама, гэта значыць, былі ўжо зусім іншымі манетамі. Ранейшыя манеты было прыбыткова скупаць і перарабляць на новыя, таму насельніцтва часта хавала старыя добрыя траякі ці з большай выгодай вывозіла за мяжу. Паўстала вельмі шмат падробак, імітуючых старыя арыгіналы, часта ў вельмі дзіўным дызайнавым рашэнні, з камбінацыяй уласцівасцей розных манет адначасова. Шэрагам даследнікаў высоўвалася нават версія аб адмысловым блытанні элементаў дызайну пры фальшаванні манет у дзяржаўных манетных дварах, каб схаваць прыналежнасць манеты таму ці іншаму манетнаму двару, што выглядае цалкам праўдападобна.

У рэшце рэшт было забаронена эмітаванне ўсіх дробных наміналаў, у тым ліку і траякоў. Толькі праз шмат гадоў біццё траякоў узнавілася малымі накладамі, але гэта ўжо было стагоддзе іншых грашовых гатункаў. Новыя нізкапробныя траякі Яна Казіміра і Яна Сабескага гралі адно толькі дапаможную ролю на рынку Рэчы Паспалітае. У 1706 годзе апошняя спроба біць літоўскія траякі, ініцыятарам якое выступіў падскарбі Людвік Пацей, так і не была ажыццёўленая.

*Гулецкі*, Дз. Помнікі працы майстроў Віленскае мынцы пачатку XVI стагоддзя: аспекты вытворчасці / Дзмітрый Гулецкі // Банкаўскі веснік. 2006. № 4 (333).

*Грималаускайте*, Д. «Сатирический» трехгрошевик Сигизмунда Августа — монета черезвычайных обстоятельств? / Даля Грималаускайте, Иван Синчук // Pieniądz pamiątkowy i okolicznościowy — Wspólnota dziejów : materiały z IV Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 2000.



*Białkowski,* A. Monety ostatnich Jagiellonów / Andrzej Białkowski, Tomasz Szweycer. Warszawa, 1975.

*Ivanauskas,* E. Coins of Lithuania 1386—1707 / E. Ivanauskas, Robert J. Douchis. Vilnius, 1999.

*Ivanauskas,* E. Lietuvos monetų kalybos istorija 1495—1769 / Eugenijus Ivanauskas, Robert J. Douchis. Vilnius, 2002.

*Ivanauskas,* E. Lietuvos pinigų lobiai / Eugenijus Ivanauskas. Vilnius, 1995.

*Mikołajczyk,* A. Litewskie monety Zygmunta Starego i Zygmunta Augusta w obiegu pieniężnym i produkcji menniczej Wilna / Andrzej Mikołajczyk // Materiały z sesji «Pieniądz i jego obieg na terenie Podlasia i Wielkiego Księstwa Litewskiego od XIV do XVIII wieku». Białystok, 1984.

---

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі з інтэрнет-старонак *Poznański Dom Aukcyjny, Warszawski Dom Aukcyjny,* з сайта Нацыянальнага літоўскага музея ў Вільнюсе *(www.lnm.lt).*



# КРАІНА ТАЛЕРАЎ

## *Акцэнт восьмы:*
*Якія талеры курсавалі на Беларусі*

**На** мяжы XV і XVI стагоддзяў у Нямеччыне паўстаў новы гатунак буйных срэбных манет, які ўводзіўся як адпаведнік залатога фларына. Да гэтага спрычынілася адносная нястача золата на рынках Еўропы ў параўнанні з серабром, багатыя радовішчы якога былі адкрытыя ў Чэхіі і Цыролі. З развіццём міжнароднага гандлю ўзрастала патрэба ў вялікай







*Гульдэнгрош саксонскага курфюрста Фрыдрыка III (1508—1520)*

*Яўхімсталер графства Шлік (1525)*

*Паўкопка Жыгімонта Аўгуста (1564)*









*«Паўкопка Жыгімонта Аўгуста 1564». Сучасная падробка*





*Дукатон іспанскіх Нідэрландаў, контрамаркаваны Жыгімонтам Аўгустам у 1564 годзе*

колькасці буйных гатункаў манеты, якая ўжо не магла забяспечваць наяўнай колькасцю золата.

Першыя манеты гэтага кшталту, прычым у якасці манет памятных, выбіў у 1479 годзе Максіміліян Аўстрыйскі. Пяццю гадамі пазней камемаратыўную эмісію паўтарыў ягоны брат Жыгімонт у Цыролі. Масавы выпуск талераў (на той час яны яшчэ мелі назоў гульдэнгрошаў, што азначала «буйныя манеты вартасцю ў гульдэн») упершыню ажыццявілі саскія электары ў самым пачатку XVI стагоддзя. Вага гэтых манет была 29,2 грама.

У 1518 годзе права выбіцця гульдэнгрошаў атрымаў граф Шлік. Для выбіцця талераў ён скарыстаўся з радовішчаў серабра каля чэшскага горада Яўхімава (ням. Joachimstal). Гэтая эмісія дала новы назоў гульдэнгрошам (таксама называным яшчэ рэйхсгульдынерамі), які распаўсюдзіўся на ўсе манеты гэтага кшталту, выбіваныя пазней па ўсёй Еўропе, — іаахімсталер, ці скарочана — талер.

Неўзабаве з'явіліся новыя наміналы, прывязаныя да талера як кратныя, — паўталер і чвэрцьталер (орт). Пры вялікай размаітасці мясцовых грашовых сістэм у Нямеччыне, заснаваных на дробных наміналах, гэтыя гатункі выбіваліся згодна з агульнай ардынацыяй, аб'ядноўваючы сістэмы і граючы ролю новай міжнароднай валюты.











*Талер нагібанскі Стафана Баторыя (1585)*

*Талер брандэнбургскі (1591)*

У Нідэрландах паходжанне талера ад залатога фларына ці дуката адбілася ў асаблівых найменнях гэтае манеты — дукатон ці зільбэрдукат. Аднак гэта былі толькі адны са шматлікіх «талеравых» гатункаў Нідэрландаў, калі мецъ на ўвазе талер як асноўны буйны срэбны намінал. Гэтак, дукатоны пазней дасягнулі курсу ў 60 стуйвэраў (дробная галандская манета). Паўднёванідэрландскія кронеталеры адпавядалі 54 стуйвэрам, рыксталеры Паўночных Нідэрландаў каштавалі 50 стуйвэраў, а двухгульдэнаўкі (кароны) мелі курс у 40 стуйвэраў. Нідэрландскія талеры належаць да найбольш распаўсюджаных талераў у грашовым абарачэнні беларускіх земляў у канцы XVI — пачатку XVIII стагоддзя.

У 1535 годзе быў уведзены гульдэнгрош у Даніі, які адпавядаў традыцыйным тром дацкім маркам. Дваццаццю гадамі пазней, пры зніжэнні якасці серабра ў драбнейшых манетах, дацкія талеры набылі курс у 4 маркі. Ардынацыяй 1602 года ў Даніі ўводзіліся даволі незвычайныя залатыя наміналы, што адпавядалі чатыром, шасці і васьмі талерам. Такім чынам, у адрозненне ад іншых краін, Данія выпусціла не традыцыйны залаты грашовы гатунак у серабры, а наадварот. У 1608 годзе ў Даніі быў





*Нідэрландскі рыксдаальдэр (1599)*

*Патагон бургундскі Альберта і Лізаветы (пачатак XVII стагоддзя)*





выбіты талер перапмальніцкага характару — лёвендаальдэр, што меў свой узор у галандскім адпаведніку.

Даволі рана, у 1523 годзе адбылася эмісія срэбнага фларына ў Швецыі. У 1534 годзе яго нарматыўная вага павысілася, зраўняўшыся з агульнаеўрапейскай. Цікавым ёсць факт выпуску ў Швецыі медзяных талераў-плітаў, што распачаўся ў 1633 годзе. Былі эмітаваныя і кратныя наміналы, напрыклад дзесяціталераўка вагой амаль 20 кілаграмаў. У абарачэнні гэтыя манеты-волаты пачалі замяшчаць крэдытнымі жэтонамі, а пасля і банкоўкамі. Як буйная манета грашовай сістэмы, заснаванай на менш каштоўным, чым серабро, метале, медзяны талер спачатку адпавядаў 1/2 талера срэбнага, а пазней нават яго траціне.

Нават Італія, Францыя і Англія, што мелі свае адметныя грашовыя сістэмы, не пазбеглі эмітавання талераў. Гэтак, у сярэдзіне XVI стагоддзя Эдуард VI выпусціў пяцішылінгавую манету (крону), што сталася адпаведнікам кантынентальнага талера. Першыя французскія талеры былі ўведзеныя рэформай Людовіка XIII у 1641 годзе пад назовам экю-д'аргэнт альбо люі-д'аргэнт (ізноў жа, па аналогіі з тра-



дыцыйнымі залатымі манетамі — экю-д'орам і люі-д'орам).

З цягам часу талер, дзякуючы сваёй высокай вартасці, набыў добрую рэпутацыю якаснае манеты, што амаль не падлягала псуццю. Такім чынам, курс талера да дробных грашовых гатункаў стала ўзрастаў. Так, кошт талера, які першапачаткова ўводзіўся як 60 крайцараў у Германіі і Аўстрыі, у 1611 годзе вырас да 90 крайцараў, у 1619 годзе — да 108 крайцараў, налета — 180 крайцараў, а ўвосень 1622 года перасягнуў 1000! Тым часам у адваротны бок мяняўся курс фларына, да чаго спрычынілася працяглае падаражэнне золата. У сувязі з гэтым сам паняттак талера хутка падзяліўся на два — талер лічэбны (ням. Rechnungstaler) і манетны (ням. Speziestaler).

Крызіс псуцця дробных наміналаў, што ахапіў Еўропу ў пачатку XVII стагоддзя, спрычыніўся да таго, што стала выгодна выкуляць добрыя талеры і перабіваць на дробную манету са штораз большай меднай лігатурай.

Паводле звестак беларускіх археолагаў, у нашай краіне часта знаходзяць талеры нямецкіх гаспадарстваў (Прусы, Брандэнбург, Саксонія, Браўншвэйг, Гановэр, Ліпэ, Міндэн, Квэдлінбург, Гамбург, Кёльн і іншых), Венгрыі, Трансільваніі, Чэхіі, Аўстрыі, Зальцбурга, Швейцарыі, Эльзаса, Іспаніі, Даніі, розных дзяржаўных утварэнняў Нідэрландаў. Безумоўна, гэты спіс можна доўжыць польскімі талерамі, перадусім Жыгімонта Вазы. Ці абарачаліся ж уласна старажытнабеларускія талеры? Так, але ў вельмі абмежаванай колькасці.

Першыя буйныя срэбныя манеты Вялікага княства талеравае вагі (20—30 грамаў) з'явіліся ў 1564 годзе. Сваім дызайнам яны не нагадваюць класічныя заходнееўрапейскія талеры, а маюць досыць арыгінальны вонкавы выгляд. На адным з бакоў выяўлены складовы шасціпольны герб-тарча, у палях якой змешчаны гербы Польшчы, ВКЛ, Кіеўшчыны, Жамойці і Валыні, а ў цэнтры — фамільны герб Сфорцаў (маці вялікага князя Жыгімонта Аўгуста Бона Сфорца тады ўжо не жыла). У свой час знакаміты польскі даследнік д-р Мар'ян Гумоўскі зацеміў, што на гэтай манеце «герб Вялікага княства Літоўскага... сканструяваны як анідзе ў іншым



*Талер каронны Жыгімонта Вазы (1632)*

месцы». Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасці, бо, па-першае, герб гэты няможна ўважаць за герб ВКЛ, а хутчэй — за герб уладанняў Жыгімонта Аўгуста, дзе выразна падзяляюцца паняцці ўласна Літвы (спрошчана — Віленшчыны і ўсіх сучасных земляў Рэспублікі Беларусь), рускіх (Кіеўшчына, Валынь) і жамойцкіх уладанняў Жыгімонта. Апошнія прадстаўленыя на першым талеры Вялікага княства (Польшчы?) як раўнапраўныя, хоць і меншае значнасці, уладанні караля. Герб гэты змешчаны пад велікакняскай мітрай. Па-другое, дакладна такі самы герб выступае на залатых фларынах Вялікага княства пачынаючы з 1545 года. На іх, у адрозненне ад талераў, наўкол тарчы змешчаны лацінамоўны надпіс, што перакладаецца як «Манета залатая Вялікага княства Літоўскага». Толькі даўняй традыцыйнасцю гэткай выявы герба на манетах, прызначаных нават не для абарачэння ў краіне, а для каралеўскага двара, можна патлумачыць змяшчэнне ў цэнтры тарчы герба памерлае каралевы-маці. На другім баку пад каронай выяўлена манаграма Жыгімонта Аўгуста. Узбоч яе стаіць дата ***1564***, а ў самым нізе — лацінская лічба ***XXX***. Не абмяркоўваючы свайго сцверджання, д-р Мар'ян Гумоўскі вызнаў яе за абазначэнне наміналу ў літоўскіх грошах, абгрунтаваўшы замалое ўтрыманне серабра ў манеце жаданнем эмітэнта даставаць як мага болей прыбытку. Але, як вядома, для спекуляцый з прыбыткам лепей за ўсё надаюцца дробныя наміналы, і пажадана новы для краіны гатунак манеты, тым больш буйны. Гэткую манету проста б не прымалі, калі б толькі кароль не гарантаваў яе пазнейшы выкуп па прымусовым, гэта значыць крэдытным, курсе.

Зрэшты, магчымасць крэдытнага характару 30-грашовых талераў (паўкопак) не выключаецца,



бо вядома і іншая спроба Жыгімонта Аўгуста ўвядзення ў абарачэнне крэдытных дукатонаў і паўдукатонаў, контрамаркаваных манаграмай валадара ў тым жа годзе. Пра гэтую акцыю вядома болей з каралеўскага універсалу ад 16 траўня 1564 года, дзе дукатонам надаецца прымусовы курс у 60 грошаў польскіх. Гэта было прыкладна ў 1,8 раза больш, чым насамрэч у іх ўтрымлівалася серабра. Звяртае на сабе ўвагу той факт, што курс іспанскім дукатонам надаваўся ў грошах польскіх. Сапраўды, былі толькі тры традыцыйныя гатункі самабытнай вялікалітоўскай грашовай сістэмы, якая на той час дажывала апошнія гады, — пенязь, паўгрош і грош. Засталыя наміналы ўводзіліся альбо як часовыя, дзеля ўраблення глебы для пераходу да польскае сістэмы, альбо наўпрост належалі да апошняе. Дзіўным было б увядзенне новага грашовага гатунку ў сістэме, што маніліся неўзабаве скасаваць назусім. Такім чынам, разгляданыя намі манеты былі паўкопкамі па польскай стапе, што пацвярджаецца іх метралагічнымі даными. Брак іх знаходак у скарбах сведчыць пра рэпрэзентатыўны характар іх выпуску. Паўкопкі польскія Жыгімонта Аўгуста, хоць і выбіваныя ў Вялікім княстве, не былі сродкам грашовага абарачэння на землях ВКЛ, ані нават у Польшчы, а ўяўлялі сабой памятныя манеты. Вядомы і унікальныя паўкопкі з партрэтам вялікага князя з 1565 года, а таксама чвэрцькопкі 1564 года.

Другая «талеравая акцыя» Жыгімонта Аўгуста, ужо ўспамінаная вышэй, увайшла ў гісторыю пад назовам «вяртанне спадчыны каралевы Боны». Маці валадара Бона Сфорца, ад'ехаўшы ў 1556 годзе на радзіму ў Італію, забрала з сабой вялікія сродкі, якія потым пазычыла іспанскаму каралю Філіпу II. У 1559 годзе былая каралева памерла. Неўзабаве Жыгімонт Аўгуст звярнуўся да Іспаніі з мэтай вярнуць дзяржаўныя грошы, але пасля доўгіх дыпламатычных перамоў атрымаў толькі частку з іх у выглядзе неапалітанскіх, іспанскіх і іспанска-нідэрландскіх (бельгійскіх) дукатонаў і паўдукатонаў Філіпа II і Караля V. Гэтыя манеты вырашылі не пераплаўляць у серабро для выбіцця мясцовай манеты, а адно толькі контрамаркаваць і пусціць у абарачэнне ў якасці крэдытных грошай. Калі цяпер мы







*Талер крыжацкі (1613)*



*Нідэрландскі лёвенда-альдэр (1646)*

штодня маем справу з гэткім відам грошай — банкоўкамі, дык на той час гэта была даволі рэдкая з'ява. Вартасць манеты ўпершыню ў нашай гісторыі забяспечвалася не ўтрыманнем у ёй каштоўнага кову, а аўтарытэтам вялікага князя. Гэтым аўтарытэтам і пад страхам суворай кары Жыгімонт надаваў контрамаркаваным дукатонам курс у 60 грошаў польскіх і абавязваўся па заканчэнні вайны з Маскоўшчынай выкупіць іх назад па гэтым жа курсе. Гэтак valадар хацеў перанесці цяжар сваіх фінансавых даўтоў войску, што станавіўся невыносным, на прышлы паваенны час.

Контрамаркаваныя іспанскія дукатоны і паўдукатоны, у адрозненне ад паўкопак, трапілі ў абарачэнне і знаходзяцца ў скарбах. Аднак ізноў гэта былі не класічныя талеры, а толькі першыя крэдытныя грошы на Беларусі. Да прыняцця і адаптацыі класічных заходнееўрапейскіх талераў у грашовай сістэме Вялікага княства гэтак ніколі і не дайшло.

Ужо 21 снежня 1565 года было абвешчана аб выкупе гэтых талераў да скарбу («Филипки далей ити межи людьми не мают»). Філіпкамі гэтыя манеты называлі нават на ўрадавым узроўні па імені іспанскага караля Філіпа. Гэта была першая буйная



партыя заходнееўрапейскіх талераў на Беларусі, таму гэты назоў на пэўны час затрымаўся і ў якасці агульнага абазначэння талераў. З 1529 года, калі талер упершыню ўзгадваецца ў беларускіх пісьмовых крыніцах, і да каралеўскага універсалу 1567 года, што рэгуляваў курс паўнаважных і «няважных» талераў, згадкі пра гэту новую для беларускага рынку манету трапляюцца адно спарадычна.

У 1580 годзе на паседжанні сейма ў Варшаве была выдадзеная эпахальная манетная ардынацыя Стафана Баторыя, што ўзаконіла выбіццё наступных гатункаў манет: талераў, паўталераў, шастакоў, траякоў, грошаў, паўгрошаў, шэлегаў, трацякоў і пеняздзяў па польскай стапе. Былая адметная грашовая сістэма Вялікага княства, заснаваная на трох срэбных наміналах, дэ-юрэ перастала існаваць. Новыя літоўскія талеры па выкананні і металагічных характарыстыках меліся адпавядаць класічным цэнтральнаеўрапейскім (нямецкім) талерам. Ім надаваўся курс у 35 грошаў польскіх. Аднак паўталеры ніколі не былі выбіваныя, адно унікальны талер асаблівага кшталту (наміналам у паўтара гульдэны) вядомы з 1580 года. Толькі ў 1585 годзе вельмі абмежаваным накладам былі ўрэшце выбітыя ўласна талеры нямецкага ўзору, хоць і трохі лягчэйшыя. Гэтыя першыя ў поўным сэнсе талеры ВКЛ сталіся... апошнімі. Ніколі больш эмісіі талераў у Вільні не ўзнавіліся. У той жа час распачаліся эмісіі талераў Стафана ў Польшчы і Нагібаніі, што набылі больш шырокае распаўсюджанне, у тым ліку і на Беларусі. Тым не менш і яны цяпер адносяцца да досыць рэдкіх манет.

Больш-менш паспалітай манетай на рынках Вялікага княства талер стаў толькі ў XVII стагоддзі. У 1608 годзе пасля перапынку быў ізноў адчынены Быдгашчанскі манетны двор у Польшчы, што хутка стаўся галоўнай вытворчай пляцоўкай Польскага Каралеўства. У ёй упершыню былі выбітыя польскія чвэрцьталеры — орты, якія з самага пачатку 1620-ых гадоў сталіся даволі пашыраным грашовым гатункам на рынках Рэчы Паспалітае і беларускіх земляў у прыватнасці. Праўда, трошкі раней орты пачалі выбіваць у вялікіх колькасцях у вольным горадзе Гданьску, што традыцыйна меў трывалыя гандлёвыя сувязі з Заходняй Еўропай, пера-




*6-залатоўкавы талер Станіслава Аўгуста (1795)*

дусім з Германіяй і Нідэрландамі. У той жа час талеры з вышэйзгаданых краёў пачалі шырокім фронтам паступаць у краіну галоўным чынам акурат праз Гданьск.

У 1627 годзе сейм Рэчы Паспалітае цалкам забараніў выбіццё дробнай манеты, што хутка падлягала псуццю. З манетай талеравай справа палягала інакш. Гэта была міжнародная валюта для буйных разлікаў, і таму яна не магла псавацца ў значнай меры, інакш гэта сталася б ганьбай для эмітэнта і манета папросту б не прымалася. У тым жа годзе ў Быдгашчы распачалося даволі масавае выбіццё талераў і паўталераў для абарачэння, якое працягнулася да канца жыцця Жыгімонта Вазы і праз усё панаванне ягонага сына Уладзіслава. Неўзабаве да выпуску талеравае манеты далучыліся прускія гарады Торунь, Гданьск і Эльблёнг. З перыяду валадарання Жыгімонта IV вядомы і шэраг камемаратыўных талераў.

Сярэдзіна XVII стагоддзя сталася векам росквіту абарачэння талераў на беларускіх землях, аднак гэта былі не мясцовыя, а заходнееўрапейскія манеты самых розных краёў. Найбольш распаўсюджанымі былі бітыя ў аграмадных колькасцях талеры розных правінцый Нідэрландаў — гэтак званыя крыжовікі (талеры крыжовыя, альбо патагоны) і іх фракцыі — паў- і чвэрцьпатагоны, ляўкі (талеры з ільвом, альбо лёвэндаальдэры) і паўляўкі, палашнікі (каралеўскія талеры, альбо рыксдаальдэры) і паўпалашнікі. У дакументах часта апускаецца дзяржаўная прыналежнасць талера, што выразна сведчыць пра яго міжнароднае прызнанне як манеты агульнавядомай і стабільнай.

З цягам часу ў Заходняй Еўропе набывалі папулярнасць розныя фракцыі талераў, напрыклад 2/3 (гульдэн) і 1/3 (паўгульдэн). У XVIII стагоддзі, што



распачалося панаваннем у Рэчы Паспалітай саксонскай дынастыі і жорсткімі войнамі, шырокі распаўсюд у краіне атрымалі саксонскія і прускія талеры і іх фракцыі. Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, што правёў грашовую рэформу ў дзяржаве, біў 8-залатоўкавыя, а напрыканцы валадарання — 6-залатоўкавыя талеры. Гэта былі манеты рознага курсу, прывязаныя ўжо да польскай залатоўкавай грашовай сістэмы. Яны аб'яднаныя найменнем «талер» толькі фармальна, дзякуючы кшталту вялікае срэбнае манеты, пік славы якой у Еўропе прыйшоўся на XVII стагоддзе.

Археалогія Беларусі . Т. 4. Помнікі XIV—XVIII стст. Мінск, 2001.

*Рябцевич, В.* Нумизматика Беларуси / Валентин Рябцевич. Минск, 1995.

*Gumowski, M.* Mennica Wileńska w XVI i XVII wieku / Marian Gumowski. Warszawa, 1921.

*Ivanauskas, E.* Coins of Lithuania 1386—1707 / E. Ivanauskas, Robert J. Douchis. Vilnius, 1999.

*Ivanauskas, E.* Lietuvos monetų kalybos istorija 1495—1769 / Eugenijus Ivanauskas, Robert J. Douchis. Vilnius, 2002.

*Żabiński, Z.* Rozwój systemów pieniężnych w Europie Zachodniej i Północnej / Zbigniew Żabiński. Wrocław, 1989.

---

У гэтым раздзеле былі выкарыстаны здымкі з інтэрнэт-старонак нумізматычных аўкцыёнаў *PEUS (peus-muenzen.de)*, *KÜNKER (kuenker.de)*, *RAUCH (hd-rauch.com)*.

**Пад** канец 1650-ых гадоў Рэч Паспалітая апынулася ў надзвычай цяжкім палітычным становішчы. У 1654 годзе пачалося нябачанае дагэтуль варожае нашэсце на беларускія землі, наступствы якога не зажылі на целе краіны і цяпер, за 350 гадоў. Вайна абярнулася жахлівай катастрофай для некалі развітага краю высокае культуры, загінула больш за палову яго насельніцтва. Крызіс паглыбляўся супярэчнасцямі ўнутры дзяржавы, дзе змагаліся за палітычны ўплыў заможныя магнаты. Дзейнасць нават на карысць дзяржавы, калі яна супярэчыла палітыцы караля і Польшчы, магла быць расцэненая як здрада. Шэраг непрадуманых і нязгоджаных рашэнняў паставіў гаспадарства над безданню. У 1668



БараціІнкі:

*уездаўская*

*аліўская*





Барацінкі:

*ковенская*

*віленская*

*берасцейская*

годзе, прадчуваючы далейшы заняпад і знікненне Рэчы Паспалітае з мапы свету, адрокся ад пасаду Ян Казімір. Вайна паставіла ў найцяжшае становішча і фінансавую сістэму краіны.



Крывавы патоп расейскай акупацыйнай вайны выклікаў іншы, не менш небяспечны для здароўя дзяржавы патоп — медзяны. Ва ўмовах імклівага росту і надта вялікіх запазычанасцяў ураду войску, у 1659 годзе на сейме прымаецца рашэнне выпуску новых крэдытных грошай, накіраваных перадусім на пакрыццё гэтага доўгу. У тым годзе пасаду земскага падскарбія Вялікага княства Літоўскага займаў слынны палітычны дзеяч гаспадарства Вінцэнт Гусеўскі. Аднак адказным за арганізацыю манетнай вытворчасці стаў не ён, заняты на вайсковай службе палявы гетман, а Адам Мацей Саковіч. Яму было даручана адчыніць манетны двор у Берасці,



бо Вільня была занятая ворагам. Трагедыя сталічнага горада, які здаўна не ведаў акупацыі і рабункаў, выявілася ў тужлівай песні:

Устань, устань, Радзівіла,
А ўжо Вільня не наша,
А ўжо Вільня не наша,
А ўжо белага цара...

Згодна з праектам італьянца Ціта Лівія Барацыні, планавалася выбіць медзяных шэлегаў на 1 мільён залатовак для ВКЛ і на гэтулькі ж — для Польшчы. Непаўнавартасныя шэлегі меліся быць выпушчаныя ў абарачэнне па прымусовым курсе ў 1/3 срэбнага гроша пры рэальным кошце ў 1/20. У рэшце рэшт, манетны двор у Берасці не адчынілі, а пастанавілі перанесці эмісіі далей ад непрыяцеля ў глыб Польшчы, у правінцыйны Уяздаў, дзе з таго ж года пачаліся эмісіі каронных шэлегаў, а налета — і літоўскіх. Гэта быў першы выпадак, калі эмісіі манет Вялікага княства былі вынесеныя за межы гаспадарства. Гэты факт, як і шмат іншых, усё больш і больш выразна праяўляў павевы страты беларускай дзяржавай свайго адметнага аблічча і самастойнасці ў прыняцці рашэнняў.

Дзейнасць Барацыні падрабязна і добра апісаная ў Рабцэвічавай «Нумізматыцы Беларусі». Гэта быў выбітны навукоўца і заможны чалавек, які жыў у Польшчы з 1641 года. Ягоныя зацікаўленні ахоплівалі вялікую колькасць тэхнічных навуковых дысцыплін, у некаторых з якіх Барацыні дасягнуў значных поспехаў. Не гэтак удалымі былі пачынанні італьянца ў навуцы эканамічнай. Ён пачаў арандаваць манетны двор у Кракаве яшчэ ў 1658 годзе, а ў наступным годзе высунуў вышэйзгаданы план выбіцця медзяных шэлегаў, якія неўзабаве атрымалі мянушку «баратынчыкі» (пазней у навуцы зацвердзіўся варыянт «барацінкі»). За няўдалую спробу аздараўлення фінансаў Рэчы Паспалітае Ціта Лівія неаднойчы намагаліся прыцягнуць да адказнасці, але кожнага разу яму ўдавалася выслізнуць, абгрунтоўваючы адпаведнасць сваёй дзейнасці пастанаўленням сойма. Гэткім парадкам Барацыні працягваў займацца арандаваннем манетных двароў краіны яшчэ два дзесяцігоддзі і нечувана павялічыў сваё багацце за кошт недалужных палякаў і ліцвінаў.





Медзяны барацінчык не быў першай спробай увядзення крэдытных грошай у Вялікім княстве. Так, памятнай была кампанія Жыгімонта Аўгуста з контрамаркаванымі талерамі. Не быў ён і наогул першай медзяной манетай эмісій Рэчы Паспалітае. У 1650 годзе былі выбітыя буйныя медзяныя шэлегі для Польшчы. Але апошні Ягайлавіч, відаць па ўсім, выканаў свае абяцанкі па выкупе талераў, а польскія манеты мелі такі мізэрны наклад, што іх знаходкі на тэрыторыі Беларусі, ані нават Украіны, якая з часоў сумнавядомае Люблінскае уніі належала да Кароны, невядомыя. Незлічоныя ж плыні медзяных барацінак адчынілі скрыню Пандоры, літаральна патапіўшы фінансавы карабель дзяржавы.

Натуральна, не магло ісці і гаворкі аб прыняцці паняверанным насельніцтвам барацінак як паўнавартасных удзельнікаў грашовай сістэмы, заснаванай на срэбных наміналах. Замест гэтага стваралася паралельная сістэма разлікаў меддзю. Валянцін Рабцэвіч прыводзіць тагачасную вобразную канстатацыю гэтага факта: «Прайшоў час срэбны, а наступіў медзяны».

Эмісія 1660—1661 гадоў не развязала праблемы пазыкі войску. У 1663 годзе акцыю паўтарылі, ды не спыняліся да 1666 года. Замест запланаваных спярша 2 мільёнаў залатовак выпусцілі каля 18 мільёнаў медзянымі шэлегамі. У тыя ж тэрміны да пагаршэння сітуацыі прычыніўся і іншы «ратавальнік» — Андрэй Тымф, якому ўдалося перакапаць урад, што ягоныя «чэрці — не аднае шэрсці» з барацінаўскімі. Прафесійны нямецкі манетны майстар прыехаў у Рэч Паспалітую ў пачатку 1650-ых, дзе пачаў кантраляваць рэгіянальныя манетныя двары ў Познані і Усхове. Паступова яму ўдалося перахапіць ініцыятыву ў Бараціні. Тымф займае пасаду спярша генеральнага вардайна, затым суперінтэнданта ўсіх польскіх манетных двароў. Урэшце немец атрымлівае кантроль над манетнымі дварамі Кракава, Быдгашча і Львова. Ён высунуў праект выбіцця іншага гатунку крэдытных манет — 30-грашовых срэбных залатовак-тымфаў. Іхняя рэальная



вартасць мелася складаць 40% ад намінальнае. Адчайныя спробы Барацінi не дапусціць канкурэнта да дзяржзаказаў не дасягнулі поспеху, нягледзячы на тое што італьянец прывёў некалькі даволі разумных довадаў на карысць сваіх шэлегаў у параўнанні з залатоўкамі:

· медзяны шэлег, адрозна ад тымфа, не можа выклікаць павышэння курсу іншых срэбных і залатых наміналаў;

· ягоная вытворчасць параўнальна таннейшая, што асабліва важна для краіны з нязначнай колькасцю ўласных радовішчаў серабра;

· падробкі медзяных манет цяжэй экспартуюцца замежнымі фальшарамі, бо вага аднолькавае сумы ў барацінках і тымфах рознілася ў 18 разоў;

· з заканчэннем вайны з грашовага абарачэння Рэчы Паспалітае мусілі быць выдаленыя замежныя нізкапробныя манеты, пасля чаго курс медзяных солідаў, патрэбных для штодзённых дробных плат, падняўся б.

Нягледзячы на пярэчанні Барацінi, у Кароне ў вялікіх колькасцях былі выбітыя тымфы, якія хутка зраўняліся па курсе з 18-грашовымі ортамі. Недавыканаўшы свой кантракт, Тымф збег у Нямеччыну, пакінуўшы дзяржаву ў яшчэ большым крызісе. Непапулярныя меры дапамаглі хвораму арганізму гаспадарства на хвіліну, а затым становішча рэзка пагоршылася.

Апроч вышэйзгаданага выпуску літоўскіх барацінак ва Уездаве яны біліся далей з 19 ліпеня па 10 лістапада 1663 года ў польскай Аліве, у 1664—1666 гадах — у вернутай сталіцы, з 4 снежня 1665 года па 16 снежня 1666 года — у Берасці, з 17 кастрычніка 1665 года па 15 студзеня 1667 года — у Коўне і кароткі час у 1666-ым — у прускім Мальбарку.

Аліўскія, ковенскія і мальбаркскія эмісіі фундаваліся не Барацінi, а немцам Андрэем Юрыем фон Горнам. Ягоныя ініцыялы пад партрэтам Яна Казіміра маюць незвычайны правапіс — GFH, у той час, як напісанне ягонага імя па-нямецку было *Georg von Horn*. У польскамоўным напісанні нямецкая пазнака шляхецкасці часта пазначалася як *de*, гэта значыць *Andr. G. de Horn*. Гэта дало падставы беларускаму даследніку барацінак Івану Сінчуку выка-





зацъ меркаванне, што гэта адзін з першых польска-моўных (фанетычных) надпісаў на манетах Рэчы Паспалітае, альбо і нават надпіс беларускай лацінкай. Другі прыклад з тых жа медзяных шэлегаў — манаграма **HKPL** Гераніма Кіршэнштэйна, які стаў падскарбіем літоўскім у 1663 годзе. Манаграма змешчаная на віленскіх і берасцейскіх шэлегах і раскрываецца па-беларуску як «Геранім Кіршэнштэйн, падскарбі літоўскі».

Літоўскія барацінкі 1660—1661 гадоў, бітыя ва Уездаве, можна адрозніць гербам «Корвін» Адама Саковіча, змешчаным пад «Пагоняй». На аліўскіх шэлегах пад дзяржаўным гербам знаходзяцца гербы Вазаў «Сноп» і «Вянява» Юрыя Белазора. Цяжэй адрозніць прадукцыю «барацінаўскіх» і «горнаўскіх» манетных двароў у 1664—1666 гадах унутры гэтых груп. Віленскія і берасцейскія шэлегі маюць адну і тую ж манаграму **HKPL**, а ковенскія і мальбаркскія — галаву аленя (частку герба Гераніма Кіршэнштэйна). Прапанаванае Сінчуком на падставе статыстычных даных адзначэнне прадукцыі Берасцейскага манетнага двара як манет, што маюць паменшаную манаграму HKPL (адначасова, як адзначана ў каталогу Іваноўскага і Дучыса, і адрозны тып тарчы), вымагае дадатковай праверкі. У згаданым каталогу проста развязваецца пытанне і пра развядзенне па групах прадукцыі Коўна і Мальбарка, дзе першаму манетнаму двару прыпісваюцца ўсе барацінкі з галавой аленя, а другому — досыць рэдкі тып з манаграмай **HKPL** (але, у адрозненне ад віленскіх і берасцейскіх шэлегаў, з ініцыяламі **GFH** пад партрэтам). Гэтая атрыбуцыя таксама патрабуе пацвярджэння статыстыкай. У нашай кнізе аднясенне барацінак да канкрэтных манетных двароў пададзена згодна з каталогам Іваноўскага і Дучыса. Зазначу, што некаторыя віленскія барацінчыкі маюць неатрыбутаваны пакуль ініцыял **K** злева згары ад партрэта гаспадара (мне вядомыя гэткія манеты з 1665—1666 гадоў).

18 мільёнаў залатовак — гэта больш як паўтара мільярды крэдытных медзяных шэлегаў, якія засцілі ўсю іншую манету, што абарачалася ў краіне. Барацінкі выбіваліся ў шалёным тэмпе, гэтак што нават аліўскія выпускі, якія доўжыліся меней за чаты-









*Манетны брак барацінкі тыпу «негатыў — пазітыў»*

*Тагачасная падробка кароннай барацінкі з «нетрадыцыйнай» арыентацыяй партрэта Яна Казіміра*

*Тагачасная падробка літоўскай барацінкі*

ры месяцы, не ёсць нечым рэдкім у беларускіх скарбах сёння. У абарачэнне выходзілі манеты з дэфектамі, падвойна адбітыя ці бракаваныя наогул, як аднабаковая аліўская барацінка з ілюстрацыі згары.

Высокая хуткасць вытворчасці рабіла менш дзейсным нагляд за яе сумленнасцю. Даволі вялікая розніца ў таўшчыні і вазе барацінчыкаў сведчыць на карысць злоўжыванняў манетных майстраў, якія наўмысна памяншалі памер манет дзеля атрымання дадатковага прыбытку.

Істотна спрашчалася задача і прыватных фальшароў. Не вымагалася ўжо паніжаць вагу ці пробу металу; трэба было толькі дакладна паўтарыць манету — і значны прыбытак быў забяспечаны. Такім чынам, фальшывыя барацінкі было няпроста адрозніць ад сапраўдных, дый навошта — фальшы-



выя барацінчыкі часам нават цяжэйшыя за афіцыйна эмітаваныя шэлегі. Нягледзячы на суворыя пакаранні, прадпрымальныя сучаснікі спрычыніліся да павелічэння колькасці гэтае манеты ў абарачэнні Рэчы Паспалітай хіба не ўдвая. Часам сфальшаваныя барацінчыкі прымалі дзівосную форму, напрыклад, каралю надакучвала бачыць нядолю ліцвінаў на Усходзе, і ён «паварочваў галаву» на Захад.

*Рябцевич, В.* Нумизматика Беларуси / Валентин Рябцевич. Минск, 1995.

*Сагановіч, Г.* Невядомая вайна 1654—1667 / Генадзь Сагановіч. Мінск, 1995.

*Синчук, И.* «Шеляжные» монетные дворы ВКЛ и медные солиды Яна Казимира в кладах / Иван Синчук // Mennice między Bałtykiem a Morzem Czarnym — Wspólnota dziejów : materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 1998.

*Ivanauskas, E.* Coins of Lithuania 1386—1707 / E. Ivanauskas, Robert J. Douchis. Vilnius, 1999.



# L.ебядзіная P.есня

***Акцэнт дзесяты:***
*Апошнія манеты Вялікага княства: праект Людвіка Пацея.*
*Гарадзенскі манетны двор-здань*






«...З Тыкоціна ехалі абодва манархі ў Горадню, дзе кароль Аўгуст назначыў генеральную раду, на якой вялікі з'езд быў розных паноў польскіх і літоўскіх. Там Пацею, літоўскаму падскарбію, дазволена мынцу адчыніць...

...Біты шастакі адныя з імем і асобай караля Аўгуста, але з таго, што яны фальшывыя былі, то выдаленыя... Былі на тых шастаках літары LP, што азначала Людвік Пацей; людзі ж інтэрпрэтавалі тыя літары... як «гора народнае» (ludu płacz), і ніхто не скрушыўся, калі яны былі выдаленыя».

Гэтак піша сучаснік падзей Эразм Атвіноўскі пра апошнюю спробу эмітавання манеты Вялікага княства Літоўскага, здзейсненую земскім падскар-





*Шастак каронны (1702)*

*Шастак літоўскі (1706)*





біем Людвікам Пацеем на жаданне Аўгуста II Саса і ягонага хаўрусніка Пятра I, цара Расеі. Пра няўдачу праекта сцвярджае другая частка ягонага сведчання. Манета была нагэтулькі благая ў параўнанні з былымі шастакамі Яна Казіміра Вазы і Яна Сабескага, што падпала людской абструкцыі. Серабра ў іх было хіба што на траяк. Таму народ расшыфраваў па-польску значэнне ініцыялаў падскарбія як **L**.udu **P**.łacz, а мы выдзелім тое, чым гэтая эмісія сталася для некалі багатай вялікалітоўскай манетнай справы — **L**.ебядзінай **P**.есняй.

Прадстаўнік знатнага роду, Людвік Пацей прымаў актыўны ўдзел у Паўночнай вайне, што пачынаючы з 1704 года разгортвалася перадусім на землях Рэчы Паспалітае, на баку хаўруса Аўгуста II з Расеяй. У 1706 годзе Аўгуст быў вымушаны адмовіцца ад кароны на карысць свайго суперніка — хаўрусніка Швецыі Станіслава Ляшчынскага. Тым не менш барацьба працягвалася.

Яшчэ ў 1705 годзе ў Горадні адбыліся перамовы паміж Аўгустам і Пятром, дзе абмяркоўвалася, на каго ляжа цяжар вайсковых выдаткаў, якія павялічыліся ў выніку пашырэння вайсковага хаўрусу Саксонія—Расея на Рэч Паспалітую. Пётр I не згаджаўся на поўнае фінансаванне вайны з крыніцаў расейскае эканомікі, якая і так стагнала пад яе цяжарам. Ён прапанаваў падлучыць да пакрыцця расходаў эканоміку Рэчы Паспалітае шляхам увядзення ўскоснага падатку — акупацыйнай манеты па завышаным курсе. Зразумела, манета мусіла быць добра знаёмага насельніцтву кшталту.

Доўгі час у нумізматычнай навуцы лічылася, што «мынцу адчыніць» Пацею давялося ў тым самым горадзе, дзе прайшлі перамовы хаўруснікаў, — Горадні. Часткова гэта спрычынілася і да таго, што пазнейшая эмісія (так званых таргавіцкіх талераў) па аналогіі была аднесеная да таго ж самага манетнага двара-здані. На цяпер гэтае традыцыйнае глядзішча амаль канчаткова абвергнутае. Хутчэй за ўсё, манетны двор у «трэцяй сталіцы Рэчы Паспалітай» ніколі не існаваў.

Гарадзенскі даследнік Віктар Какарэка прыводзіць цытату аб ходзе перамоваў: «На супольнай нарадзе ў Горадні прапаноўвалі шэраг ідэй, адна



GRODNO
Eine der Fürnehmbsten Stædte
in
LITTHAUEN

*Горадня. Гравюра Габрыэля Бодэнэра (1721)*





рызыкоўнейшая і нахабнейшая ад іншае, усе, аднак, засяроджаныя на задуме закладання ў Караляўцы патаемнага манетнага двара, што мела б перабіваць капейкі ў тымфы з адпаведным зніжэннем іх вартасці. Аўгуст нарэшце адмовіў, збаяўшыся, што выкрыццё гэткае задумы можа выклікаць у краіне рэвалюцыю». Замест гэтага было пастаноўлена даручыць падскарбіям абодвух народаў біццё срэбнае манеты — тымфаў, шастакоў і шэлегаў.

Падобна, што дайшло толькі да выбіцця шастакоў. Дарэчы, іншых манет з ініцыяламі падскарбія ВКЛ нумізматыка не ведае. Праўда, існуе яшчэ і адзіны экзэмпляр невялічкае манеты з гербам Пацеяў «Вага», які захоўваецца ў Дрэздэнскім мюнцгабінеце. Сваім дызайнам манетка нагадвае нямецка-аўстрыйскую трохкройцараўку. Што гэта — манетная проба, макет ці пазнейшая падробка — цяпер дазнацца немагчыма. Зразумела адно — у грашовае абарачэнне Вялікага княства гэтая манета не трапіла.

Так, адзіны вядомы нам гатунак манет Людвіка Пацея — гэта шастак. Па сваім выглядзе ён падобны да польскага шастака, бітага ў Ляйпцыгу ў 1702 годзе. Сёння да канца не вядомыя варункі, у якіх біліся гэтыя манеты. Вядома пра знаходкі апошніх літоўскіх шастакоў па ўсёй тэрыторыі Беларусі, на Беласточчыне і нават Украіне.

У снежні 1705 года, па з'ездзе хаўруснікаў, Пётр I ад'ехаў з Горадні, пакінуўшы там частку войска. Ужо праз месяц горад быў асаджаны шведскімі войскамі на чале з Каралем XII. Пасля доўгае асады, у сакавіку таго ж года расейцы ўцяклі з фартэцы, скарыстаўшыся крыгаходам і знішчыўшы за сабой масты. Ім удалося выратавацца, але коштам страты аўтарытэту. Да траўня 1706 года колькасць прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага сярод беларускае шляхты вырасла ўдвая. Неўзабаве Людвік Пацей са сваімі аддзеламі застаўся адзінай вернай расейска-саксонскаму хаўрусу сілай у Заходняй Беларусі.

Зыходзячы з гэткіх абставін, сучасныя даследнікі мяркуюць, што адкрыццё земскім падскарбіем манетнага двара ў Горадні ў 1706 годзе было немагчымым. Шастакі Вялікага княства біліся за мяжой — у прускім Караляўцы, а ў 1707 годзе, магчыма, у









*Грош польскі (1765)*

*Траяк польскі (1766)*

*Траяк польскі (1781)*

Маскве. Як вядома, там хутка распачаўся выпуск іншай акупацыйнай манеты, які ўвайшоў у гісторыю расейскай нумізматыкі як «тинфовое дело». Гэтыя манеты амаль не трапілі на беларускія рынкі. А вось каралявецкія шастакі 1706 года былі распаўсюджаныя. Але, як мы ведаем са сведчанняў Эразма Атвіноўскага, і тыя выклікалі людское абурэнне і былі неўзабаве адкліканыя з абарачэння.

Гэткая недалужная спроба эмісіі шастакоў, распачатая з чужое ласкі, сталася апошняй у гісторыі манетнай справы Вялікага княства Літоўскага. Паступовая страта незалежнасці старажытнабеларускага гаспадарства, што асабліва яскрава праявілася ў канцы XVII стагоддзя, калі справаводства было пераведзена з беларускае мовы на польскую, паланізацыя шляхты праз касцёл і страта механізмаў кіра-





вання дзяржавай спрычыніліся да заняпаду і гэтага яе інстытуту ў пачатку XVIII стагоддзя.

З абраннем у 1764 годзе на каралеўскі і вялікакняскі пасады шляхціца з Берасцейшчыны Станіслава Аўгуста Панятоўскага скончыўся «саскі» (саксонскі) перыяд у гісторыі Рэчы Паспалітае. Веццііны пакінулі грашовую сістэму гаспадарства ў жахлівым стане, краіна была залітая замежнай і фальшывай манетай. Фактычна, рэгулярнага выбіцця манеты на тэрыторыі краю не было ажно з 1685 года. Малады кароль горача жадаў забяспечыць дзяржаву добрай уласнай манетай пекнага выгляду. Будучы абазнаным у манетнай справе і маючы свой нумізматычны збор, Станіслаў Аўгуст адкрыў манетныя двары ў Кракаве і Варшаве ўжо ў першыя гады свайго кіравання. Вытворчасць манеты вярнулася ў Польшчу, але не на землі Вялікага княства.

У 1768 годзе скарбовая камісія Вялікага княства пастанавіла арганізаваць манетны двор у Горадні для заспакаення патрэбаў краю ў гатовай манеце. Быў прыняты праект Гартэнберга-Садагорскага, дзяржаўцы польскіх манетных двароў. Ён пачаў быў рэалізоўвацца ўжо ўвосень 1768 года — было адведзена месца пад манетны двор і нават завезена абсталяванне. Аднак да камісіі дайшлі звесткі, што Гартэнберг у Варшаве пагарджае сваім абавязкам біцця срэбнае манеты і вырабляе, для свайго прыбытку, ледзьве не толькі медзяную.

Дзяржаўца ў самым пачатку года 1769-га паспяшаўся развеяць гэтыя падазрэнні, але камісіі не пераканаў. Дзіўны «рэверанс» камісараў, якія збаяліся заліцця Вялікага княства меддзю, паклаў канец гэтай справе: было пастаноўлена зусім адмовіцца ад выбіцця манеты ў Горадні. Заняпад беларуска-літоўскай дзяржаўнасці зырка адлюстраваў той факт, што не ўважалася за самадастатковую прычыну патрэба забяспечання ў сваёй манеце фармальна незалежнага Вялікага княства Літоўскага.

Апошняе з'яўленне здані адносіцца да 1793 года. Рашэнне аб выпуску гэтак званага таргавіцкага талера было прынята менавіта ў Горадні, як і ў выпадку з апошнімі вялікалітоўскімі шастакамі. Аднак, як і ў тым самым выпадку, эмісія была ажыццёўлена не

там, але на ўжо дзейным манетным двары, на гэты раз у Варшаве.

Польска-беларускае гаспадарства на той час дажывала апошнія гады. У пошуках паратунку кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст ініцыюе змены ў закон, якія адбіваюцца ў прыняцці Канстытуцыі 3 траўня 1791 года. У прыватнасці, узмацняецца каралеўская ўлада, статус месцічаў набліжаецца да шляхецкага. Адчуўшы ў новай канстытуцыі ўціск сваіх правоў, частка буйнога магнацтва пайшла на здраду інтарэсам дзяржавы. 14 траўня наступнага, 1792 года (3 траўня па юльянскім календары) сталася адным з найганебнейшых дзён у гісторыі Рэчы Паспалітае. Лідэр праціўнікаў зменаў маршалка Шчасны Патоцкі ў мястэчку Таргавіцы абвясціў пра ўтварэнне рэакцыйнай канфедэрацыі і папрасіў аб вайсковай дапамозе супраць караля Расею. У выніку Станіслаў Аўгуст быў абавязаны асудзіць сойм, на якім была прынятая Канстытуцыя, і ўступіць да Таргавіцкай канфедэрацыі.

Пераможцамі быў зацверджаны праект медаля «Абаронцам Бацькаўшчыны». 5 снежня 1792 года на сесіі канфедэратаў у Горадні выйшаў дэкрэт, які абавязваў манетны двор у прапагандысцкіх мэтах ужываць штэмпелі гэтага медаля для выбіцця талеравай манеты. Гэты талер быў паўнавартасным і адпавядаў па вазе і дабрыні звычайнаму 8-залатоўкаваму талеру РП узору 1787 года. Ён не месціў выяў, а толькі надпісы па-лацінску ў гонар «абывацеляў, што баранілі вольнасці польскія» ад канстытуцыі 1791 года. Неўзабаве вольнасці «польскія», як і ўся «польская» дзяржава, перасталі існаваць.



*Талер таргавіцкі*





*Рябцевич, В.* Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I / Валентин Рябцевич. Тольятти, 1995.

*Какареко, В.* Гродненский монетный двор 1706—1707 гг. / Виктор Какареко // Mennice między Bałtykiem a Morzem Czarnym — Wspólnota dziejów : materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 1998.

Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя : у 2 т. Т. 1. Мінск, 2005.

*Gumowski, M.* Mennica Wileńska w XVI i XVII wieku / Marian Gumowski. Warszawa, 1921.

*Gumowski, M.* Podręcznik numizmatyki polskiej / Marian Gumowski. Kraków, 1914.

*Kakareko, W.* Talar targowicki z 1793 roku / Wiktor Kakareko // Pieniądz pamiątkowy i okolicznościowy — Wspólnota dziejów : materiały z IV Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 2000.

## Змест

Навукова-папулярнае выданне

**Гулецкі** Дзмітрый Уладзіміравіч

**МАНЕТЫ БЕЛАРУСКАЙ ДАЎНІНЫ**

Рэдактар А.С. *Шагун*
Мастак і мастацкі рэдактар *В.Г. Паўлавец*
Тэхнічнае рэдагаванне
і камп'ютэрная вёрстка *Ж.М. Голікавай*
Карэктары *Л.А. Адамовіч, Г.К. Піскунова, Л.К. Сямёнава*

ISBN 978-985-01-0722-0



Падпісана да друку 17.07.2007. Фармат 108×84 1/32. Папера афсетная. Гарнітура «Лазурскі».
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 8,4. Ул.-выд. арк. 6,71. Тыраж 3000 экз. Зак. 1847.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0056828 ад 02.03.2004. 220004, Мінск, праспект Пераможцаў, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, В. Таўлая, 11.

